## Пералом

### 1

Горад спаў, захінуўшыся ў чорнае покрыва халоднай снежаньскай ночы. І ніхто не трывожыў яго сон. Не гулі натужна тралейбусы, не грымелі трамваі, не свяціліся вокны. І толькі рэдкія таксі, што імчалі па сонных праспектах і вуліцах, нагадвалі: жыццё не затухае ні на хвіліну.

Максім спаў трывожным чуйным сном, часта прахопліваючыся і паглядваючы на гадзіннік. У тры гадзіны Максім ускочыў, быццам падкінуты спружынай, ад званка будзільніка. У паветры яшчэ некаторы час вісеў яго прарэзлівы звон. Але патрывожаная цішыня, нібы цёплая вада, зноў мякка і пяшчотна навалілася на Максіма. Спаць! Як хочацца спаць!

Ён нырае пад падушку. І для яго нічога больш не існуе, акрамя гэтага дрымотна-дурманнага стану. Але час збірацца, бо трэба.

Максім высоўвае галаву з-пад падушкі, падымаецца, ідзе мыцца. Падстаўляе прыгаршчы пад халодны струмень, які шумна б'е з крана, і аблівае твар. І вялая дрымота адразу адступае.

Паспешліва апранаецца, запальвае газавую пліту, ставіць на яе чайнік, з хвіліну стаіць, гледзячы, як скачуць сінія языкі полымя.

Мяккі і далікатны дотык да пляча выводзіць яго з задуменнасці. Гэта жонка. Распушчаныя валасы казычуць яго падбародак, хвалямі спадаюць ёй на плечы.

— Надоўга, Максім? — пытаецца яна ціхім голасам і глядзіць на яго. У цёмна-шэрых вачах, з залатымі іскрынкамі, тоіцца трывога.

— Не ведаю, Алёна...

Жонка адхінаецца спярша, потым туліцца яшчэ бліжэй, уздыхае і кажа:

— Я табе снеданне зраблю.

— Не трэба, Ленка.

— Чаму?

— Не хочацца. Пап'ю чаю — і ўсё.

— Які ты ў мяне калючы і яршысты,— гаворыць яна з пяшчотным дакорам.

Выпіўшы чаю, Максім апранае паліто, бярэ шапку, асцярожна, на дыбачках ідзе ў спальню, дзе спіць дачка. Губамі прыціскаецца да яе мяккай шчочкі, да шаўкавістага завітка каля вуха.

— Глядзі, Лена, дачушку.

— Ну, а як жа... Не хвалюйся. Толькі пішы... абавязкова пішы... І сябе беражы...

Вочы яе туманяцца, голас пераходзіць на шэпт, дрыжыць. І яна пытаецца:

— Ты нічога не забыўся?

— Не, здаецца, нічога.

— А томік Ясеніна і Буніна?

— Наўрад ці там знойдзецца на гэта час,— з развагай кажа ён.— Зрэшты, няхай будуць, нясі.

Яна стрымгалоў кідаецца ў пакой.

— Я табе вось цёплыя шкарпэткі падрыхтавала і світэр. Вазьмі, калі ласка,— гаворыць яна вярнуўшыся.

— Ну навошта гэта, Ленка? У арміі не дазволена... Разумееш?

Яна не слухае яго, кладзе цёплыя рэчы і кнігі яму ў рукзак.

— Добра, добра. Дзякуй. Ідзі спаць,— гаворыць ён стрымана.— Не на вайну ж,— і зачыняе за сабой дзверы.

Ідучы па лесвіцы, Максім спрабуе ўявіць сабе бацьку, як ён развітваўся з маці, калі ішоў на фронт. Але ніяк не можа. Маці ніколі пра гэта не расказвала: ві-

даць, каб не трывожыць старую рану, не кранаць адбалелае.

Бацьку Максім не памятаў. Усё, што засталося ад яго,— гэта франтавыя пісьмы ды некалькі фатаграфій у самаробных драўляных рамках, што віселі ў доме маці.

На ўсё жыццё, як асколак у целе, ные ў душы Максіма тужлівая горыч. Часам яна прытуплялася, і ён забываў пра яе, часам з новай вастрынёй і сілай цвяліла сэрца. Ад таго далёкага часу ў памяці Максіма засталіся каменна-суровыя твары вясковых жанчын, выган з сухой травою, якая сівымі барадамі тапырылася на купінах, густы водар палыну каля безымянных магіл ля Дняпра.

Вось і цяпер, развітаўшыся з сям'ёй, хоць і не надоўга, ён зноў адчуў у сабе тугу, быццам удыхнуў даўкі, густа-гаркавы палынны пах.

Навізна першых у яго жыцці, ужо не салдацкіх, а афіцэрскіх збораў вабіла, трывожыла і крыху палохала яго, хоць сам сабе ў гэтым ён не хацеў прызнацца. Недзе там, пакуль яшчэ ў невядомым і незнаёмым яму воінскім падраздзяленні яго чакалі новыя людзі, новыя справы і клопаты, новыя абавязкі. А ў арміі чалавек не належыць сабе. Хоча ён ці не, але становіцца выканаўцам статутаў і загадаў. Гэта жалезная неабходнасць. Інакш армія існаваць не можа. Будзе рыхлай, бязвольнай, некіруемай чалавечай масай.

Нетаропка разважаў Максім. І гэтак жа замаруджана, як падалі-круціліся ў галаве яго думкі, падаўкруціўся камякамі снег. Праз некаторы час ён ужо не падаў, а сыпаўся белым пухам, пышны, густы, на дрэвы, на пустэльныя вуліцы, на дамы. Сняжынкі абляплялі Максімаў твар. Ён радаваўся снегу, зімоваму хараству зямлі, непатрывожанай цішыні ночы. Ішоў хутка, баючыся спазніцца да прызначанага часу. Але не спазніўся — прыйшоў раней за іншых. У заводскім

клубе за сталом сядзеў знаёмы капітан з ваенкамата і адзначаў прыбыццё кожнага. У вялізным паўпустым пакоі яго голас аддаваўся гулкім рэхам.

Максім падышоў, назваўся:

— Александровіч Максім Барысавіч.

— Старшы... лейтэнант? — гартаючы вайсковы білет, чытаў капітан.

— Так точна.

— Чакайце далейшых распараджэнняў.

Максім пахадзіў па фае клуба, затым вярнуўся ў залу, сеў у крэсла, маючы намер падрамаць. Ды дзе там! Адзін за адным ішлі запаснікі, адзначаліся ў капітана і рассаджваліся. Калі залу запоўнілі так, што не заставалася ніводнага свабоднага месца, прыйшоў палкоўнік у шэрай папасе.

Ён загаварыў не спяшаючыся, не гучна, але строга, як манеты чаканячы:

— Таварышы афіцэры! Мы прызываем вас на вайсковыя зборы, каб яшчэ больш удасканаліць боегатоўнасць нашых узброеных сіл. Многія адслужылі тэрміновую службу. А некаторыя і наогул не былі ў арміі... Але ўсе вы тут афіцэры... камандзіры. І гэта накладвае на вас асаблівую адказнасць. Мы спадзяёмся, што вы з гонарам выканаеце свой воінскі абавязак і хутка вернецеся ў свае працоўныя калектывы, да сваіх родных і блізкіх, да сваіх сем'яў.

Прамова палкоўніка была не павучальнай, як гэта часам бывае ў арміі, калі старэйшыя па званню выступаюць перад малодшымі. Ён гаварыў даверліва, як роўны з роўнымі, і Максім адчуў да яго павагу і сімпатыю.

— Таварыш палкоўнік, на які тэрмін нас забіраюць? — спыталі з апошніх радоў.

— Вас не забіраюць, а прызываюць на перападрыхтоўку,— паправіў палкоўнік і адказаў: — На дванаццаць чатыры дні. Магчыма, крыху больш.

— А-а-а, ну тады нічога. Перажывём.

Ухвальна-радасны шумок, нібы вецер, прабег па радах і заціх.

— Колькі нам будуць плаціць?

— Не хвалюйцеся. Добры працэнт ад сярэдняй заработнай платы,— адказаў ваенком.

— Ого! Нават на бутэльку хопіць,— нехта кінуў жартам. Але яго ніхто не падтрымаў.

— Яшчэ пытанні ёсць? — спытаўся ваенком.

— Не!

— Ну, тады, таварышы, шчаслівай вам службы, поспехаў... Праз тры гадзіны вы будзеце ў раёне размяшчэння.

## 2

На досвітку іх прывезлі да шэрай, аблупленай аднапавярховай цаглянай будыніны на краі ні то вёскі, ні то невялікага гарадскога пасёлка, высадзілі з аўтобусаў.

Яны курылі, размаўлялі — бавілі час. Снег, што выпаў ноччу, растаў, зямля раскісла. Золкі сыры вецер рабацініў мутныя лужыны. Шэрае нізкае неба сыпала ўжо дробным, як пыл, дажджом.

Максіму рабілася холадна. І ён наставіў каўнер паліто, прыхінуўся да мокрага плота. Успамінаў тэрміновую, калі вось такой жа халоднай золкай восенню застаяў на варце. Гэта было сем гадоў назад. Многае забылася, сцёрліся ў памяці твары некаторых таварышаў па службе. Але густы пах спальнага памяшкання каравулкі, цвёрдыя драўляныя нары, глухія асеннія ночы захаваліся ў памяці трывала.

Думкі Максіма перапыніў прапаршчык:

— Таварышы афіцэры! Вы зараз пойдзеце ў лазню, пераапранецеся і тады — па падраздзяленнях.

— Навошта нас мыць? Мы толькі што з дому, памытыя.

— Такі парадак, таварышы.

Ён адамкнуў замок на дзвярах будынка, і звыш ста чалавек, якія паспелі ўжо добра замерзнуць, набіліся ў прылазнік і так-сяк расселіся на рыжых велізарных лавах. У прылазніку было холадна, але не сыра. Пахла распараным бярозавым венікам, гаспадарчым мылам, тым спецыфічным моцным устойлівым водарам, які звычайна пануе ў лазні.

Пераапраналіся доўга. У паветры стаяў густы дух зляжалага адзення, сырамятнай шкуры, гуталіну. Адзенне траплялася і новае, і паношанае. Некаторыя не маглі падабраць сабе па назе боты, мундзір або шынель. Паміж афіцэрамі і салдатамі, якія выдавалі амуніцыю, ішла лянотная, бяззлосная сварка.

— Таварышы, трэба боты!

— Які нумар?

— Сорак чацвёрты.

— Няма. Чакай, калі прывязуць новую партыю.

І той плёўся ў прылазнік, нудзіўся ў чаканні новай партыі ботаў.

— Што ты мне, салага, стары шынель даеш, ды яшчэ без пагонаў? — абураўся другі.

— Ты ж партызан. Якая табе розніца — новы ці стары.

— А я можа новы хачу!

— Мала што хочаш!

— Ну і абутак! Зусім ашалелі. Афіцэраў не паважаюць.

Мажны паўнатвары мужчына нудна прасіў:

— Хлопцы, папругу замяніце. Ну хіба вам шкада?

— Навошта табе мяняць?

— Гэта старая, з белай бляхай, а я хачу новую, з жоўтай.

— Не ўсё роўна, ці што?

— Не, не ўсё роўна.

— На́ табе новую папругу.

Максім, не спяшаючыся, падабраў абмундзіраванне, пераапрануўся ва ўсё чыстае, новае, нібы з іголачкі. Вопратку сваю згарнуў, як і ўсе, запхнуў у казённы мяшок, завязаў яго, прымацаваў бірку з дамашнім адрасам і кінуў у кучу такіх жа мяшкоў. І быццам рыцар у латах, адчуў сябе нязграбным, непаваротлівым. Новыя боты здаваліся цяжкімі, нягнуткімі ў падэшве, нібы драўлянымі. Мундзір нязвыкла шчыльна сцягваў плечы і грудзі. Суконны каўнер шыняля раздражняў скуру на шыі, якая прывыкла да мяккай кашулі. Але ў душы радаваўся. Ён, Максім Александровіч, цяпер ужо не толькі гарматны нумар, зараджаючы, і нават не сяржант — камандзір аддзялення, як гэта было ў тэрміновую. Ён камісар, палітычны работнік, чалавек, закліка       ны цэментаваць дысцыпліну воінскай масы. Напаўняць яе адзінай сілай і воляй, выхоўваць і натхняць. Ён афіцэр, аб гэтым сведчаць тры зоркі на пагонах. Максім з патаемным захапленнем і гордасцю паглядвае то на правае, то на левае плячо, нібы баіцца іх згубіць.

Потым іх паставілі ў калону па чатыры, праз кантрольны пункт прапусцілі на тэрыторыю ваеннага гарадка і павялі шырокай прамой дарогай. Злева ад яе, на аднолькавай адлегласці, падобныя як дзве кроплі вады стаялі казармы. Справа размяшчаліся спартыўныя гарадкі, палосы перашкод, макеты розных збудаванняў.

Потым яны звярнулі з дарогі да казармы, дзе былі драўляная непафарбаваная падлога і двух'ярусныя ложкі па абодва бакі. У праходзе казармы іх пастроілі па росту ў дзве шарэнгі. Прыйшло некалькі афіцэраў у званні ад лейтэнанта да падпалкоўніка, пачалі размяркоўваць запаснікаў.

Высокі плячысты маёр, як пасля даведаўся Максім, начальнік афіцэрскіх збораў па прозвішчу Шалы,

стаяў насупраць строю, выкрыкваў прозвішча, званне, пасаду афіцэра.

— Перавозчанка Міхаіл Іванавіч! Старшы лейтэнант!.. Камандзір мотастралковай роты першага батальёна! Два крокі наперад, шагам арш!

Перавозчанка выйшаў са строю, пазнаёміўся з камандзірам батальёна і накіраваўся да месца размяшчэння сваёй роты.

Максім стаяў, пераступаючы з нагі на нагу. Яму надакучыла чакаць. Адольвала стомленасць, хацелася хутчэй даведацца пра сваё месцазнаходжанне. А потым, як бывала ў тэрміновую пасля начной каравульнай службы, заваліцца на цвёрды салдацкі ложак, заснуць моцным здаровым сном.

— Капітан Гайда! Камандзір асобнай зенітнай батарэі! Дзе вы там?

— Я тут, таварыш маёр.

— Падыдзіце, калі ласка, бліжэй і забярыце сваіх людзей.

Капітан сярэдняга росту, гадоў трыццаці, з правільнымі рысамі тыпова сялянскага твару, у бушлаце, крыж-накрыж перахоплены папругамі, са скуранай сумкай на баку, падышоў да маёра, павярнуўся тварам да строю.

— Ціханаў Тарас Дзянісавіч! Лейтэнант! Камандзір узвода зенітнай батарэі,— працягваў маёр.

Са строю выйшаў невысокі лейтэнант у дрэнна падагнаным старым шынялі, з нізка падпяразанай папружкай, у ботах з шырокімі халявамі.

— Лейтэнант! Як вы выходзіце? Што ў вас за выпраўка? Чаму папружка ніжэй жывата з'ехала? Вы што... радзіць збіраецеся? Праз некалькі дзён вам самому давядзецца вучыць салдат,— з дакорам выгаворваў маёр Ціханаву.

Лейтэнант разгубіўся, заліўся чырванню. Нязлосны спачувальны смех ускалыхнуў строй.

— Капітан Гайда! — гучным камандным голасам гаварыў далей маёр.— Агледзьце, адшліфуйце, адрасуйце свайго ўзводнага, каб ён быў падобны на афіцэра, а не...

— Будзе зроблена, таварыш маёр! — весела ўсміхаючыся, адказаў капітан.

— Васіль Уладзіміравіч Мухін. Малодшы лейтэнант! Камандзір узвода зенітнай батарэі.

Чаканячы крок, са строю выйшаў малады хлопец, гадоў дваццаці двух, стройны, падцягнуты, з выдатнай выпраўкай.

— Ну вось, зусім іншая справа,— пахвальна заўважыў маёр.— Адразу відаць, што афіцэр. Тэрміновую даўно закончыў?

— Два гады назад,— задаволены пахвалой, бойка адказаў Мухін.

— Александровіч Максім Барысавіч, старшы лейтэнант! Намеснік камандзіра зенітнай батарэі па палітчасці.

Максім выйшаў са строю на два крокі, павярнуўся кругом.

— Пазнаёмцеся з камандзірам і ўзводнымі,— ветліва сказаў маёр.

Гайда прывітаўся з ім, як з роўным, не выдзяляючы, не падкрэсліваючы сябе. Максім адчуў, што быццам яны ўжо даўно былі знаёмы і добра ведалі адзін аднаго.

— Вось што,— сказаў капітан,— хвілін пятнаццаць пагутарым і разыдземся. Сёння вам трэба добра адпачыць.

Яны прайшлі ў ленпакой, селі. Гайда дастаў спісы, зверыў яшчэ раз іх імёны, дамашнія адрасы, месцы работы, пацікавіўся сямейным становішчам, спытаў: хто, калі і ў якіх войсках служыў.

— Значыць, двое з вас служылі тэрміновую... Акрамя Ціханава,— сказаў, хаваючы ў сумку спытак, ка-

пітан Гайда.— Цяпер гэта вам асабліва спатрэбіцца. Армейскі вопыт у вас ёсць. Камандзірскі прыходзіць з цягам часу. А навыкі набудзеце. Галоўнае, што вы знаёмы з псіхалогіяй салдата.

— Вы лічыце, што існуе псіхалогія салдата, Віталь Захаравіч? — спытаўся Максім, назваўшы яго па імю і па бацьку.

— Я лічу, што існуе псіхалогія салдата, як і псіхалогія афіцэра. На прыкладзе салдат нашай батарэі за час збораў вы як палітычны работнік у гэтым самі пераканаецеся.

Максім задумаўся, яшчэ не разумеючы ні намёку камандзіра, ні скрытага сэнсу яго слоў.

— Таварыш капітан, растлумачце, чым мы будзем займацца на зборах? — папрасіў Мухін.

— Мэту і задачы вашага знаходжання я растлумачу вельмі коратка. Вы, афіцэр запасу, пройдзеце фарсіраваную камандзірскую падрыхтоўку. Праз некальскі дзён пад вашу каманду дадуць салдат. Вам прыйдзецца падрыхтаваць іх да зімовых ваенных вучэнняў. Скажу адно: вучэнні будуць не лёгкімі. Ад таго, як мы загартуем людзей, арганізуем і навучым іх, будзе залежаць баяздольнасць нашай часці, захаванасць тэхнікі і жыцця людзей.

— Які склад нашай батарэі? — спытаўся Ціханаў.

— Як і належыць па статуту. Аб падрабязнасцях даведаецеся ў час заняткаў,— адказаў капітан Гайда.

## 3

Максім яшчэ да наступлення адбою лёг у ложак, вузкі, з цвёрдым спружынным дном, спартанскі ложак, прызначаны не для асалоды, а для адпачынку. І тыя, хто спяць на ім, засынаюць без пачварных сноў. А раніцой устаюць без галаўнога болю, бадзёрыя і свежыя.

Спаў дрэнна, як заўсёды спяць першы раз на новым месцы. Распешчаны дамашняй утульнасцю, добрай ежай, адсутнасцю фізічнай нагрузкі, у першую ноч пачуваў сябе рыбай, выкінутай з вады.

Прачнуўся і здзівіўся. Ніхто не будзіў па камандзе «пад'ём!», не строіў, не выводзіў на зарадку, не даваў загаду падмятаць падлогу, засцілаць пад шнур ложак. А галоўнае — не чулася галёкання старшыны. Старшына, вядома, быў, але з'яўляўся рэдка, больш сядзеў у капцёрцы. Дабрадушны, спакойны, ён прыходзіў у казарму, каб пагутарыць, выкурыць цыгарэту.

— Добры дзень, таварыш старшына! — павітаўся Максім, увайшоўшы ў капцёрку.

— Добры дзень, таварыш старшы лейтэнант. Што вы хацелі? — паслужліва спытаў старшына.

Паслужлівасць была не дагодлівая, а чалавечая, шчырая, што ідзе ад прыроднай дабраты. І гэта «таварыш старшы лейтэнант» адносілася як бы не да яго, Максіма, які яшчэ не прывык ні да сваёй афіцэрскай формы, ні да звання. Здавалася, зараз голас старшыны з тэрміновай службы спытае строга і рэзка: «Радавы Александровіч! Чаму не ў страі?»

— Што вам трэба? — перапытаў старшына.

— Калі можна — кавалак прасціны для каўнерыкаў,— папрасіў Максім, усміхнуўшыся сваім думкам, і адзначыў, што і вонкавы выгляд старшыны, і яго мітусліва-дзелавая рухавасць, і — заклапочана-сумныя вочы ніяк не нагадвалі вайсковага чалавека. Сустрэць яго дзе-небудзь у полі, у час сяўбы ці жніва, пагутарыць аб зямлі, аб надвор'і, аб ураджаі — там яго месца, там ён быў бы дарэчы.

— Вось, калі ласка, таварыш старшы лейтэнант. Старая, але свежая і моцная. Каўнерыкі будуць добрыя.

— Дзякуй. Мне надоўга хопіць.

— Бярыце больш. Вось і эмблемы ў мяне ёсць... і пагоны, і зорачкі.

— Пакуль не трэба. Дзякуй. Вас як завуць, таварыш старшына?

— Кузьма... Кузьма Савельевіч. У арміі неяк не прынята, дык я ўжо стаў забываць сваё імя па бацьку.

— А мяне — Максім,— і падаў яму руку.

— А імя па бацьку, прабачце, як?

— Барысавіч. Гэта не абавязкова.

— Як жа, Максім Барысавіч? Вы афіцэр, і проста па імені я не магу вас называць. Неяк нязручна.

— Ды нічога. Не так і важна,— усміхнуўся Максім.

Ад размовы са старшыной у сэрцы пасвятлела, як бывае заўсёды ад кантакту з чалавекам чулым, добрым, шчырым.

Да снедання Максім падшыў каўнерык, пагаліўся, дастаў з рэчавага мяшка томік Буніна, пачаў чытаць. Афіцэры гулялі ў шашкі і шахматы, чыталі кнігі, газеты, курылі, размаўлялі.

Неўзабаве прыйшоў маёр Шалы. Пастроіў, праверыў па спісу і павёў на снеданне. У сталоўцы — усё той жа армейскі парадак. Алюмініевыя міскі, талеркі, лыжкі. Па краях сталоў бачкі з першымі і другімі стравамі, пасярэдзіне — вялікімі лустамі нарэзаны хлеб. Адзін бярэ палонік і па чарзе накладвае кожнаму грэцкую кашу. Другі дзеліць кавалачкі цукру на дзесяць роўных кучак. Трэці разлівае ў конаўкі чай. А пры дзяльбе масла ледзь не спрэчка адбылася:

— Дзяліце масла!

— Я не ўмею.

— Я не буду.

— Давайце я,— пагаджаецца Максім,— толькі не ныць, калі абдзялю каго.

— Згодны, чаго там!

Максім дастае сцізорык, прыкідвае на вока, як раз-

дзяліць на дзесяць порцый, спрытна крамсае жоўты брусок і прапануе таварышам.

Ядуць па-мужчынску спорна і хутка. Менавіта ядуць, а не манернічаюць.

Максім паеў раней іншых і сядзеў у чаканні каманды: «Батарэя, устаць!» Але каманды не было. Да іх, афіцэраў, яна не пасавала. І старшына тут не хадзіў паміж сталамі, наглядаючы за парадкам, не рабіў нікому заўваг. Той, хто пад'еў раней, падымаўся і выходзіў самастойна, без строю.

Пасля снедання маёр Шалы пастроіў афіцэраў і колькі часу хадзіў перад строем з хітравата-вясёлай усмешкай на твары, быццам трымаў толькі аднаму яму вядомую тайну.

Высокі, шыракаплечы, шчыльна аперазаны рамянямі, ён увасабляў у сабе тую сілу, якая міжволі падначальвае салдата, прымушае яго жыць разам з камандзірам адзінай мэтай і імкненнем.

Па вопыту тэрміновай службы Максім ведаў, што менавіта такія грубаватыя афіцэры падабаюцца салдатам. І не толькі падабаюцца. Іх любяць, іх паважаюць. За імі салдат пойдзе ў агонь і ў ваду.

— Таварышы афіцэры, падраўняйцеся. Забылі службу, забылі... Строй, як крывая каўбаса. Трэба будзе страявой заняцца. Раўняйсь! Смірна! Вольна!.. Дрэнна, таварышы афіцэры, дрэнна... Усім зашпіліць каўнерыкі,— павысіў голас маёр.— Расхлісталіся, як у гасцях.

На тварах афіцэраў паказаліся ўсмешкі. Але пацягнуліся да каўнерыкаў. Зашпіленыя на верхні гузік, яны непрывычна, да ўдушша, сціскалі шыі.

— А вы, таварыш малодшы лейтэнант? Чаму не зашпілілі каўнерык? — звярнуўся маёр да тоўстага ружовашчокага афіцэра.

— Не сыходзіцца, таварыш маёр.

— Вы паглядзіце на яго?! Не сыходзіцца! Відаць, цешча ў цябе добрая. Блінамі раскарміла, га?

— Не, таварыш маёр. Халасты я.

— Тады жывот чаму адгадаваў? Папружка вунь як з'ехала, штаны зваляцца...

Строй затросся ад дружнага рогату.

Лейтэнант нікольві не пакрыўдзіўся, толькі твар яго пачырванеў.

— На мясакамбінаце працую...

— Відаць, на каўбасу налягаеш?

— Гэта я люблю...

— І колькі, калі не сакрэт? — маёр глядзеў на яго са здзіўленнем.

— Два кілаграмы...

— У такім выпадку магу вам сказаць адно: армія — гэта не мясакамбінат. Дарэчы, як ваша прозвішча?

— Бокаў... Яўген Бокаў.

— Жарты жартамі, таварышы афіцэры,— сур'ёзна заўважыў маёр,— а патрабаванні застаюцца армейскімі.

Ён перастаў усміхацца, заклаў рукі за спіну, гаварыў далей:

— Я камандзір танкавага батальёна. Часова назначаны начальнікам збораў. Прашу вас выконваць усе статутныя патрабаванні, абавязковыя як для салдат, так і для афіцэраў. Перш за ўсё вонкавы выгляд. Памятайце, што вы афіцэры — і салдаты будуць браць з вас прыклад. За межы гарадка без майго дазволу не выходзіць! Спіртнога не ўжываць!.. У вольны час да вашых паслуг Дом культуры, бібліятэка, шашкі, шахматы... Пытанні будуць?

— Сямейных дадому адпускаеце?

— Калі не будзеце парушаць дысцыпліну.

Максім сам сабе падумаў: «Хіба афіцэр можа парушаць воінскую дысцыпліну?» Хоць ведаў, што па-

рушаюць і — нясуць за гэта пакаранні. І на сваё ўласнае пытанне адказаў з непахіснай катэгарычнасцю: «Не, афіцэр не можа, не мае права, не павінен парушаць. Інакш ён не афіцэр, не камандзір. Салдаты за такім не пойдуць».

— Яшчэ пытанні будуць?

— Не.

— Разыдзіся! Узяць табурэткі і садзіцца... тут, у казарме. Зараз прыйдзе сам камандзір часці, яго нампаліт і намеснік па тылу.

Чакаць доўга не давялося. Толькі расселіся, як маёр Шалы крыкнуў на ўсю казарму:

— Смірна-а-а!

— Вольна, вольна,— сказаў, уваходзячы, сярэдніх гадоў палкоўнік са строгім і валявым тварам. Нават, як падалося Максіму, прыгожым. «Камандзір»,— падумаў ён і не памыліўся. Суправаджалі яго каржакаваты, гадоў трыццаці пяці маёр і падпалкоўнік, сівавалосы, бледнатвары, з белымі калматымі брывамі.

Кожны з прыйшоўшых гаварыў канкрэтна і па сутнасці. Іх слухалі ўважліва, а потым задавалі пытанні. З пачутага Максім зрабіў вывад: на прызваных афіцэраў кладзецца ўся адказнасць за правядзенне маючых адбыцца баявых вучэнняў. Максіма гэта трывожыла і непакоіла. І ён зноў звяртаўся да самога сябе — з пытаннямі: ці справіцца з пастаўленай задачай? Ці зможа стаць менавіта тым палітработнікам, якім павінен быць? Ні спецыяльных камандзірскіх ведаў, ні вопыту ў яго не было. Праўда, за плячыма тры гады салдацкай і год сержанцкай службы. Але тады ён быў выканаўцам чужой волі. Ад яго патрабавалася толькі добрае веданне тэхнікі. Цяпер жа жыццё вылучала Максіма на ролю камандзіра. Ён адчуваў сябе чалавекам, які зайшоў у незнаёмы лес. Здаецца — ведае дрэвы, сцежкі, палянкі, а выбрацца на галоўную дарогу не можа...

## 4

Тыя некалькі дзён, што адвялі афіцэрам на перападрыхтоўку, прайшлі хутка. Максіму шмат у чым давялося перавучвацца. Калі гармату, дзе ён некалі камандаваў разлікам, ведаў добра, мог прадбачыць любы яе капрыз, адрамантаваць любую няспраўнасць, дык у зенітцы ён зусім не разбіраўся, нават палохаўся яе. Прыйшлося тэрмінова вывучаць і матэрыяльную частку, і яе баявыя ўласцівасці.

Пасля снедання капітан Гайда, Ціханаў, Мухін і ён, Максім, ішлі ў бокс, расчахлялі зенітку, здымалі замок, па чарзе разбіралі і збіралі яго. Кожны разумеў: каб навучыць салдата, трэба дасканала вывучыць самому.

Былі і іншыя заняткі.

Максім прагна лавіў усё, пра што гаварылася. Запісваў, перачытваў газеты і брашуры, штудзіраваў спецыяльную літаратуру. Паступова ён больш блізка знаёміўся з узводнымі, наладзіліся творча-сяброўскія адносіны з капітанам Гайдай.

Аднойчы ў аўтапарку, калі яны, з рукамі, па локаць выпэцканымі маслам, прыселі на кароткі перакур, Максім спытаў капітана:

— Віталій Захаравіч, я ніяк не магу зразумець практыку такога прызыву.

— Што вы маеце на ўвазе?

— Мяне прызвалі ў той род войск, у якім я не служыў. Я ж нічога не кумекаю ў гэтай гармаце. Праўда, цяпер, дзякуючы вам, я хоць што-кольвечы ўразумеў.

— На жаль, вы маеце рацыю. Ваенкаматы часта даюць нам людзей не па профілю. Іх нанава даводзіцца перавучваць. Мы пакуль не ведаем, каго нам дадуць цяпер. Магчыма, будуць і такія, хто ні разу ў вочы не бачыў зенітнай гарматы.

— Як жа так? Няўжо камандаванне не ведае пра гэта? — спытаўся Ціханаў.

— Чаму? Ведаюць,— перакананаўча адказаў Гайда.

— А калі заўтра ў бой? — спытаў Максім.

— Ты, нампаліт, занадта глыбока бярэш! — з фамільярным аптымізмам заўважыў Мухін.— Калі заўтра ў бой, думаю, прымушаць нікога не трэба будзе. Кожны разумее сваю асабістую адказнасць.

— Усе вы гаворыце справядліва,— заўважыў Гайда.— Але не зусім. Аптымізм, заснаваны на шапказакідальніцкай упэўненасці, акрамя шкоды, нічога не прынясе. Салдата трэба псіхалагічна, фізічна і маральна падрыхтаваць да баявых дзеянняў, навучыць яго кіраваць самай складанай тэхнікай. Бываюць выпадкі, калі салдат першага года службы баіцца аўтаматнага стрэлу, ад страху не можа сесці за гармату. А вось папрацуеш з ім — і гэты страх праходзіць.

— Як вы думаеце, ці зможам мы падрыхтаваць асабовы састаў да вучэнняў? — спытаў Ціханаў капітана.

— Не толькі зможам... Мы абавязаны. Я разумею вашу трывогу і заклапочанасць. Вы не служылі, і ў вас не стае вопыту, не ведаеце салдацкага побыту, армейскага асяроддзя, той спецыфікі ваеннага жыцця, з якой складаецца армія. Вось вам і належыць усё гэта набыць. Інакш вы не зможаце ўплываць на салдата, не заслужыце яго павагі. Салдата трэба пераконваць і словам, і справай, і асабістым прыкладам. Афіцэрам стаць лёгка, камандзірам — цяжка.

— Так, вы кажаце праўду,— не адразу адказаў Ціханаў, як бы адчуваючы сваю віну перад капітанам за тое, што не служыў у арміі.

— Не засмучайцеся,— падбадзёрыў Гайда.— Калі што — паможам. І я, і Мухін, і нампаліт. Упэўнены, што справіцеся.

— Не перажывай, Тарас Дзянісавіч,— азваўся Му-

хін, скіроўваючы ўсё на жарт.— Знойдзем мы табе кабету...

Гайда і Максім засмяяліся. А Ціханаў глянуў на Мухіна пагардліва і, адвярнуўшыся, пакрыўджана сказаў:

— У цябе што ў галаве, тое і на языку. Балбатун.

— Эх ты, Чабурашка! Я ж жартам, а ты ўсур'ёз,— вінавата-спачувальна зазначыў Мухін.

Па дарозе ў казарму пра спрэчку забыліся. Але гэта смешная і бяскрыўдная мянушка Чабурашка, няўцям кінутая Мухіным, трывала прыліпла да Ціханава.

Яны ішлі ў казарму паўз доўгія мураваныя боксы, у якіх знайшлі прытулак цягачы, бронетранспарцёры, танкі, гарматы, гатовыя па першаму клічу, па першай камандзе — «Трывога!» — сарвацца з месца і выйсці на зыходны рубеж.

Але цяпер усё навокал дыхала мірным спакоем. Ды і сам ваенны гарадок напамінаў Максіму вялікую сядзібу, дзе ўся рупная работа скончана і людзі, як кажуць, падчышчаюць рэшткі, каб у гатоўнасці стрэць зіму.

Вось паказалася група салдат з рыдлёўкамі і знікла за складам. Двое днявальных каля казармы падмяталі дарожку. Прайшлі дзяўчаты ў вайсковай форме з кніжкамі і часопісамі ў руках, гучна размаўляючы і смеючыся. Чуўся стук сякеры. Салдаты і афіцэры, якія вярталіся з аўтапарка, нагадвалі Максіму заводскіх рабочых, якія толькі што скончылі працоўную змену.

А над ваенным гарадком стаяў ветраны марозны снежань, які моцна вымаразіў дарогу, прысыпаў яе дробным сухім снегам. Церушыў снежны пыл. Над гонкімі бярозамі з карканнем кружыліся вароны.

Вечарамі ў казарме было весела. Да гэтага часу амаль усе пераразнаёміліся і ўжо многа ведалі адзін

пра аднаго. Займаліся хто чым: забівалі «казла», гулялі ў шахматы, шашкі, чыталі кнігі, газеты. Былі і такія, што ў кутку казармы пісалі лісты да родных, блізкіх, да каханых дзяўчат, перачытвалі тыя, што атрымалі ад іх. Адным словам, кожны праводзіў свой вольны час так, як прывык дома.

Максім уважліва прыглядаўся да сваіх узводных. Рабіў гэта не ад жадання прыкмеціць нешта нядобрае. Яшчэ з тэрміновай службы ведаў, як важна, каб побач з табой быў не так званы гарматны нумар, а перш за ўсё таварыш, сябар, на якога можна разлічваць, як на самога сябе. І ва ўзводных ён хацеў бачыць не бязлікіх нявопытных афіцэраў, а сваіх памочнікаў і таварышаў.

Мухіна ж ён разгадаў адразу. Таварыскі, бесклапотна-вясёлы. Адзін з тых, хто лёгка прыжываецца ў любым асяроддзі, любой кампаніі. «Камандаваць, вядома, зможа,— з узводам, відаць, таксама справіцца,— разважаў Максім.— Вось толькі ці зможа дацягнуцца да свайго лейтэнанцкага звання? Сваёй свядомасцю, сваім розумам, ведамі? Не растварыўся б у салдацкай масе, прыстасоўваючыся, прыладжваючыся да яе». Трывожыла толькі адно: да справы Мухін ставіўся без належнай увагі.

Неяк пасля вячэры Максім падсеў да яго на ложак і міралюбна прапанаваў:

— Давай пагутарым, Васіль.

— На лірыку пацягнула? — Мухін павярнуўся на спіну, заклаў за галаву рукі.

— Ды не... не на лірыку, на сур'ёзную размову.

— Што ты хочаш сказаць? — з адценнем фамільярнасці спытаў той.

І па гэтай фамільярнасці Максім зразумеў: узводны не хоча прызнаваць у ім старшага па званню і пасадзе.

Давялося мабілізаваць волю і карэктнасць выхаванага чалавека. Таму ён спакойна працягваў:

— Васіль, ты бываеш часта не ў форме... І гэта заўважана ўсімі.

— Ну і што? Хіба ж не можа чалавеку часам быць дрэнна?

— Я не хачу, каб ты падаваў кепскі прыклад.

— Хопіць табе, нампаліт! — незадаволена адмахнуўся Мухін.— Я ж не салага першага года службы! Нас прызвалі на месяц, і праз месяц мы адсюль паедзем.

— Не тое гамоніш,— заўважыў Максім спакойна.

— А што ты мне загадаеш гаманіць?

— Мы афіцэры перш за ўсё.

— Ха-ха-ха! Афіцэры! Рассмяшыў... Цікава, што ты мне скажаш дома, калі мы з табой выпадкова стрэнемся ў піўной!

— Я з прыемнасцю сяду з табой за стол і вып'ю за тваё здароўе. А цяпер хачу, каб мае ўзводныя спраўляліся са сваімі абавязкамі як мае быць.

— Мае... узводныя...— з'едліва перадражніў Мухін.— Ты лепш спраўся са сваімі. І потым, ведаеш, нампаліт, я падпарадкоўваюся камандзіру батарэі, а не табе.

— Ты дарэмна на мяне крыўдуеш,— мякка, па-сяброўску працягваў Максім.— Мне ты можаш не падпарадкоўвацца. Але ты павінен падпарадкоўвацца справе, дзеля якой нас прызвалі.

— Паглядзім, нампаліт, паглядзім. У нас яшчэ ўсё наперадзе,— і адвярнуўся.

Максім пакрыўдзіўся, але зразумеў, што ўзводнага яму пераняць будзе не лёгка.

Ад Ціханава было іншае ўражанне. Спіртнога не ўжываў, не курыў. З казармы нікуды не выходзіў, амаль ні з кім не сябраваў. У вольны час, прылёгшы на ложку, чытаў. Часам гуляў у шахматы,— маўклі-

ва, засяроджана. Ці падыходзіў да групкі афіцэраў, моўчкі слухаў іх гаману, не ўмешваючыся ў размову. Іншы раз, адклаўшы кнігу, надоўга задумваўся. Аб чым думаў гэты ціхі маўклівы чалавек? Што яго трывожыла і хвалявала? Гэтага Максім не ведаў. І прыйшоў да высновы, што Ціханаў чалавек не просты.

Аднойчы перад адбоем, калі яны ляжалі на ложках, відаць, маючы патрэбу пагаварыць з кім-небудзь, Ціханаў азваўся першым:

— Чытаю вось Горкага. Дакладней, перачытваю і думаю: былі ж людзі, якія шукалі сэнс жыцця. Імкнуліся зразумець што да чаго. Пакутавалі над пытаннямі быцця. Цяпер жа некаторых нічога не хвалюе. Жывуць інертна. Можна сказаць не жывуць, а існуюць, больш ганяюцца за забавамі. І ніхто з іх не дакарае сябе: навошта? Чаму? Як далей? Што вы на гэта адкажаце, нампаліт?

— У гістарычным і сацыяльным плане,— падумаўшы, пачаў Максім,— многае змянілася. Пра гэта цяпер і пішуць, і гавораць. Век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Нават біялагічна чалавек пачаў жыць хутчэй. Вядома ж, большасць людзей жыве патрэбамі і клопатамі дня, не думаючы пра будучае.

Ціханаў прыўзняўся, павярнуўся тварам да Максіма, утаропіўся ў яго запытальным позіркам. Той глянуў у яго смуглявы, з няправільнымі рысамі твар і ўспомніў мянушку Мухіна «Чабурашка». Шырока пастаўленыя шэрыя вочы, адтапыраныя вялікія вушы, кароткія чорныя валасы на галаве — сапраўды нагадвалі таго бяскрыўднага добрага Чабурашку, якога часта бачыў на экранах тэлевізара ў перадачах для дзяцей.

— Як жа не думаць пра будучае,— як бы пытаўся ён ў самога сябе.— Вядома, сучасная разнавіднасць абывацеля не думае пра будучае. Яго трывожаць толькі надзённыя пытанні. Але ёсць яшчэ нямала людзей,

для якіх лёс планеты — як лёс маці ці сына. Гэта тыя, хто імкнецца не мець, а быць.

Ён гаварыў задуменна, спакойна. Гамонка яго цякла ціха, роўна, з прастуднай хрыпатой, ён сам нібы прыслухоўваўся да свайго голасу ці збоку назіраў за яго цурчаннем.

— Спрадвеку чалавек імкнуўся да міру, а заканчваў вайной,— гаварыў Максім.— А чаму так выходзіць — не ведаю. Няўжо людзі не разумнеюць?

— У мяне ад гэтых пытанняў іншы раз пухне галава,— падхапіў Ціханаў.— Вытлумачыць, вядома, заўсёды можна. Сённяшні стан свету мне нагадвае вулкан, які заснуў на нейкі час. Рана ці позна ён можа ўскалыхнуцца, забурліць, узарвацца — і пацячэ па планеце вогненная лава, разбураючы і спапяляючы ўсё на сваім шляху. Але ж я не хачу гэтага!.. І вы, нампаліт, не хочаце. І ніхто гэтага не хоча! Дык што ж тады атрымліваецца? Чаму адзін, два, тры, няхай кучка людзей — могуць, як вогнішча, запаліць планету? Чаго варты мае намаганні, мае думкі, мая праца, калі я не магу нічога змяніць?.. І наогул — чаго варты сам чалавек, калі яму суджана абараняцца ад нападу або самому нападаць на іншых? Для чаго ён нараджаецца, прыходзіць на зямлю?..

Ціханаў быццам не гаварыў, а дапытваўся — усхвалявана, з надрыўна-горкім болем і расчараваннем. Ён, нібы задзірысты школьнік, панастаўляў свайму настаўніку пытанняў і чакаў ад яго зразумелых і ясных адказаў. Але Максім не настаўнік, не прарок, не мудрэц. Ён не можа адказаць Ціханаву, бо не адказ яму патрэбен, а тая адзіная ісціна, па законах якой усё рухаецца, нараджаецца, ствараецца.

— Вы, здаецца, гісторык? — счакаўшы, спытаў Максім.

— Гісторык... Кандыдат гістарычных навук... А працую слесарам на заводзе.

— Так, але ж вы маглі б выкладаць... Мне неяк дзіўна гэта чуць... Кандыдат гістарычных навук, і раптам — слесар.

— Не здзіўляйцеся. Магчыма, я вам і раскажу, падзялюся сваімі думкамі. У кожнага чалавека ёсць свая канцэпцыя, свая філасофія жыцця. У мяне яна таксама ёсць. Вось я і прытрымліваюся яе.

— Эй, вы, філосафы! Хопіць вам, спаць пара! — крыкнуў нехта з далёкага кута.

— Канчайце балаганіць! Вы ў арміі, а не на дыспуце!

— Гэта Чабурашка казкі нампаліту расказвае,— насмешліва, гучна, каб усе чулі, кінуў Мухін.

Сям-там засмяяліся. Ціханаў нічога не адказаў, павярнуўся на правы бок, пажадаў Максіму спакойнай ночы і з галавой накрыўся коўдрай.

Максім яшчэ доўга не мог заснуць.

## 5

У мітусні будняў праляцеў тыдзень. Перападрыхтоўка афіцэраў закончылася. У панядзелак трэба было прыняць салдат, памыць у лазні, абмундзіраваць, размеркаваць па падраздзяленнях.

Напярэдадні афіцэры атрымалі звальненне і раз'ехаліся па хатах, але не ўсе. Застаўся і Максім, хоць капітан Гайда прапаноўваў яму з'ездзіць дадому. Не хацелася цягнуцца туды і назад электрычкай, душыцца ў перапоўненых аўтобусах, дабіраючыся ў далёкі мікрараён, каб усяго толькі на некалькі гадзін адчуць радасць сустрэчы з сям'ёй, а потым — зноў перажыць растань. Ён напісаў жонцы пісьмо.

Гэты адзіны дзень ён вырашыў скарыстаць як захочацца. Да абеду ў гарнізонным доме афіцэраў паглядзеў кінафільм, у чытальнай зале бібліятэкі пагартаў часопісы і газеты. У другой палавіне дня схадзіў

у гарадскую лазню, у ахвоту пахвастаў сябе венікам. Бадзёры, у добрым настроі, пасля вячэры раней звычайнага лёг спаць.

На наступны дзень з раніцы ў суправаджэнні афіцэраў і сержантаў пачалі прыбываць запаснікі. Гэта былі маладыя хлопцы з напускной заліхвацкай бравадай і весялосцю на тварах. Некаторыя неахайна апранутыя, з доўгімі, скамечанымі космамі, добра падпітыя. Узбударажаныя, узлахмачаныя, свавольныя і задзірыстыя, з рукзакамі, рэчавымі салдацкімі мяшкамі і сумкамі або саквяжамі, яны вельмі нагадвалі Максіму беспрытульных з кінакарціны «Пуцёўка ў жыццё», якіх сабралі для перавыхавання і далучэння да працы.

— Вы адкуль, хлопцы? — усміхаючыся, спытаў Максім у тых, што стоўпіліся ля прахода ў казарму.

— Мясцовыя мы.

— Ну і як? — падышоў бліжэй Максім.

— Ды што там?

— Першы год замужам, ці што?

— Не прывыкаць.

— З месяц пакантуемся, адпачнём — і зноў дадому.

— Адпачываць наўрад ці давядзецца,— з дакорам сказаў Максім.

— Як дзе, а ў арміі, было б жаданне, правятрыцца можна.

Новыя людзі ўліваліся ў групу, якая — быццам камяк снегу — хутка расла, павялічвалася, ператвараючыся ў вялізную масу — натоўп. Хлопцы акружылі Максіма, кідалі яму розныя пытанні, але пачціва, з павагай:

— Даўно вы тут, старшы лейтэнант?

— Як кармёжка?

— Да дзяўчат пускаюць?

— Магазін паблізу ёсць?

— Колькі тут пракантуемся?

Максім ледзь паспяваў адказваць. Потым з'явіўся маёр і загадаў усім заходзіць у казарму. Натоўп калыхнуўся, выцягнуўся ў доўгую лінію, паплыў у дзверы. Як быццам яго ўсмоктвалі або наматвалі на нешта. У доўгай, метраў на сто казарме падрыхтаваліся да прыёму папаўнення. Усе адсекі шчыльна запоўнілі двух'яруснымі ложкамі, расклалі на іх матрацы, падушкі, заслалі свежымі прасцінамі, павесілі ручнікі, расставілі табурэткі, для шынялёў паставілі вешалкі. У некалькіх свабодных адсеках ляжалі боты, шынялі і іншае начынне з салдацкага абмундзіравання. Прызыўнікі ланцужком рухаліся па праходзе, атрымлівалі па сваёй камплекцыі ўсё неабходнае і ля выхада разбіваліся ў падраздзяленні. Афіцэры разводзілі салдат у загадзя падрыхтаваныя класы, кабінеты, ленінскія пакоі і куткі.

Работы ўсім было шмат. Усюды патрабавалася дакладнасць, аператыўнасць, яснасць. Гайда, Александровіч і Ціханаў збіваліся з ног, нават не пайшлі на абед — не было ні хвіліны вольнага часу. Мухін са звальнення спазніўся і прыехаў бесклапотна-вясёлым, падпітым. Ён нешта доўга і незразумела тлумачыў камандзіру батарэі.

— Вы дрэнна сябе паводзіце,— з дакорам сказаў яму Ціханаў.— Мы тут павінны працаваць у пяць рук, а вы разгульваеце. Так я гавару?

— Спазніўся я, разумееце?..— нахабна пасміхаючыся, адказаў Мухін.

— Проста гэта непрыстойна з твайго боку! — узлаваўся Максім.

— Ды зразумей ты, нампаліт... У сяброў сваіх быў, узялі крыху, вось і спазніўся на электрычку. Адным словам, сур'ёзная прычына.

— Ну, а цяпер ты можаш працаваць? — спытаўся Ціханаў.

— Магу, Чабурашка, магу,— няўпэўнена трымаючыся на нагах, адказаў Мухін.

— Не смяшы нас,— Максім паглядзеў на яго з пагардай.— Ідзі спаць і не трапляйся нікому на вочы... Сорам! Ты ж афіцэр!

Мухін нічога не адказаў, павярнуўся і паплёўся прэч.

А ў казарме стаяў сапраўдны гармідар. Нехта прасіў большых ботаў, нехта патрабаваў другі шынель, нехта клянчыў замяніць абмундзіраванне. Пад канец дня высветлілася, што многага не хапіла. І больш за ўсё шынялёў, шапак і ботаў. За імі адразу ж паехалі на склад. Але там адбылася нейкая замінка, і машына доўга не вярталася. Застаўшыся без ботаў, некаторыя сядзелі або ляжалі тут на ложках у казарме, апетытна знішчалі дамашні харч. Тых, каго пераапранулі, вадзілі па чарзе абедаць у салдацкую сталовую.

Калі зенітную батарэю накармілі, а потым пастроілі, каб удакладніць, каму чаго не хапае, пачаліся скаргі:

— Таварыш капітан, у мяне боты малыя, ногі ціснуць, стаяць не магу.

— У мяне шапка на галаву не лезе.

— А мне шынель далі без пагонаў і хлясціка.

— А мне рукавіцы парваныя... Вось паглядзіце.

Капітан слухаў уважліва, не перабіваючы. Калі ўсе прыціхлі і супакоіліся, ён сказаў спакойным, роўным голасам:

— Таварышы, не хвалюйцеся. Складзіце спіс, каму чаго не хапае, мы заменім.

Строй распусцілі, спіс склалі і аддалі капітану Гайдзе.

Гайда хутка вярнуўся, забраў з сабой тых, хто быў у спісе, і павёў за сабой. Салдаты вярнуліся задаволеныя.

Размяшчаліся хто як мог, прыводзілі сябе ў на-

лежны парадак: прышывалі да гімнасцёрак падкаўнерыкі, да шынялёў хлясцікі і пагоны, да штрыфляў прыкручвалі эмблемы. Да кожнага вярнулася прафесіянальная салдацкая гордасць. Ніхто не хацеў выглядаць горш за іншых.

Але пад вечар здарылася надзвычайнае. У зенітнай батарэі не аказалася матрацаў, падушак, прасцін і коўдраў.

Аб здарэнні паведамілі ў штаб. Прыйшлі камандзір часці, нампаліт і начальнік штаба. Знайшлі намесніка часці па тылу падпалкоўніка Мяцельскага. Той абяцаў тэрмінова разабрацца і прыняць меры.

Стомленыя за дзень людзі галдзелі і спрачаліся. Максім падышоў да нампаліта часці:

— Таварыш падпалкоўнік, што людзям сказаць?

— Пастройце батарэю. Я сам пагавару.

Строіліся нехаця, марудна, нібы не ўмелі.

Нампаліт часці пачаў тлумачыць салдатам, што адбылося непаразуменне, што ён абяцае разабрацца і пакараць вінаватых.

Сярэдняга росту салдат з хударлявым, вострым тварам і доўгімі раскудлачанымі валасамі выйшаў з пярэдняй шарэнгі:

— Дык навошта вы нас сюды сабралі?!. Паглядзіце, што нам выдалі! Матрацаў у вас няма?!. Падушак, коўдраў?!. Вы ж людзей прымаеце...

— Як ваша прозвішча? — спытаўся падпалкоўнік без ценю крыўды, абразы або нездавальнення ў голасе.

— Бязродны! Леў Бязродны.

— Дык вось, таварыш Бязродны, на перыяд зборaў мы вас апранулі ў ношанае абмундзіраванне. І гэта правільна. На выпадак жа баявых дзеянняў на кожнага з вас ёсць усё выключна новае, з іголачкі...

— Дзе нам спаць сёння загадаеце? Вось вы дадому паедзеце, да жонкі, а мы тут будзем ноч кантавацца на жалезных нарах.

— Я мог бы спаслацца на армейскі статут, які не адмаўляе таго, што воін павінен цярпліва пераносіць усе цяжкасці вайсковай службы. Вы ўсе служылі ў арміі, гэта ведаеце. Але не буду — тут у нас выйшаў недагляд. Так што даруйце, а гэтую ноч давядзецца пераначаваць вось так.

Падпалкоўнік змоўк, нібы спатыкнуўся. Счапіўшы рукі перад сабой, ён глядзеў пад ногі, нешта прыгадваючы. Салдаты сачылі за ім хмурнымі, уважлівымі вачыма.

— Я разумею, што вам нялёгка сёння. Некаторыя, відаць, не паспелі паабедаць. А тут яшчэ давядзецца спаць на голых дошках... Але вы ўявіце сабе, што вам давялося быць больш шасці месяцаў у акопах... За гэтыя паўгода ні разу не быў у лазні, не спаў на ложку. Правільней, не спаў наогул. Не да сну было. Пра сябе мы думалі тады менш за ўсё. Мы былі там, як на краі зямлі. Адступаць не было куды. Зрабіў крок назад — лічы, што загінуў. Вось так... Прашу не хвалявацца, заўтра ўсё ўладкуем... А цяпер можаце разысціся.

Строй раскалоўся, рассыпаўся. Усе неяк адразу прыціхлі, быццам адчулі сваю віну перад падпалкоўнікам, і цяпер ім было сорамна. Клаліся на спачын, як хто мог. Замест падушак масцілі пад галовы хто што меў, закручваліся ў шынялі. І ніводнага гуку дакору.

На адыходзе нампаліт часці сказаў Максіму:

— Людзі ў нас нядрэнныя, усё разумеюць. Але некаторыя... Пазнаёмцеся бліжэй, пастарайцеся зразумець кожнага. Праз некалькі дзён разгортваем часць... Самі разумееце.

— Ды я разумею, таварыш падпалкоўнік. Але ўсё ж ці нельга было б зрабіць гэта загадзя?

— Падвялі нас забеспячэнцы, лейтэнант. Вельмі падвялі... З Мяцельскім будзем разбірацца.

Падпалкоўнік і капітан Гайда развіталіся і пай-

шлі. Ціханаў і Мухін адправіліся спаць у казарму, Максім застаўся ў батарэі. Ён прынёс шынель, закруціўся ў яго, лёг на жалезную сетку і ў момант заснуў.

## 6

Перад снеданнем аб'явілі: у дзесяць гадзін пастраенне. Спачатку ў казарме, а затым на пляцы будзе страявы агляд. Салдаты ваксавалі боты, наводзілі бляск на гузікі, медныя бляхі папружак, эмблемы.

Ціханаў і Мухін правяралі гатоўнасць узводаў. Максім таксама прыглядаўся да выпраўкі салдат, падказваў ці рабіў заўвагі, калі бачыў што не так.

Са строю сыпаліся з'едлівыя слоўцы:

— Ты, нампаліт, няйначай яшчэ адну зорачку хочаш зарабіць!

— Ён на звыштэрміновую застанецца, каб да генерала даслужыцца.

Гэтыя рэплікі калолі яго, як стрэмкі, але Максім стараўся быць спакойным, не траціць вытрымкі, як і належыць афіцэру. Падышоўшы да Бязроднага, ён спыніўся. Бязродны стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў. Шынель расшпілены, папружка не зацягнута, з-пад шапкі лезлі доўгія пасмы зашмальцаваных валасоў, на твары крывілася блудлівая ўсмешка.

— Вам трэба пастрыгчыся, радавы Бязродны. З такой прычоскай вы не падобны на салдата...

— А я не хачу стрыгчыся.

— Як гэта вы не хочаце?.. А калі трэба?

— Сказаў, не буду — значыць, не буду! — адрэзаў Бязродны.

— Вы памятаеце стары армейскі лозунг? «Не ўмееш — навучым, не хочаш — прымусім!» — сказаў Максім.

— Вы — нампаліт, вось і выхоўвайце мяне, а не прымушайце! — сказаў Бязродны, гледзячы ў твар яму бліскуча-сярдзітымі вачыма.

Ад гэтага погляду Максіму стала нядобра. Ён разгублена азірнуўся, нібы шукаючы падтрымкі. Збоку да строю падыходзіў капітан Гайда.

— Спыніць размовы! — рэзка загадаў капітан.— Нампаліт — мой намеснік! Усе яго загады і распараджэнні выконваць дакладна і ў тэрмін! Незадаволеныя могуць пісаць скаргі аж да генеральнага штаба.

Строй заціх, ніхто не спрабаваў пярэчыць.

— Наступнае пастраенне праз пятнаццаць мінут... Разыдзісь! — скамандаваў Гайда.

Максім перажываў такое пачуццё, быццам яго жорстка і балюча пабілі. Знешне спакойны, а ўнутрана разгублены, абражаны, ён стаяў цяпер каля Гайды, не ведаючы, куды сябе дзець, што далей гаварыць і рабіць. Чаму яны так паставіліся да яго? Чаму яго не прызнаюць? Ён жа ўсім ім хоча дабра. Максімаву разгубленасць зразумеў і адчуў капітан Гайда.

— Не перажывайце, Максім Барысавіч. Вы ўсё рабілі правільна. Так і трымайцеся далей. Вядома, некаторым хацелася, каб вы скаціліся на панібрацтва. Для афіцэра гэта — канец.

— Так, я разумею, Віталій Захаравіч. Гэта якраз тое, што вы называеце салдацкай псіхалогіяй.

— Вось іменна. Яны хочуць знайсці ў вас слабінку, падначаліць сабе. Магчыма, нават будуць прапаноўваць выпіць. Глядзіце трымайцеся.

— Вядома!.. Аб гэтым не можа быць і размовы.

— На жаль, некаторыя з запаснікоў ідуць на гэта, не думаючы, што шкодзяць сабе. І тады здараецца тое ж, што з кропляй чарніла ў шклянцы вады. На мове фізікі — гэта называецца дыфузіяй. Вось такая ж дыфузія чакае некаторых вашых калег-афіцэраў запасу.

Іх гутарку перапыніў маёр Шалы. Гайда тут жа далажыў аб гатоўнасці батарэі да страявога агляду. Той абыякава прыўзняў правую руку, выгукнуў «Воль-

на, вольна»,— у развалку, нібы па хісткай палубе, ішоў перад строем, прыдзірліва аглядаў свой батальён. Раптам ён спыніўся супраць Бязроднага, са здзіўленнем спытаў:

— Ты адкуль?.. З семінарыі?

— Не... З зенітнай батарэі.

— А як у армію трапіў?

— Як і ўсе, па прызыву.

— А чаму не падстрыжаны?

— Мне так падабаецца.

— Ведаеш, браток, мне вельмі цяпер хацелася б да цешчы на бліны. Але тады хто вамі будзе камандаваць, га? Не ўсё ў арміі па нораву жывому чалавеку. Гэта можна зразумець...

Шалы адышоў крыху, потым вярнуўся, крыкнуў:

— Нампаліт зенітнай батарэі!

— Я, таварыш маёр,— выйшаў са строю Максім.

— Падстрыгчы салдата і мне далажыць асабіста.

— Ёсць падстрыгчы і далажыць асабіста!

— Хворыя ёсць? — спытаўся камбат.

— Ёсць! — адгукнулася нясмела некалькі галасоў.

— Тры крокі наперад!

Выйшла пяць чалавек,— няўпэўнена і сарамліва, нібы ў чым вінаватыя.

— Што баліць? — спытаўся Шалы, прыпыніўшыся.

— У мяне сэрца.

— Жывот...

— Галава...

— Старшына Смірноў! Адправіць іх у нарад на кухню, а вечарам у санчасць. Няхай праверацць. Аб выніках далажыць мне.

Батальён выбухнуў смехам. Калі хворых павялі, камбат працягваў:

— Парадкі нашы вы ўсе ведаеце. Большасць служылі. Катэгарычна забараняю ўжываць спіртное, ха-

3 Зак. 620

дзіць у самаволкі! За невыкананне статутных патрабаванняў будзем строга караць. Сам я з вучэбнага падраздзялення, люблю парадак і дысцыпліну. Надзвычай люблю, калі салдаты займаюцца страявой, асабліва ў зімовы час. Так што раю хворым і тым, хто сачкуе, мне на вочы не трапляць.

Цяжка было зразумець, гаварыў камбат сур'ёзна ці жартаваў. Але ўсё сказанае ім выклікала на тварах салдат іранічныя ўсмешкі. Чуліся прыглушаныя размовы, шэпт, гучны смех. А Шалы пасля нядоўгага маўчання сказаў сурова:

— І наогул раю вам са мною не жартаваць. Я — верабей стрэляны...

Максім і сам не заўважыў, як яго апанаваў рогат — доўгі, шчыры, да ікаўкі. І гэтак жа, як ён, заходзіліся ад рогату ўсе, хто быў у казарме, нібы цукеркі, смакуючы апошнія словы, незнарок кінутыя камбатам. Шалы ўсміхнуўся прыхаванай усмешкай, аддаў распараджэнні камандзірам і, не аглядваючыся, пайшоў.

Пасля перакуру ўзводы выходзілі на пастраенне. Адна за адной калоны ішлі ад казармы і выстройваліся на шырокім пляцы, зацярушаным снегам. Па-дзелавому мітусіліся афіцэры, падавалі кароткія рэзкія каманды. І людзі, якія яшчэ ўчора стаялі ля станкоў, чыталі лекцыі на кафедрах, кіравалі складанымі машынамі, такія розныя і не падобныя адзін на аднаго, цяпер нагадвалі Максіму паслухмяную аднастайную чалавечую масу. Але гэта аднастайнасць не прыніжала іх, а ўзвышала, бо была выклікана патрыятычным абавязкам кожнага.

Пастроіўшыся, падраздзяленні на дзесяткі метраў выцягнуліся ў калону з двух канцоў, якая замкнулася літарай П. Салдаты прытанцоўвалі, прытупвалі, штурхалі адзін аднаго, пляскалі ў далоні — грэліся хто як

мог. Мароз падскочыў раптоўна — і такі моцны, што браў за жывое.

Максім паспрабаваў не зважаць на холад. Але праз колькі часу балюча закалола ў вушы, задзеравянеў падбародак, анямелі вусны і шчокі. Праз гумавую падэшву падбіраўся да ног тупы калючы холад, ад якога ішоў шчымлівы боль і распаўзаўся па целе.

Салдаты бачылі, што яму холадна, і клапатліва, са спачуваннем раілі яму:

— Таварыш нампаліт, апусціце навушнікі, а то вушы адмарозіце.

— Разатрыце шчокі, яны ў вас пабялелі.

Было прыемна адчуць просты чалавечы клопат да сябе. «Відаць, не так ужо дрэнна яны да мяне адносяцца, як я думаў».

У чаканні камандзіра часці калона тапталася на месцы, рухалася, варушылася. А камандзіра ўсё не было. Ён як бы наўмысна не спяшаўся, каб людзі адчулі гэты снежаньскі холад, прывыклі да яго і больш не баяліся.

Прыехала высокае начальства, і камандзіры падраздзяленняў пабеглі насустрач. Выслухаўшы па парадку ўсе даклады, камандзір часці прыклаў руку да скроні, крыкнуў:

— Добры дзень, таварышы салдаты!

Голас паказаўся Максіму слабым. Марозная цішыня праглынула яго, заглушыла.

— Здравія жадаем, таварыш палкоўнік! — выкрыкнулі салдаты нястройна, рознагалоса.

Начальства абышло калону, агледзела яе, вярнулася да трыбуны. І тут жа прагучала каманда працяжная, кінутая нараспеў, як словы песні:

— Смі-і-ірнн-а-а-а! Напра-а-а-ва! Страявым! Шага-а-ам марш!

Калона хіснулася, зрабіла паварот і кранулася з месца.

— Глядзіце, таварышы, не падвядзіце! — крыкнуў Максім праз плячо салдатам, стараючыся ісці ў нагу з капітанам Гайдай.

Рух саграваў. Салдаты падбадзёрыліся, стараліся трымаць раўненне.

Пры падыходзе да трыбуны Максім выцягнуўся ў струнку. Ён быў адным з тых, у кім жылі салдацкая гордасць і ганарыстасць. Усё, што ён ні рабіў, стараўся выканаць лепш за іншых. На тэрміновай ён на трэці дзень службы ад узводнага атрымаў падзяку, і ў яго нібы выраслі крылы. Праз некалькі месяцаў стаў выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Салдаты яго любілі, камандзіры паважалі. Максім, прыціснуўшы рукі да тулава, пячатаў крокі па чыстым снезе.

За сваёй спіной ён чуў дыханне некалькіх дзесяткаў чалавек. Ля трыбуны правая рука прывычна ўзнялася, каб аддаць чэсць, галава рэзка павярнулася направа, левая рука шчыльна прыціснулася да тулава. І тут жа ўлавіў адначасовы, прыглушана-цяжкі крок батарэі.

— Малайцы, зенітчыкі! — крыкнуў нехта з трыбуны.

Гэтымі словамі, нібы нечаканай радасцю, горача абдало сэрца. З душы прасілася, ірвалася песня, тая адзіная, непаўторная, якую ён больш за ўсё любіў.

Варта было толькі камусьці пачаць, і дзесяткі салдацкіх маладых галасоў гучна, прыгожа падымуць яе ў стылае марознае паветра, натхнёна панясуць над сабой.

## 7

Пасля страявога агляду батарэя сабралася ў ленінскім пакоі. Чырвоныя, абветраныя на марозе твары цяплелі, весялелі. Чакалі камандзіра батарэі Гайду, якога выклікалі ў штаб. І ён хутка прыйшоў. Салдаты ўсталі, вітаючы яго. Ён ветліва сказаў:

— Садзіцеся, таварышы. Нам трэба размеркаваць вас па разліках, прызначыць камандзіраў аддзяленняў, выбраць сакратара камсамольскай групы. Не пярэчыце? — спытаў капітан Гайда, прысеўшы.

— Не, не пярэчым,— усміхнуўшыся, адказаў за ўсіх Бязродны.

— З сённяшняга дня вы ўсе прыпісаны да зенітнай батарэі,— пачаў Гайда.

— Таварыш капітан! — ірвануўся з месца невысокі салдат з рыжай калючай шчоткай вусоў і такімі ж рыжымі валасамі, якія тырчэлі ў розныя бакі.— Я, напэўна, не туды трапіў... Які ж з мяне зенітчык? Я ў будаўнічым батальёне служыў і гэту пушку ў вочы не бачыў, нічога ў ёй не цямлю.

Ён пераступаў з нагі на нагу, лахмаціў і без таго ўскудлачаную галаву і запытальна глядзеў капітану ў твар.

— Трапілі вы туды, таварыш. Як ваша прозвішча?

— Клыпа. Радавы Клыпа.

— Вы прапісаны ў нашу часць ваенкаматам. Нічога ўжо змяніць нельга. Прыйдзецца перавучвацца.

— Я цясляр па ваеннай спецыяльнасці,— нясмела запярэчыў ён.

— Нічога. Былі цесляром, станеце зенітчыкам. У жыцці вам гэта спатрэбіцца.

— Не слухайце, таварыш капітан, гэтага рыжага. Ён проста сачкануць хоча,— з падробленай сур'ёзнасцю і ледзь улоўнай іроніяй у голасе сказаў Бязродны.

— Сам ты сачок,— агрызнуўся Клыпа ў адказ і сеў.

Бязродны, задаволены тым, што падкалупнуў Клыпу, усміхнуўся тонкай усмешкай і змоўк. Капітан строга сказаў:

— Даволі спрэчак! Адносіны высветліце пасля. Падыміце, калі ласка, рукі, хто служыў тэрміновую ў зенітнай артылерыі.

Некалькі рук нясмела ўзняліся ўверх.

— Н-н-да-а-а,— працягнуў задуменна Гайда, нахмурыўшыся.— Але нічога. Будзем разам вучыцца. Кожны дзень па тры гадзіны на вывучэнне матэрыяльнай часткі. Пасля абеду выязджаем на палігон адпрацоўваць баявыя практыкаванні. Вы павінны дасканала вывучыць гармату, прывыкнуць да яе, а галоўнае — навучыцца дакладна, зладжана, без лішняй мітусні дзейнічаць у абстаноўцы, набліжанай да баявой. Толькі пры станоўчым вырашэнні гэтых задач мы зможам удзельнічаць у вучэннях.

Ніхто больш не жартаваў. Усе былі сур'ёзныя, заклапочаныя, разумеючы ўсю адказнасць задачы. У панурым задуменні сядзеў Ціханаў. Толькі Мухін быў зусім спакойны, амаль вясёлы, як заўсёды. Ці то яго мала датычыла ўсё, што тут гаварылася, ці то ён так быў упэўнены ў сваіх камандзірскіх здольнасцях, бо падкрэсленай бесклапотнасцю паказваў, што вучэнні яго не трывожылі і не хвалявалі.

Пасля таго, як усіх размеркавалі па аддзяленнях і разліках і кожнаму назвалі яго воінскую спецыяльнасць, Гайда сказаў:

— Далейшыя арганізацыйныя паўнамоцтвы перадаю нампаліту батарэі старшаму лейтэнанту Александровічу.

Максім узняўся, прывычна абцягнуў гімнасцёрку.

— Сярод нас сем камсамольцаў. Ёсць прапанова выбраць камсорга,— сказаў ён.

— Як выбіраць, калі мы не ведаем адзін аднаго?

— Я пазнаёміўся з вамі з усімі па дакументах. І мог бы прапанаваць кандыдатуру. Але мне хочацца, каб вы самі...

— Ды навошта ўсё гэта? Які толк з гэтых зялёных камсамольцаў? — абыякавым тонам кінуў з месца Бязродны.

— Можа, і праўда, нампаліт, не трэба?

— Усё роўна хутка дадому.

— Трэба, таварышы. Такі парадак,— цвёрда сказаў Максім, адчуваючы, што калі яго і не ігнаруюць, то ўсё яшчэ і не ўспрымаюць сур'ёзна. Што рабіць, ён не ведаў. Назваць кандыдатуру самому — значыць, праявіць камандзірскую волю. Гэтага ён рабіць не хацеў.

Выручыў яго нечакана салдат з рабацiністым тварам, стрыжаны пад «вожыка». Нізкарослы, плячысты, шыракагруды, моцны, быццам адліты, ён няспешна ўстаў і звярнуўся да Александровіча:

— Таварыш нампаліт, дазвольце сказаць мне... Я хацеў бы быць групоргам.

З'едлівыя і насмешлівыя слоўцы паляцелі ў яго, як каменні.

— Глядзіце на яго! Цуд у рабацінні.

— Адкуль такі ўзяўся?

— І адразу ў начальства захацеў!

— Лычку хоча!

Амаль усе рагаталі. А салдат быў спакойны. Кпіны адскоквалі ад яго, як гарох ад сценкі.

— Даволі! Хіба можна так гаварыць пра свайго таварыша?! — узарваўся Максім.

— А чаго ён наперад бацькі ў пекла лезе?

— І наогул гэта нясціпла.

— Ваша прозвішча, здаецца, Птуха? — спытаўся Максім.— Працягвайце, калі ласка!

— Можа, з майго боку гэта і нясціпла. Згодзен. А з вашага боку не толькі нясціпла, але, на маю думку, вульгарна так гаварыць.

— Давай, давай! Гавары прамову! У выдатнікі трапіш,— насмешліва кінуў Бязродны.

— Не перабівай! — злосна абарваў яго Птуха.— Я праз камсамол у людзі выйшаў... Зразумеў ты гэта?

— Можа, сваю аўтабіяграфію раскажаш? — са здзеклівасцю ў голасе насядаў Бязродны.

— Калі трэба будзе, дык раскажу!..— Ён змоўк, насупіўся і, сабраўшыся з думкамі, зноў загаварыў:

— Я брыгадзір трактарнай брыгады ў калгасе, дэпутат раённага Савета. Служыў тры гады. Выконваў адказныя заданні, за што і медаль маю... А выбіраць мяне не трэба, гэта я так — жартам сябе прапанаваў.

Ён сеў, разгарнуў газету, пачаў нешта чытаць.

— Таварыш нампаліт, дазвольце мне слова,— падхапіўся Клыпа.

— Гаварыце.

— Як хочаце, а Птуха правільна сябе прапанаваў. Яго трэба выбраць. Хлопец ён надзейны і сур'ёзны.

— Правільна! Птуху!

— Чалавека наскрозь відаць.

— Фізічна моцны, духоўна багаты, маральна чысты,— не сунімаўся Бязродны.

На яго зашыкалі:

— Перастань піжоніцца!

— Прычапіўся да чалавека, як смала...

— Самому зайздросна, вось і выступае.

Максім перапыніў спрэчкі і сказаў:

— Паступіла прапанова радавога Птуху выбраць групоргам. Камсамольцы, хто за гэту прапанову, прашу галасаваць.

Рукі ўзняліся ўверх: не было супраць, ніхто не ўстрымаўся.

— На гэтым арганізацыйную частку закончым,— Гайда падняўся.— Цяпер на абед. Потым занягкі па плану: першы ўзвод вывучае матэрыяльную частку гарматы, другі атрымлівае аўтаматы. Камандзірам узводаў прыступіць да сваіх абавязкаў.

Калі салдаты разышліся і афіцэры засталіся адны, Гайда па-сяброўску паклаў Максіму на плячо руку:

— Што скажа нампаліт адносна калектыву батарэі?

— Мне здаецца, людзі як людзі. Але ёсць некаторыя, з якімі давядзецца і папацець,— адказаў ён, яшчэ не адчуваючы ў гэтым поўнай упэўненасці.

— Як, напрыклад, Бязродны,— уставіў Ціханаў.

— Не такі ён ужо дрэнны, як вы думаеце,— сказаў Мухін.

— Мы не думаем, што ён дрэнны,— паправіў яго Гайда,— але паваждацца з ім прыйдзецца.

— Хутчэй за ўсё ён цяжкі,— сказаў Максім,— Ці мала чаго было ў яго жыцці. Па ўсім відаць, што нечым пакрыўджаны. Крыўда робіць чалавека злым, жорсткім, недаверлівым.

— У маёй практыцы, колькі я памятаю, воінскі калектыў складваўся заўсёды цяжка. Праз некаторы час чалавек прыціраецца да чалавека, і ў выніку — каменны маналіт,— працягваў капітан.

— Для таго, каб зблізіць людзей, дапамагчы ім разумець і паважаць адзін аднаго, трэба нямала намаганняў,— уступіў у размову Ціханаў.

— Я спадзяюся, што вы, мае памочнікі, не падвядзяце ў гэтым? — усміхнуўшыся, спытаў Гайда.

— Пастараемся, таварыш капітан,— адказаў за ўсіх Ціханаў.

— Я папрашу вас часцей быць сярод салдат,— сказаў Гайда.— У вольны час будзьце сярод іх, гуляйце ў шашкі, шахматы, даміно. Да салдата трэба адносіцца як да роўнага. Не стаўце паміж сабой і ім службовую перагародку. Як толькі людзі адчуюць, што да іх адносяцца шчыра, яны таксама пачнуць ставіцца да вас з даверам. Вось тады і знікне недавер.

— А хіба так бывае, што паміж салдатам і афіцэрам няма ўзаемаразумення? — спытаўся Ціханаў.

— Бывае. Гэта перш за ўсё тады, калі ў чалавеку бачаць толькі салдата і гавораць з ім на мове статутаў, загадаў і распараджэнняў. Афіцэр павінен бачыць у салдаце чалавека, з якога трэба выхаваць майстра

воінскай справы, высокага абавязку. І не проста салдата, а савецкага салдата, які, калі запатрабуе Радзіма, як Матросаў, грудзьмі закрые амбразуру...

— Таварыш капітан, а гэта не тоіць небяспекі скаціцца на панібрацтва? — спытаўся Ціханаў.

— Гэта можа здарыцца, калі падладжвацца пад салдата. А падладжвацца не варта. Трэба і словам і справай даказаць яму, што ты справядлівы, сумленны і смелы. Разумны ў пытаннях ваеннай навукі, эрудзіраваны ў агульнаадукацыйным сэнсе.

— Што ты, Чабурашка, усё пытаеш і пытаеш? — з наўмысным абурэннем спытаўся Мухін у Ціханава.— Ідзі паслужы, як я, тры гады, тады ўсё зразумееш.

— Калі табе ўсё зразумела, ты можаш не пытаць. А я распытваю таму, што мне незразумела,— спакойна адказаў Ціханаў.

— Лейтэнант Мухін,— рэзка сказаў Гайда,— я прашу вас і загадваю вам больш не называць лейтэнанта Ціханава Чабурашкай. Ён афіцэр. З вашага боку гэта груба ў адносінах да таварыша.

— Ды я жартую, таварыш капітан,— вінавата прагаварыў Мухін.

— Жарт не павінен абражаць чалавека!

У другой палавіне дня Ціханаў і Мухін павялі свае ўзводы на заняткі. Максім застаўся ў казарме: вечарам ён заступаў у нарад дзяжурным па батальёне. Трэба было хоць гадзіны са дзве паспаць, бо на працягу сутак не давядзецца, а праўдзівей, нельга будзе нават заплюшчыць вочы. Дзяжурны павінен бачыць і ведаць усё, што датычыць унутранага распарадку батальёна.

Перш чым прылегчы, ён падрыхтаваў канспект да чарговых палітычных заняткаў, пачысціў боты, пагаліўся. Ды сон нешта не ішоў. Думалася пра жонку, пра дачку, пра старую маці, якая адзінока дажывала свой век у Оршы. Апошні раз быў у яе ў жніўні. З таго ча-

су ні разу не ўдалося выбрацца. Грошы, праўда, высылаў рэгулярна. Непакоіла, ці здаровая яна, ці ёсць у яе дровы, можа, патрэбна якая іншая дапамога.

За гэтымі думкамі непрыкметна праляцелі дзве гадзіны. Максім устаў, заправіў пасцель, памыўся і накіраваўся ў батальён.

## 8

У казарме густа пахла потам, прэлымі анучамі, мокрым адзеннем. Максім загадаў спярша праветрыць памяшканне. Потым прайшоўся па казарме, паглядзеў, хто чым займаецца. Натаміўшыся і накалеўшыся за дзень, большасць салдат ляжалі або спалі, паўзверх коўдраў накрыўшыся шынялямі, або сядзелі цеснымі групкамі і перакусвалі. Іншыя проста снавалі туды-сюды ці набіваліся ў курылку, дзе гаманілі аб сім-тым або «травілі» анекдоты.

Адгарадзіўшыся ў далёкім кутку казармы, чатыры чалавекі гулялі ў карты. Сярод іх былі Бязродны і Клыпа. Максім спыніўся і пачаў назіраць за гульнёй. Салдаты так захапіліся, што не заўважылі яго, а калі ўбачылі, спахапіліся, пачалі хаваць карты ў кішэні.

— У што гуляеце? — спытаўся Максім.

— У ачко,— сказаў Бязродны.

— На грошы ці так?

— На капейкі, таварыш старшы лейтэнант,— вінавата адгукнуўся Клыпа.

— Ну і хто выйграе?

— Бязродны...

— На паўчырвонца ўжо акалпачыў нас.

— Нядрэнна гуляеш,— з непрыхаваным гневам сказаў Максім.— У мяне ёсць прапанова. Гуляем з Бязродным адзін на адзін. Калі я выйграю ў яго, вы ў карты больш ніколі не гуляеце. Дамовіліся?

— Дамовіліся! — адгукнулася некалькі галасоў.

Вочы ў Бязроднага востра, па-драпежніцку бліснулі.

— Глядзі, нампаліт, не прагадай. У карты гуляць — не палітыку круціць.

— У банк стаўлю два рублі. Каму здаваць карты — разыграем. Але пры адной умове: гуляць толькі на банк,— папярэдзіў Максім.

— Во нампаліт дае! Два «чарнілы» адразу ў банк паклаў. Нам на ўсіх хапіла б,— з захапленнем сказаў Клыпа.

Усе дружна засмяяліся. Максім быў сур'ёзны. Ён растасаваў карты. Першую зняў зверху і паклаў Бязроднаму, другую — сабе.

— Такім чынам, у банку два рублі,— сказаў Бязродны.

— На банк,— Максім зняў наступную карту. Бязродны ўзяў яе, паглядзеў, нахмурыўся і збялеў.

— Цёмную...

Максім паклаў на дзве яшчэ трэцюю карту. Адкрыў сваю — гэта была дзесятка, зняў наступную — сямёрка. Больш ён набіраць не меў права. Бязродны павольна адну за адной адкрыў карты: у яго аказалася дваццаць тры.

— Перабор! Бляха-муха,— з прыкрасцю вылаяўся ён.

Другі круг Максім таксама выйграў, і гэта не на жарты здзівіла салдат. Цяпер, калі ў банку ляжала шэсць рублёў, надышоў апошні, завяршальны круг. Ад яго зыходу залежала многае. Прайграе ён — над ім пасмяюцца, выйграе — аўтарытэт Бязроднага з трэскам паляціць да чортавай матары.

— У банку шэсць рублёў.

— На ўсе! — нецярпліва крыкнуў Бязродны.

— Падумай, можа многа.

— Мы ж дамовіліся — на банк.

Бязродны ўзяў тры карты і сказаў:

— Хопіць.

Максім адкрыў сваю. На яго сурова-асуджальна глядзеў піковы кароль. Нічога добрага не абяцаючы, гульня пачыналася з чатырох ачкоў. Наступная карта была туз. Максім правёў рукой па лбе, як бы хацеў адагнаць надакучлівыя і непатрэбныя думкі-сумненні... У ім прачнулася прыкрая горыч пройгрышу. Салдаты, затаіўшы дыханне, глядзелі на яго, быццам вывучалі.

— Ну што, нампаліт, можа спасуеш? Цудаў у такіх выпадках не бывае. У мяне дваццаць,— і ён адкрыў свае карты.

Бязродны меў рацыю. Цуд у такіх выпадках здараецца рэдка. Але ён адбыўся: адзін магчымы шанц са ста выпаў на долю Максіму: трэцяй картай лягла шасцёрка.

— Не можа быць! — ускочыў Бязродны,— прызнавайся, што змахляваў, нампаліт.

— Ну што ты? Забароненымі прыёмамі я не карыстаўся. Хлопцы ж бачылі.

— Ну, Леў, паказаў табе нампаліт па ўсіх правілах,— жартавалі над Бязродным сябрукі.

— Як ты толькі церпіш?

— Бяры рэванш!

— Як жа так здарылася? — усё з тым жа непадробным здзіўленнем пытаўся сам у сябе Бязродны, адной рукой чухаючы скроню, а другой расшпільваючы кішэню гімнасцёркі. Ён дастаў дзве трохрублёўкі, паклаў на стол:

— Забірай грошы, нампаліт!

— Тут дванаццаць рублёў,— сказаў Максім.— Мае два, з банка я забіраю. Два траякі, Леў,— твае, забірай. Астатнія шэсць, выйграныя Бязродным, вяртаю вам, хлопцы. Толькі не трэба на іх «чарніліць», Клыпа.

Ніхто не пярэчыў, не спрачаўся. Моўчкі ўсталі, кожны забраў свае грошы, моўчкі разышліся.

Бязроднага Максім папрасіў застацца.

— Укалола трохі? — спытаўся Максім.

— Укалола, і нават непрыемна,— адказаў Бязродны прыгнечана і сумна.

— Даўно не прайграваў?

— Увогуле не прайграваў!

— Павер мне, я гуляў сумленна. У картах, сам ведаеш, бывае, пашэнціць, бывае, не...

— Так, але я ігрок па вялікім рахунку... Я рэдка каму прайграю.

— Я таксама быў такі. Мы з табой, так сказаць, малочныя браты.

— Вы што, таксама гулялі? — з цікавасцю спытаўся Бязродны.

— Гуляў, яшчэ як гуляў. Усё было ў жыцці. Бацька мой загінуў на фронце. Нас засталося трое ў маці. Рос на вуліцы. Карты былі маім любімым заняткам. Аднойчы вясной, як цяпер памятаю, вельмі хварэла маці, [illegible] ў доме — пуста. А брат малодшы, Валодзька, усё хлеба прасіў і плакаў. І такая туга мяне ўзяла, такі боль! Сабраў я медзякі і пайшоў гуляць у карты. Хацелася выйграць толькі на хлеб і на каўбасу. Ведаў я такую адну адчайную кампанію, дзе гулялі, як кажуць, не на жыццё, а на смерць... Я да іх і прыстаў.

— А да гэтага вы ўжо гулялі? — спытаўся Бязродны.

— У тым і справа, што гуляў, і нядрэнна... Але ўсё выйшла па народнай прымаўцы: дзе коратка — там і рвецца. Прайграў я свае медзякі, прайграў штаны, сарочку, паліто, чаравікі — усё, што было на мне. Вось тады галоўны з гэтай шайкі — Кароль яго звалі — і гаворыць мне: «Што, хлопец? Грошы ты прайграў. Барахло прайграў. На што цяпер гуляць будзеш?»

Я маўчу, і горка мне, і балюча, і ўжо ўсё роўна, што са мной будзе потым.

«Маеш ты, хлапчына, апошні шанц адгуляцца!» — гаворыць Кароль.

«Які?»

«Стаў у банк сваё жыццё».

«Як — жыццё?!.»

«А вось так — або выйграеш усё адразу, або прайграеш сваё жыццё. І тады з гэтым тваім жыццём я абыдуся, як захачу... Магу забіць цябе, магу павесіць, магу падарыць яго табе назад».

«Згодзен»,— кажу, а сам думаю: «Усё роўна мне цяпер дадому не вяртацца».

— І выйграў? — прашаптаў Бязродны.

— Не. Сам ведаеш — як не шанцуе, дык да канца! Прайграў! І нейкая абыякавасць на мяне найшла, а яшчэ — цікаўнасць. Думаю, што яны цяпер са мной будуць рабіць? А Кароль гэты ў мяне і пытаецца: «Ты навошта гэта, дзіцянё жаўтаротае, у карты гуляеш?» Расказаў я яму ўсю праўду пра хворую маці, пра Валодзьку, пра бацьку... Можа, разжаліў яго, а мо па натуры сваёй ён быў чалавек неблагі, толькі вярнуў мне назад і маё барахло, і жыццё, і яшчэ грошай на дарогу даў. Узяў з мяне слова, што я ніколі больш гуляць у карты не буду.

— І стрымалі вы сваё слова?

— Як бачыш, стрымаў.

— Як тады разумець вашу гульню сёння?

— А так... Каб і ты, Леў, і твае сябрукі больш да картаў не дакраналіся. Ні ў прэферанс, ні ў дваццаць адно, ні ў іншыя азартныя гульні не гулялі. Дурная гэта звычка. І, відаць, нішто другое так не разбэшчвае чалавека, не выклікае ў ім дзікіх страсцей і жорсткіх інстынктаў, як карты.

— Так, вы, вядома, правільна гаворыце, таварыш нампаліт,— згадзіўся Бязродны.

І ў гэтым «таварыш нампаліт» Максім адчуў павагу.

— Ёсць у мяне адна просьба да цябе, Леў...

— Якая ж?

— Падстрыжыся. Самому, напэўна, абрыдла.

Бязродны змоўк, нахмурыўся. У прыжмураных вачах яго на нейкае імгненне з'явіўся выраз злой упартасці, потым яны пацяплелі, погляд стаў мякчэйшы, дабрэйшы.

— Усе мяне прасілі, угаворвалі, нават пагражалі. Але ніхто не ўламаў, не ўпрасіў. А вашу просьбу я ўважу, таварыш кампаліт... Кажу шчыра, спадабаліся вы мне.

Максім моўчкі паціснуў яму руку, і яны выйшлі з пакоя.

Пасля размовы з салдатам настрой быў добры. Хоць гэтая перамога для Максіма не такая і важная, але яна была патрэбна — без гэтага нельга зблізіцца з людзьмі.

— Таварыш кампаліт! — перапыніў яго роздум нечы голас. Ён спыніўся, не зразумеўшы — клічуць яго ці каго-небудзь іншага.

— Ідзіце да нас на хвілінку.

Максім пайшоў на голас, і ў сярэдзіне казармы ля самага акна на ніжніх ложках у змроку ўбачыў цесную кучку салдат. Гэта былі яго батарэйцы з узвода кіравання.

— Садзіцеся, таварыш кампаліт,— папрасіў нехта даверлівым шэптам. Усе пасунуліся, скрыпнуўшы спружынамі, вызваляючы яму месца. Максім сеў.

— Перад адбоем па грамульцы нікому не пашкодзіць,— сказаў плячысты хлопец з прыгожым цыганскім тварам і дастаў з-пад коўдры пачатую бутэльку гарэлкі. Зубамі выцягнуў корак і плюхнуў у шклянку.

— Дзякуй, хлопцы,— спакойна і катэгарычна сказаў Максім.— Толькі я не п'ю.

— Як не п'яце? — са здзіўленнем перапытаў яго салдат.

— Нельга, ды і ахвоты няма!

— Грэбуеце, значыць? — спытаўся той, што наліваў.

— Не, хлопцы, не грэбую. У мяне ёсць свой жалезны закон. Там, дзе можна, п'ю па ахвоце. Там, дзе нельга, у рот не бяру і другім не раю.

Некалькі чалавек загаварыла адразу:

— Ды што там, хлабысніце для разрадкі. У нас вось каўбаска свая, вясковая.

— Ніхто тут вас не бачыць.

— Дзе ж можна расслабіцца, як не на зборах?

— Дзякуй, таварышы, за прапанову, але я не буду. Абяцаю вам, што як толькі добра закончым вучэнні, пераапранёмся ў сваё, з ахвотай схаджу з вамі ў рэстаран і там пасядзім па-чалавечы, пагутарым па душах.

— Гэта яшчэ няскора...

— Трэба дажыць да тых дзён.

— Але ж і ганарысты вы,— прамовіў той жа, з цыганскім тварам.— Малодшы лейтэнант Мухін не такі...

Максім нічога не адказаў. Заставацца тут ён больш не хацеў, а падняцца і пайсці — не мог: гэта расцанілі б няправільна. Сказалі б — пазёр, фанабэрысты, з хлопцамі ніжэй па званню выпіць грэбуе, а сам, няйначай, бярэ на ўсю катушку. Яшчэ б большай недарэчнасцю было ўзяць ды забараніць ім выпіваць або адабраць гарэлку: яны ж запрашалі яго самі, каб пачаставаць, даверліва, шчыра.

— Вы, таварышы, без мяне,— сказаў Максім.— А я пасяджу разам з вамі.

— Ды хіба мы выпіваем? — па чарзе пускаючы шклянку па кругу, гаварыў салдат з цыганскім тварам.— Па кроплі для настрою, для размовы. Алкашы п'юць або вельмі мала, або вельмі многа. У іх гэта сістэма. Як у дзень мне трэба выпіць шклянку вады, так

яму шклянку «чарніла». Памятаю адзін выпадак... Паслухаеце, таварыш нампаліт?

— Расказвай...

— Летась задумаў я сабе хату атынкаваць. Усё шпалеры ды шпалеры. А пад імі мошкі, казяўкі, клапы заводзяцца ўсякія. Жонка ў мяне гарадская, чыстая і вельмі палахлівая. Убачыць камара — адразу палохаецца, злуе і крычыць: «Што ты за гаспадар такі? У іншых мужыкі — як мужыкі! У доме парадак і чысціня. А ты толькі і ўмееш, што мух разводзіць...» Вось і рашыў я ўсё на гарадскі манер адгрукаць. Халадзільнік, тэлевізар купіў, газавую пліту паставіў, ванну дастаў. Засталося толькі сцены атынкаваць. Параілі мне аднаго будаўніка. Кажуць, майстар на ўсе рукі, зробіць, як у казённай кватэры, не адрозніш. Мужык такі нічога з выгляду, не малады і не стары, гадоў пад сорак. Для знаёмства купіў я бутэльку «Экстры» і пасля работы бух на стол. Ён спакойна зірнуў на бутэльку і гаворыць:

«Такую не п'ю».

«Чаму?» — пытаюся са здзіўленнем.

Думаю, можа яму каньяк падаваць трэба. Але ён мне адказвае:

«Таму што шкодная. Бачыце, бусел на ёй намаляваны».

«Гэта ж гарэлка. Чыстая, хлебная»,— гавару я яму.

«Яна самая, таму і не п'ю яе».

«А што ж вы п'яце?»

«Віно. Любога разліву. Любога колеру».

— Пабег я ў магазін,— працягваў расказчык,— купіў дзве бутэлькі «Вермута» і зноў бух на стол.

«Вось гэта па мне»,— гаворыць ён.

Пасля, калі мы разгаварыліся, я ў яго пытаюся:

«Колькі ж вы выпіваеце гэтага віна за дзень?»

«Калі як,— адказвае ён паважна, спакойна,— бутэлек дванаццаць — пятнаццаць».

Салдаты зарагаталі.

«Ну?! Дзе вы грошай столькі бярэце?!. — працягваў расказчык.

«А навошта грошы? Каму цэментам паможаш, каму цэглай, каму хаўтурку зляпаеш. Людзі паважаюць мяне».

«І п'яным вы не бываеце?»

«Не, ніколі... Я п'ю ўмеючы. Не адразу, як іншыя. Папрацую паўгадзінкі — паўшклянкі вып'ю. Папрацую яшчэ гадзінку — і яшчэ шкляначку. І так за цэлы дзень бутэлек да пятнаццаці і выходзіць».

«Жонка ваша заўважае, што вы выпіваеце?»

«Бывае, іншы раз, калі іду з работы, мяне ў бакі водзіць. Ну, жонка, вядома, у гэтым выпадку бачыць, што я падпіты».

«Як вы сябе адчуваеце? Не баліць у вас нічога?» — пытаюся я.

«Ды не... нармальна. Толькі часам вельмі піць хочацца. Я звычайна перад сном выпіваю літр вады і яшчэ на ноч літру стаўлю».

Салдат скончыў гаварыць, замоўк. Яго сябрукі загаманілі ледзь не ўсе адразу, успамінаючы падобныя выпадкі. Нядаўняй няёмкасці як не было, як рукой зняло. Максім узняўся, яшчэ раз падзякаваў за запрашэнне.

— Вы не падумайце, таварыш нампаліт, дрэннае пра нас,— папрасіў усё той жа цыганісты.

— Гэта мы з дому прывезлі,— вінавата сказаў другі, як бы ў сваё апраўданне.

— Мы вось чацвёра з аднаго раёна.

— Не, таварышы. Я пра вас дрэнна не думаю. Мы ўсяго толькі двое сутак як знаёмыя. Адзінае, аб чым я прашу вас: не піце, калі ласка, у казарме.

— Даём слова гонару, таварыш нампаліт, што ў рот не возьмем да канца службы,— запэўніў той жа з цыганістым тварам.

Максім не ведаў, як завуць гэтага хлопца, як не ведаў і іншых, а спытаць было няёмка. Ды хіба можна было за два дні запомніць прозвішчы больш чым пяцідзесяці чалавек? Ён толькі падумаў, што на розных паверках, калі кожнага называюць па прозвішчу, трэба запомніць іх.

У прызначаны час ён аб'явіў батальёну вячэрнюю паверку. Камандзіры падраздзяленняў пастроілі салдат, зрабілі пераклічку. Пасля гэтага пазнаёмілі з рабочым парадкам наступнага дня і аб'явілі адбой. Праз паўгадзіны казарма заціхла, толькі над дзвярыма гарэла сіне-ліловым святлом лямпачка ды чутна было, як у заінелыя вокны часам кідаўся вецер і сыпаў у шыбы снежным шротам.

## 9

Батарэя рыхтавалася да заняткаў на палігоне. Пасля снедання вадзіцелі пайшлі ў аўтапарк рыхтаваць машыны. Астатнія салдаты атрымлівалі procівагазы, падушкі і ражкі для патронаў.

Да Максіма падбег Птуха, усхвалявана, з трывогай на твары адрапартаваў:

— Таварыш нампаліт, дакладваю па даручэнню камандзіра аддзялення і асабіста сам як сакратар камсамольскай групы...

— Карацей. Што там у вас здарылася?

— Чэпэ, таварыш нампаліт.

— Якое чэпэ?

— Адзін у нашым аддзяленні адмовіўся аўтамат узяць. Кажа, што яму нельга дакранацца да зброі.

— Чаму, не гаворыць?

— Кажа, маўляў, нампаліт часці пра гэта ведае.

«Дзіўна,— падумаў Максім.— Нампаліт часці ведае, а я — не. Чаму ніхто не папярэдзіў?»

— Як яго прозвішча?

— Папоў. Адам Папоў.

— Калі прыедзем на палігон, ты мне пакажаш яго. Добра?

— Будзе зроблена, таварыш нампаліт!

Птуха пабег, а Максім задумаўся, спрабуючы ўявіць сабе твар гэтага дзіўнага салдата. Капітан Гайда падышоў да яго, сказаў:

— Калі ў вас ёсць тэрміновая справа, можаце застацца.

— Не, Віталь Захаравіч. Я павінен быць там, дзе батарэя. Інакш які я камісар? Дарэчы, вы ведаеце, што ў нашай батарэі ёсць салдат, які адмовіўся ўзяць зброю?

— Я ведаю. Нампаліт часці мяне папярэдзіў. Проста я забыўся вам пра гэта сказаць...

— Што за асоба?

— Відаць, з гэтых... з сектантаў... Давядзецца паваждацца.

— Непажаданы элемент.

— Што зробіш? Такі наш абавязак — працаваць з людской масай. А ў ёй не ўсё склеена і падагнана як належыць.

Яны выйшлі з казармы, накіраваліся ў аўтапарк. Гарматы першага ўзвода ўжо былі прычэплены да цягачоў і стаялі на дарозе. Дзверы бокса другога ўзвода занесла гурбай снегу. Некалькі салдат, узяўшы шуфлі, паспешліва адкідалі снег. Вось ужо расчынены дзверы, і з памяшкання ад настылай цэглы павеяла халоднай, затхлай вільгаццю і машынным маслам. Гарматы знялі з калодак, выцягнулі з бокса, прычапілі да цягачоў.

— Камандзірам узводаў пастроіць батарэю! — скамандаваў капітан Гайда.

Перад строем капітан сказаў:

— Рухаемся ў калоне ў наступным парадку: галаўная машына — першы разлік. Затым другі, трэці,

чацвёрты. Такім жа парадкам за першым узводам выстройваецца і другі. На маршы машыны не спыняць. Камандзірам усё зразумела?

— Так точна! — адгукнулася некалькі галасоў.

— На машыны!

Вадзіцелі кінуліся ў кабіны, салдаты палезлі ў кузавы. Праз некалькі мінут машыны рушылі. Цягачы паўзлі, размінаючы снег, уздрыгваючы на змёрзлых грудах зямлі, калдобінах і каляінах. За машынамі, як на прывязі, цягнуліся гарматы, велізарныя, чатырохколавыя, з доўгімі ствaламі, пакрытыя брызентам.

Да палігона было далёка. Ехалі палявымі дарогамі сярод заснежанага поля.

Мінулі вёску, занесеную снегам, з белымі тоўстымі шапкамі на дахах, спіннымі вокнамі і заінелымі дрэвамі. Ад вёскі павеяла спакоем і адвечнай прыгажосцю.

Недзе бушуе, бурліць, імкліва імчыцца жыццё вялікіх гарадоў. А вось вёска праз эпохі, а магчыма і стагоддзі, жыве размерана і няспешна. Яе жыхары сеюць збажыну, нараджаюць дзяцей, паміраюць... І так з году ў год, з веку ў век.

Колькі такіх вёсак і сёл на зямлі беларускай! Ім патрэбна, каб і ён, Максім, і ўсе тыя, хто ў калоне, былі заўжды гатовы да самаахвярнасці, калі спатрэбіцца дзеля гэтага вось вусцішнага жыцця.

За роўным і ціхім ходам думак непрыкметна праляцеў час. Пры пад'ездзе да палігона камандзір батарэі выскачыў з кабіны, з ходу падаў каманду «да бою». Машыны звярнулі ўбок і рэзка затармазілі. Салдаты, выскачыўшы з кузаваў, кінуліся да гармат. Вось ужо адна гармата села. З яе сарвалі чахол, адкінулі папярочныя станіны. Наводчыкі і зараджаючыя кінуліся на свае месцы. Бразнуў узведзены замок, ствол нацэліўся ў неба. Камандзір гарматы выхапіў з-за халявы бота чырвоны сцяжок, крыкнуў:

— Пяты гатоў!

Астатнія разлікі замітусіліся, і яшчэ доўга не было каманд аб гатоўнасці.

Капітан Гайда глядзеў на гадзіннік, затым сарваўся з месца і пабег з сярдзітым воклічам:

— Пяты разлік — малайцы! Астатнія — дрэнна! Адставіць! Камандзіры гармат — да мяне!

Сяржанты падбеглі, спяшаючыся дакладвалі:

— Таварыш капітан, камандзір трэцяга разліку...

— Адставіць фармальнасці! — абрываў іх Гайда.— Вы не на інспектарскай праверцы. Мне не даклад ваш патрэбен, а ваша веданне справы.

Нецярпліва-сярдзіты, ён нервова тупаў перад сяржанцкім строем, павучаючы, тлумачачы:

— Чаму не ўлічылі маіх парад і рэкамендацый?! Дзе дыстанцыя паміж гарматамі? Дзе інтэрвалы пры заняцці пазіцый? Толькі адзін разлік справіўся! Астатнія — дрэнна! Уявіце, што гэта ў баявой абстаноўцы... на вайне. З такой работай нас з паветра раскалашмацяць у пух і прах!

— Таварыш капітан! Першы ж раз выехалі,— хтосьці з сержантаў паспрабаваў апраўдвацца.— Людзі яшчэ не прывыклі.

— Замоўкніце! Гэта несур'ёзна! Вы ўсе пушкары, тэрміновую служылі! У кожнага асабісты салдацкі і камандзірскі вопыт. Чаму не навучылі салдат правільнаму ўзаемадзеянню?!.

Гнеў у капітана Гайды гэтак жа раптоўна патух, як і ўспыхнуў. Ён зняў шапку, выцер хусцінкай лоб, усміхнуўся і сказаў ужо роўным мірным голасам:

— Пры заняцці пазіцыі, асабліва па камандзе «да бою» і «адбой», кожнаму салдату вызначце месца канкрэтнага дзеяння, каб людзі не мітусіліся і ведалі, хто за што адказвае. Іменна ў гэтым залог хуткасці, дакладнасці, аператыўнасці. Залог поспеху! Усё зразумела? Да разлікаў! Праз дзесяць мінут — на марш!

Калі яны засталіся ўдвух, капітан Гайда сказаў Максіму:

— Звярніце ўвагу: першы ўзвод Мухіна працуе лепш. Тое, чаго не хапае Ціханаву.

— Адчуваецца адсутнасць вопыту,— згадзіўся Максім.

— Вось іменна — вопыту. А без яго ў арміі цяжка. Калі б я быў міністрам абароны, я б узаконіў абавязковую тэрміновую службу для кожнага маладога чалавека і толькі пасля гэтага дазволіў бы паступаць у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы. Забараніў бы аўтаматычна, як гэта робіцца цяпер, прыклейваць на пагоны афіцэрскія зоркі. Іншы, ведаеце, у званні расце ўверх, а кемнасцю ўніз. Што азначае такі камандзір на выпадак вайны? Я не кажу канкрэтна пра Ціханава. Наогул — лішнія і нічым не апраўданыя ахвяры. А кожны ж камандзір, якому даверана лёс людзей, павінен, абавязаны дасканала ведаць сваю справу. Бо ён распараджаецца чалавечым жыццём. А распараджацца ім можна па-рознаму.

— Але ж мне таксама аўтаматычна наклейвалі зоркі,— жартам сказаў Максім.

— Вы — іншая справа. Вы тры гады ў арміі служылі. Ад зараджаючага да сержанта. Вам дастаткова камандзірскіх збораў.

— Я з вамі на сто працэнтаў згодны, Віталь Захаравіч.

— Але ж і загаварыліся мы з вамі,— спахапіўся капітан Гайда.— Па машынах!

Калона зноў кранулася, папаўзла, паўтарыўшы выкананне першай каманды. На гэты раз Гайда застаўся задаволены і ніякіх заўваг нікому не зрабіў. Зняўшыся, батарэя перамясцілася ў глыб палігона, заняла пазіцыю.

Палігонам была шырокая пустая раўніна, занесеная снегам, заплямленая рэдкім хмызам, невялікімі

пералескамі, адзінокімі елкамі і соснамі. Тут былі розныя прыстасаванні для заняткаў танкістаў, мотастралкоў, зенітчыкаў, артылерыстаў. Голую мёртвую прастору акружала серабрыста-шэрая паласа сцятых марозам лясоў.

Мяла, кружылася замець, віхурачыся і ўзнімаючыся белымі кручанымі слупамі, насыпаючы снежныя дзюны, пагоркі і гурбы. А над застылым полем палігона, над неабсяжным снежным морам нерухома вісела туманна-шэрае неба.

На гэтай панурай раўніне, якая выклікала пачуцці смутку, закінутасці і адзіноты, на імгненне падалося Максіму дзіўным бачыць і самога сябе, і іншых людзей у салдацкім адзенні. Але гэтыя думкі ён адагнаў прэч, бо добра ведаў, што і палігон, і ўсё, што на ім размяшчалася, патрэбна, важна для яго, для яго батарэі, для ўсёй часці. Тут вучацца ваяваць, а значыць — абараняць Радзіму.

Раптам бязлюдная прастора палігона заварушылася і загаманіла, абуджаная чалавечымі галасамі.

— Асноўнай гармаце трыццаць тры нуль! Наводзіць у далёкую вяху!

— Ёсць наводзіць у далёкую вяху!

І, крыху пачакаўшы, калі гарматы былі гатовы да стральбы, зноў выразна прагучаў голас камандзіра батарэі:

— Па самалёту! Прыцэл восемдзесят чатыры! Асноўны напрамак! Агонь!

Яго каманду падхоплівалі камандзіры ўзводаў і разлікаў, і ствалы гармат ускідваліся, пагражальна нацэльваючыся на ўяўнага ворага.

— Агонь! — пачулася рэзкая, кароткая каманда.

— Агонь! — праз некалькі доляў секунды паўтарылі яе на ўсю сілу сваіх лёгкіх і свайго голасу камандзіры разлікаў.

Цішыня, глухая, мяккая, убірала, як губка ваду, адрывістыя галасы, не нараджаючы рэха.

Максім спярша стаяў ля камандзіра батарэі і назіраў за занятткамі. Усе былі заняты, ніхто не адлыньваў. Калі б і хацеў да каго-небудзь прыдрацца — не змог бы. Яму надакучыла быць у ролі назіральніка, і ён пайшоў да разлікаў: можа, давядзецца пагутарыць з людзьмі, падказаць што, падбадзёрыць. Гармату ён вывучыў няблага і мог падзяліцца сваімі ведамі.

— Таварыш нампаліт! — бег яму насустрач Птуха, па пояс асядаючы і правальваючыся ў снезе.

— Не бяжы! — крыкнуў яму Максім, і калі падышоў да салдата, той, задыхаўшыся, сказаў:

— Вунь той, што стаіць як слуп, гэта Папоў.

— Добра. Пойдзем.

Восьмы разлік замыкаў пазіцыю, і ісці да яго было далей, чым да іншых.

— Як справы, таварышы? — падышоўшы, спытаўся Максім.

— Нармальна,— з ахвотай адказаў сержант.— Толькі зараджаючы не ўкладваецца ў нарматыў. І вось той, што стаіць, на гармату не садзіцца. Замяніце яго, а то ў мяне аднаго чалавека не хапае.

— Хто зараджаючы?

— Стральчэня,— адказаў сержант.

— Я, таварыш нампаліт,— адгукнуўся салдат.

Максім глянуў на яго і, успомніўшы расказ пра алкаголіка, усміхнуўся. Гэта быў той, з цыганістай знешнасцю, які ўчора прапаноўваў яму выпіць. Стральчэня таксама адказаў яму добрай усмешкай.

— Што ў цябе не атрымліваецца?

— Вось і здаровы я, як бугай, а замок узвесці сілы не хапае. Нават самому сорамна. У нарматыў не ўкладваюся.

— Пакажы, як ты яго ўзводзіш.

Калі Стральчэня прарабіў усю аперацыю ад пачатку да канца, Максім пачаў тлумачыць:

— Галоўная твая памылка — ты працуеш адной рукой. А трэба дзвюма, з дапамогай корпуса. Вось так, паглядзі.

Максім папрасіў засячы час, узвёў замок, спусціў яго назад, у першапачатковае становішча.

— Ну як?

— Здорава! Сем секунд! — з зайздрасцю і здзіўленнем прамовіў Стральчэня.

— А ў цябе колькі?

— Пятнаццаць.

— Патрэніруешся — будзе менш. Я раней узводзіў за пяць.

— Даю слова, што на вучэннях паб'ю рэкорд. Камандзір гарматы будзе сведкай.

— Добра. Буду рады за цябе,— адказаў Максім і павярнуўся да Папова.

Салдат стаяў згорбіўшыся, калаціўся ад холаду. Прадаўгавата-вузкі з вострым падбародкам твар яго пакрыўся бледна-ліловымі плямамі.

— Чаму вы стаіце? Трэба рухацца, [redacted] то змерзнеце. Холад жа страшэнны.

— Я прывык і да холаду і да гарачыні. Мне нічога не страшна.

— Вы прысягу прымалі?

— Не, не прымаў.

— Да гэтага служылі?

— Год тэрміновую, але прысягу не прыняў.

— Гавораць, вы з салдатамі не хочаце размаўляць.

— А чаго яны! Баптыст, баптыст! Я не баптыст,— з крыўдай азваўся ён.— І потым, нампаліт часці ўсё ведае.

— Хто ж вы?

— Я набожны... І мая вера забараняе браць зброю ў рукі,— спакойна адказаў Папоў.

— Спадзяваюся, са мной вы пагутарыце?

— З вамі — канечне.

— Пагутарым другі раз. Толькі не стойце на месцы. Ногі адмарозіце,— і накіраваўся да наступнага разліка, дзе яго сустрэлі вясёлымі воклічамі:

— Таварыш нампаліт! У нас вялікая падзея!

— Што за падзея?

— Бязродны падстрыгся! — выпаліў Клыпа.

— Правільна зрабіў.

— А хто яго так абалваніў, га? Часам, не вы? — назойліва дапытваўся Клыпа, хітра прыжмурваючы вочы.

— Мне-то навошта? Ён — сам,— і хуткім позіркам акінуў Бязроднага. Той глядзеў у акуляр прыцэльнага прыстасавання і рабіў выгляд, што нічога не чуе. З-пад шапкі была відаць яго гола выстрыжаная патыліца. Нарэшце ён разам з сядзеннем павярнуўся да Максіма, прытворна пачаў прасіць:

— Таварыш нампаліт, ну скажыце вы ім, што я сам! Надакучылі з гэтымі пытаннямі: хто цябе, ды што, ды як... А то яны мяне так раззлуюць, што я ім фізіі папсую.

— Ніхто не прымушаў яго, таварышы. Што і пацвярджаю аўтарытэтна.

— Таварыш нампаліт,— ужо пераходзячы на другое, спытаўся Клыпа,— чаму гэта Чабурашка ўсё стаіць і стаіць на адным месцы?

— Які Чабурашка? — не адразу зразумеў Максім.

— Ну наш... узводны.

Хацелася адразу абарваць Клыпу, зрабіць яму вымову за нетактоўнае стаўленне да афіцэра. Аднак ён стрымаўся, ветліва зазначыў:

— Нядобра так, радавы Клыпа, гаварыць пра свайго камандзіра.

— Ён і праўда нейкі не такі, як усе... Смешны,— нікольκі не збянтэжыўшыся, зрабіў вывад Клыпа.

— Кожны чалавек, Клыпа, мае свой твар, свой характар. Ва ўсім свеце не знойдзеш двух зусім падобных людзей. І годнасць кожнага не ў тым, каб смяяцца з другога чалавека, а ў тым, каб разумець яго.

Клыпа нічога не адказаў, толькі задумаўся.

Так, не спяшаючыся, Максім абышоў усе разлікі і каля кожнага спыняўся. Адным нешта расказваў, другім — нечым памагаў, з іншымі проста гаварыў, жартаваў ці закурваў. Ён бачыў: салдаты не адгароджваюцца ад яго, а наадварот — цягнуцца да яго.

Не абышоў ён увагай і сваіх узводных. Мухін у сваім кароткім, да калень, шынялі, у фарсіста, на правае вуха ссунутай шапцы, у новых ботах, быў вельмі паважны. Ён то камандаваў узводам, то падбягаў да разлікаў і рабіў патрэбныя, але па-сяброўску бяскрыўдныя тлумачэнні, то, сабраўшы сержантаў, разбіраў і аналізаваў дапушчаныя памылкі. Максім не мог не прызнаць: Мухін быў на месцы, ведаў сваю камандзірскую справу.

Зусім інакш выглядаў Ціханаў. Шынель быў вялікі, з апушчанымі плячамі і доўгім крыссём, шапка на самыя вочы, боты таксама вялікія, з шырокімі халявамі.

Максім адчуваў і бачыў: паміж Ціханавым і яго ўзводам не было жывой сувязі, салдаты як быццам не мелі патрэбы ў ім і маглі без яго абысціся. Ціханаў таксама, як здавалася Максіму, не меў патрэбы ў іх, не адчуваў ні жадання, ні ахвоты быць з імі. Магчыма, Ціханаў і хацеў зблізіцца з салдатамі, але не ўмеў. Не ўмеў з-за сваёй адчужанасці, маўклівасці і замкнёнасці, з-за свайго панурага нетаварыскага характару, а магчыма, з-за гордага ўсведамлення сваёй перавагі над імі. Ціханаў не падыходзіў на ролю камандзіра ўзвода, Максім не памыляўся. Добра выхаваны, справядлівы да людзей, сумленны, прамы, ён мог паспяхова працаваць у любым армейскім штабе на ўзроўні

свайго звання. Стараннем, акуратнасцю ён здолеў бы хутка заваяваць аўтарытэт і павагу да сябе, узняцца па службе. Па натуры сваёй ён мог кіраваць толькі самім сабой, іншымі людзьмі ён кіраваць не мог і не ўмеў, а магчыма, і не хацеў. І як толькі аб'явілі перакур, Максім, сам не ведаючы чаму, накіраваўся да Ціханава, які стаяў паблізу свайго ўзвода, пляскаў у далоні і стукаў нагой аб нагу.

## 10

Учуўшы крокі, Ціханаў павярнуўся. Выгляд у яго быў прыгнечаны.

— Як настрой, Тарас Дзянісавіч? — спытаў Максім, каб пачаць размову.— У мяне страшэнна замерзлі ногі.

— Ад холаду нікуды не дзенешся. Яго цярпець трэба. А настрой... шчыра прызнацца — дрэнны.

— Што-небудзь здарылася?

— Ды не... Думаю вось, што не выходзіць у мяне... Многага не ведаю. Салдаты гэта адчуваюць і ў сваю выгаду карыстаюцца.

— Вы не кідайцеся ў роспач. Не ўсім жа быць вайсковымі. Вопыт прыходзіць не адразу. Я таксама не канчаў палітычнай акадэміі. Даводзіцца падвучвацца...

— Вы мяне з сабой не раўняйце. У вас тэрміновая за плячыма. Ды і сам вы, як я пагляджу, чалавек дзеяння. А я — чарвяк кніжны. Усё, колькі памятаю сябе, кнігі чытаў, з самага ранняга дзяцінства. Аднагодкі мае гульні ладзілі, потым спортам займаліся, потым дзяўчат кахалі. А я ўсё кнігі глытаў... Бацькі мае хацелі, каб я на іх раўняўся, каб інтэлектуалам стаў.

— Хіба гэта дрэнна, што вы многа чыталі, займаліся самаадукацыяй?

— Дрэнна, Максім Барысавіч. Вельмі дрэнна. Мае аднагодкі ў арміі служылі, а я ў гэты час аспірантуру заканчваў. Мае аднагодкі цаліну ўзнімалі, а я кандыдацкую пісаў. А чаго дасягнуў? Дысертацыю на чужых думках абараніў. Абараніць — абараніў. А хіба адкрыў што-небудзь? Адкрыцці робяць людзі сапраўды таленавітыя.

— Але ж трэба некаму займацца ў аспірантуры, пісаць кандыдацкія дысертацыі.

— Згодзен. Трэба, вядома, але тым, хто таленавіты, хто надзелены іскрай божай. Таму вось я і закінуў сваё выкладанне і пайшоў на завод. Праўда, спачатку нада мной пасмейваліся. Маўляў, дзівак нейкі. Мог бы жыць добра і грошы вялікія зарабляць. Простаму абывацелю не зразумець такога.

— І як на заводзе ў вас пайшлі справы?

— Выдатна. Слесар-расточнік шостага разраду. Аўтарытэт, павага. На дошку Гонару мой партрэт павесілі. Зусім нядаўна пасаду добрую прапанавалі. Але я адмовіўся. Быць адміністратарам не па мне. Самае важнае для мяне цяпер — гэта ўсведамленне таго, што я раблю канкрэтную, карысную грамадству работу. Я ганаруся. І нават шчаслівы.

— У гэтых адносінах я вам зайздрошчу, Тарас Дзянісавіч. Я вось працую намеснікам дырэктара невялікай арганізацыі. Па праўдзе кажучы, добрага мала. Усе табой кіруюць, усе з цябе патрабуюць, усе цябе лаюць. А што датычыць кніг — то гэта вы дарэмна. Я вам па-добраму зайздрошчу. Ведаеце, мне ў жыцці больш даводзілася зарабляць сабе на хлеб. Часу, каб чытаць, не было. А цяпер хацеў бы ўсё перачытаць, перагрызці, у мазгах пераварыць, ды няма калі: сям'я, работа, грамадскія абавязкі.

— Вы ведаеце, пра што я цяпер падумаў? — спытаў Ціханаў.— Лепшыя людзі ва ўсе часы імкнуліся стварыць на зямлі справядлівы парадак жыцця. Яны

далі чалавецтву мноства жыццесцвярджальных ідэй, стварылі навуку аб чалавечым шчасці. Скажыце, што значыць наша культура, калі ўспыхне трэцяя сусветная вайна і гэты касмічны шарык па імені Зямля, які насяляюць разумныя, высокаарганізаваныя істоты, згарыць? Каму будуць патрэбны Дантэ і Шастаковіч, Шэкспір і Бетховен, Энштэйн і Пушкін?..

Ціханаў змоўк. Нібы знясілеў, вызваліўшыся з палону думак, што, відаць, даўно мучылі і раздзіралі яго. Ён яшчэ больш згорбіўся, наставіў каўнер шыняля. Вялікія круглыя шэрыя вочы глядзелі некуды ў прастору са змрочным сухім бляскам і смуткам.

Што мог адказаць Максім? Ды і адказу ў яго Ціханаў і не патрабаваў. Ён проста разважаў, выкладваў набалелае і ў многім, бясспрэчна, меў рацыю. У многім памыляўся, многае тлумачыў хутчэй за ўсё няправільна. Але Максім разумеў: Ціханаў быў асобай незвычайнай, са сваім уласным, своеасаблівым мысленнем і светапоглядам. А той працягваў:

— Гісторыкі часам толькі бачаць голы прагрэс, без уліку таго, на чым ён вырас. А вырастае ён часцей за ўсё на касцях і чалавечай крыві. Хочаце прыклад? Калі ласка. Возьмем Напалеона Банапарта. Гісторыкі ўсяго свету захлёбваюцца і да гэтага часу ад яго велічы. Абсурд! Пісьменнікі пішуць яго біяграфію, паэты прысвячаюць яму вершы. Але ніхто з іх не гаворыць аб тым, колькі ва ўсім свеце ён загубіў чалавечых жыццяў, колькі пакінуў калек, сірот, удоў. Няхай гэта ўжо ў мінулым. Але ж гэта так. І ніводзін гісторык не ацаніў, колькі каштавалі свету чалавечае гора і пакуты. Усе карпелі над сусветнай гісторыяй, пісалі яе, замест таго каб пісаць гісторыю сусветных пакут чалавецтва... Ну і, скажыце, што цяпер засталося ад былой славы і велічы гэтага шалёнага карсіканца? Ля вёскі Студзёнка стаіць невялікі камень, які нагадвае аб тым, што там у 1812 годзе была канчаткова раз-

громлена французская армія. А на востраве Святой Алены яшчэ жыве чарапаха, сведка ганебнай гібелі Напалеона.— Ціханаў перапыніў сваю прамову і, каб сагрэцца, пачаў біць сябе рукамі ў трохпалых салдацкіх рукавіцах.

— Усё, што вы сказалі, даўно свідравала мой мозг. Толькі я не ўмею так, як вы, усё гэта выказаць,— задуменна сказаў Максім.— Я не пацвярджаю вашы думкі і не адвяргаю. Магчыма, у мяне не хапае падрыхтоўкі, каб разабраць такія праблемы і зрабіць вывады. Яны маюць права на існаванне і, магчыма, на больш сур'ёзнае сцвярджэнне. Я асабіста не падтрымліваю ніякіх ідэй і ніякага прагрэсу, што нараджаецца на чалавечых пакутах. Я супраць усякіх пакут, чым бы яны ні былі выкліканы... Нават каханнем. Чалавек адзін раз прыходзіць на зямлю. І ён павінен быць шчаслівы...

— Эй, камандзіры! Што вы там мерзнеце! — крыкнуў ім капітан Гайда.— Ідзіце пагрэйцеся!

Думаючы кожны аб сваім, яны накіраваліся да батарэі. Метраў за сто ад гармат салдаты з сабранага ламачча, старых дошак і карчоў развялі агонь. І цяпер цесна абступілі зыркае вогнішча, выцягваючы да полымя пасінелыя ад холаду рукі з нягнуткімі пальцамі. Калі яны падышлі, салдаты пасунуліся, Максім і Ціханаў уціснуліся ў круг, адчуўшы прыемнае і такое шчасліва-жаданае цяпло агню. Па твары, па руках, па ўсім целе пацякла прыемная млявасць. Грэліся, жартавалі, размаўлялі, пакуль не скончыўся перакур.

Пасля таго, як салдаты разышліся да гармат, і яны засталіся ўчатырох, капітан Гайда спытаў:

— Якое першае ўражанне камандзіраў узводаў?

— Мае працуюць нядрэнна,— адказаў Максім.— Яшчэ адна-дзве трэніроўкі — і можна хоць у бой.

— А як вашы, Ціханаў?

— Я, таварыш капітан, пакуль не магу нічога сказаць. Яшчэ не разабраўся,— нейкай вінаватай няёмкасцю і збянтэжанасцю азваўся Ціханаў.

— А дарэмна. Вы павінны былі сёння мець больш акрэсленую думку аб сваім узводзе.

— Па-мойму, Віталь Захаравіч, другі ўзвод таксама спраўляецца,— тактоўна заступіўся за Ціханава Максім.

— У мяне таксама думка станоўчая,— сказаў капітан Гайда.— Яшчэ два выезды зробім — і можна вучэнняў не баяцца.

— Людзі стараюцца,— сказаў Максім,— я быў ва ўсіх разліках. І абстаноўка там дзелавая. Салдаты займаюцца з ахвотай, прывыкаюць да гармат.

— Яшчэ з гадзінку пазаймаемся, і час вяртацца,— гледзячы на гадзіннік, сказаў капітан Гайда.

Яны разышліся. І зноў пачуліся гучныя, рэзкія каманды камандзіра батарэі:

— Па супроцьтанкавай гармаце! Прыцэл семдзесят тры! Асноўны напрамак! Адзін снарад! Агонь!

## 11

Кожны раз пасля вячэры Максім прыходзіў у батарэю пабыць сярод салдат, пакурыць, пагутарыць, пагуляць у шахматы або шашкі. Ды і салдаты прывыклі да яго, прымалі як свайго, блізкага ім чалавека. Ім падабалася ў нампаліце прастата і абыходлівасць, спакойны, роўны характар, уважлівасць да людзей.

У гэты вечар у батарэі было шумна і весела. Салдаты з жывой цікавасцю назіралі імправізаванае жартоўнае прадстаўленне, якое разыгрывалі Клыпа і Стральчэня. Першы іграў старшыну, другі — маёра Шалага.

Клыпа цяжкай паважнай паходкай, шырока рас-

стаўляючы кароткія ногі, перавальваючыся з боку на бок, пакрыквае строга, па-начальніцку:

— Днявальным падраўняць ложкі! Заправіць пасцелі! Пачысціць «плахоны».

У гэты момант уваходзіць Стральчэня, і Клыпа на ўсё горла раве:

— Батарэя, смірна! — і затым на сагнутых нагах тупае да Стральчэні. Раптоўна спыніўшыся, выцягваецца, выпяўшы грудзі, ад страху, стараннасці вытарашчыўшы вочы, дакладвае:

— Таварыш маёр! Рота спала, рота ўстала, рота выйшла на абед!..

Па казарме пакаціўся смех. Стральчэня, выслухаўшы не вельмі зразумелы даклад старшыны, прымае пагардліва-насмешлівую позу начальніка, пытае:

— Што з вамі здарылася, старшына?

— Нічога, таварыш маёр,— знарок спалохана адказвае Клыпа, працягваючы заставацца ў ранейшай позе.

— Што ў вас за даклад? Двух слоў звязаць не можаце. Якая рота, калі ў вас батарэя,— пачынае распякаць яго маёр.— Колькі разоў вам гаварыў: калі не атрымліваецца, запішыце сабе і вывучыце на памяць.

— Ды я ведаў, таварыш маёр,— дурасліва апраўдваецца старшына.— Гэта ў мяне ад хвалявання перад начальствам.

— Вось як-небудзь зойдзе камандзір часці, выслухае ваш даклад і потым вас разнясе, праглыне і боты выплюне.

Салдаты пляскаюць у далоні, рагочуць, выкрыкваюць:

— Так яго! Так, таварыш маёр!

— Душы крупаеда!

— На мыла старшыну!

— Шэсць гадзін яму страявой!

З другой палавіны казармы з абурэннем крычаць:

— Салагі! Заткніцеся!

— Дайце паслухаць канцэрт!

«Маёр», важны і прамы, як палка, не ідзе, паважна ступае, з вышыні пазірае на старшыну, час ад часу кідаючы абыякавы погляд па баках. Старшына тупае следам, адстаўшы на паўкрока, з пакутлівым выразам на твары.

— Праверце — ці ва ўсіх ёсць алюмініевыя кацялкі? Хутка вучэнні.

— Люміневыя кацялкі ёсць ва ўсіх, таварыш маёр. Я правяраў.

— Колькі разоў я вам гаварыў, старшына,— з раздражненнем заўважае маёр,— не люміневыя, а алюмініевыя!

— Я ж і гавару: люміневыя,— па-ранейшаму дурыцца старшына.

— Алюмініевыя, старшына! Алюмініевыя! Алюмініевыя!!! — грозна, разгневана крычыць маёр.

— Вінават. Выпраўлюся, таварыш маёр,— зусім ціхім голасам шэпча старшына.

— Я ўсё... неяк... хацеў спытаць, якая ў вас адукацыя.

— Два класы з братам на двух... Грузчык-прафесіянал.

— Так, няважна, няважна, старшына,— прыкра і заклапочана зазначае маёр,— да нас замежная дэлегацыя прыязджае. Вам жа гаварыць давядзецца. Якімі мовамі валодаеце?

— Ды рознымі, таварыш маёр,— выпальвае старшына.

— Якімі ж гэта рознымі?

— Ды рознымі замежнымі, а вось роднай са слоўнікам,— не адразу адказвае ён.

— Ох і мастак, старшына! Ну і мастак!

Усе рагочуць, аж пакатваюцца. Можна было перапыніць гэта здзекліване прадстаўленне, палічыць яго

абразай і знявагай. Але Максім не стаў гэтага рабіць. Ён ведаў, што такога старшыны, якім яго паказалі, няма ў арміі і не можа быць. Але наш чалавек здатны на выдумку, а тым болей стаўшы салдатам. Сабраўшы па крупінцы адмоўныя рысы, якія ёсць у арміі ў асобных людзей, салдаты па-свойму, як разумелі, вылепілі гэтыя фальклорныя вобразы.

Для яго важна было іншае: і гэтыя нязлыя жарты, і здаровы смех, і бадзёры настрой людзей, і заняткі на палігоне — усё сведчыла аб нараджэнні воінскага калектыву.

Пасля выступлення «артыстаў», як гэта бывае заўсёды, сярод людзей знайшліся музыканты. Ужо ў другім канцы казармы нехта на сталовых лыжках адбіваў чачотку. А ў салдацкім коле, ляпаючы сябе па халявах ботаў, па нагах, па плячах, з запалам, тэмпераментна, з прысвістам і цоканнем абцасаў, танцаваў Птуха. Калі, стомлены, ён вырваўся з кола, на змену яму прыйшоў гарманіст, па-саліхвацку расцягнуў мяхі, зайграў з нястрымным размашыстым спрытам. І некалькі пар пад мерныя воплескі рванулася ў кола, пусціліся ў скокі. Не вытрымаўшы, аднекуль вынырнуў Стральчэня і павёў лезгінку. Ён быццам не танцаваў, а плыў мякка, грацыёзна, з гордым выглядам і па-жаночы прыгожымі плаўнымі рухамі рук. Гармонік на некаторы час замоўк, а з натоўпу ляцела захапляючагарачае, усхваляванае:

— Ас-с-с-а-а! Ас-с-с-а-а-а!

І ён загарэўся яшчэ болей і пайшоў, і пайшоў усё хутчэй і хутчэй, паблісквочы чорнымі вогненнымі вачыма, нібы растваражочыся ў танцы.

І гэты танец раптам выклікаў у Максіма ў памяці маляўнічыя каўказскія пейзажы ў сляпучай белізне снежных шапак, у рэдкай шчацінастай зеляніне лясоў на схілах гор. Успомніўся мяккі, вільготна-салёны пах мора, гарачае нерухомае паветра, напоенае даўка-са-

лодкімі, духмянымі выпарэннямі трапічных раслін, кветак і траў, начны спеў цыкад у густой цемры цёплай ночы. Усяго толькі адзін раз, у маленстве, быў Максім на Чорным моры. І вось цяпер успомнілася яму — так выразна, ярка, нібы толькі ўчора ён вярнуўся адтуль.

Салдаты весяліліся сабе, а ён пайшоў у ленінскі пакой. Праз колькі часу ўбег Птуха:

— Таварыш нампаліт, пойдземце са мною.

— Што здарылася?

— Ды хлопцы там...

— Нашы?

— Нашы. Там, у курылцы...

— А ты куды глядзіш, камсамольскі важак?

— Яны не слухаюць мяне.

— Добра. Пойдзем разам! — і хуткім крокам рушыў у курылку. Яшчэ на калідоры пачуў, як гаманіў натоўп. Разабраць было цяжка: гаварылі сярдзіта, гучна — і ўсе адразу.

Максім адчыніў дзверы.

Імгненна ўсе сціхлі.

— Што тут робіцца? — сурова спытаў Максім.

Маўчанне. Зацятыя, суровыя, нахмураныя твары. Наперадзе ўсіх — Бязродны з паперай у руках, Папоў у ваяўнічай позе.

— Што тут робіцца? — паўтарыў пытанне Максім.

— Мы хацелі, каб гэты салага напісаў нам чорным па беламу, што збіраецца прысягу прыняць. Адзін ён пакуль не прыняў,— усхвалявана пачаў тлумачыць Бязродны.

— Якую прысягу? Хто вам дазволіў займацца самаўпраўствам? Дзе сержанты? Чаму дапусцілі такое? — не на жарт абурыўся Максім.

У адказ яму пасыпаліся пытанні, папрокі:

— Чаму ён не хоча служыць?!.

— Прысягу не прымае...

— Што, мы за яго будзем ваяваць, калі спатрэбіцца?!.

— Выхаваем яго, цёмнага!..

— Няма чаго пайку салдацкую тут проста так жэрці!

— Сціхніце! — перапыніў іх Максім.— Мы самі з ім разбяромся. Загадзя папярэджваю: хто пачне прымушаць хлопца, таго будзем караць нашым савецкім законам. Зразумелі? А цяпер ідзіце ў казарму! А вы, Папоў,— са мной.

Сярдзітыя, маўклівыя, салдаты разыходзіліся неахвотна. Калі Максім з Паповым прыйшлі зноў у ленпакой, той сказаў:

— Вы не думайце, што я баязлівец. Адзін на адзін з кожным з іх магу...

— Умець гэта — не самая галоўная годнасць мужчыны. І мужчынская сіла не ў кулаку, а ў розуме,— сказаў яму Максім.

— Я не хвалюся. У сваім жыцці яшчэ ні на кога руку не падняў. Казяўкі не зачапіў.

— Колькі вам гадоў? — спытаўся Максім.

— Дваццаць чатыры.

— Бацькі ёсць?

— Так.

— Таксама набожныя?

— Так, набожныя.

Максім хадзіў па пакоі. Як і аб чым гаварыць з гэтым дзіўным чалавекам? Загадваць яму? Пераконваць? Спрачацца?

— Даўно вы сталі набожным?

— Гадоў з васемнаццаці.

— Вас далучалі бацькі да веры?

— Бацькі далучалі даўно. Але я не хацеў, таму што не верыў. А як паверыў — згадзіўся.

— А як гэта здарылася?

— Што тут дзіўнага? — сказаў Папоў.— Многа людзей на зямлі набожных, паважаюць рэлігію.

— Больш правільна — верацъ механічна. Ды ці вераць? Гэта яшчэ невядома... Дык як жа здарылася? — паўтарыў пытанне Максім.

Папоў задумаўся, замоўк.

— На гэта цяжка адказаць адразу.— І, быццам вяртаючыся думкамі да нечага балючага і страшнага, пачаў гаварыць: — Яшчэ ў дзяцінстве я пачаў думаць пра жыццё. У нас у вёсцы многія любілі павесяліцца, пакуражыцца на святы... І мужчыны і жанчыны. І я піў гарэлку, буяніў, дзяўчат мяняў-разменьваў. І ні ў чым не знаходзіў асалоды і радасці. Усё абрыдла. Душа мая пакутавала, мучылася. І тады на дапамогу прыйшлі бацькі. Прынеслі Евангелле, і я пачаў чытаць, і Пасланні апосталаў чытаў. З Новым і Старым запаветам пазнаёміўся...

— І так вы сталі набожным? — спытаўся Максім.

— За мінулае сваё я пакаяўся. А цяпер выконваю статут рэлігійны. Страсць сваю сунімаю. Не п'ю, не куру, не лаюся брыдкімі словамі. Не так, як іншыя...

— Але вось вы не хочаце абараняць радзіму. Не забі блізкага свайго. Так, ці што?

— Так. Я не магу і не маю права парушыць гэты запавет.

— А калі прыйдуць забіваць вас, вашу сям'ю, вашых бацькоў?.. Што вы тады будзеце рабіць?

— Я буду абараняцца,— цвёрда адказаў ён.

— Значыць, абараняцца вам можна, а абараняць радзіму нельга?

— Калі трэба — буду абараняць. Але цяпер зброі ў рукі не вазьму. Той, хто яе трымае, ужо гатоў зрабіць зло. Зло нараджае зло. Калі б усе людзі на зямлі перасталі браць у рукі зброю, не было б ні зла, ні гвал-

ту, ні пралітай крыві, ні чалавечых пакут. Пра гэта яшчэ Леў Талстой гаварыў.

— Значыць, вы за несупраціўленне злу?

— Уся́кае супраціўленне падвойвае зло і гвалт. Пакорлівасць жа не нараджае ні таго, ні другога.

— А чаго ж вы не змоўчалі хлопцам? Хіба не карцела душы адказаць гвалтам? — І чакаў, што скажа Папоў, але той маўчаў, нечым уражаны.— Вось што, Адам. Размовы сур'ёзнай далей у нас не атрымаецца. Мы з табой па-рознаму разумеем сур'ёзныя рэчы. Спрачацца з табой я цяпер не стану. Але ў вольны час пастарайся пагаварыць з лейтэнантам Ціханавым. Ён гісторык, і табе будзе цікава.

Папоў пайшоў. Максім глянуў на гадзіннік і падумаў, што зноў не выспіцца: была першая гадзіна ночы. І ціха, стараючыся не грукаць ботамі, пайшоў да ложка.

## 12

Раніцой наступнага дня адбылося незвычайнае здарэнне. На паверцы выявілася, што няма Клыпы і двух чалавек з батальёна. Далажылі капітану Гайдзе і маёру Шаламу.

Спачатку рашылі паслаць на пошук, але потым перадумалі і звязаліся з камендатурай. Адтуль паведамілі, што ўчора ў розны час патрульны нарад затрымаў трох самавольнікаў. Усе трое былі з батальёна. Забіраць іх паслалі афіцэра.

Максім з прыкрасцю перажываў гэты выпадак. Прайшло гэтулькі часу ад пачатку збораў — і ніводнага чэпэ. А тут на́ табе! І ў яго батарэі — не Папоў, не Стральчэня, нават не Бязродны, а Клыпа. Маленькі, шчуплы, з рабаціннем на твары і рознакаляровымі вачыма. Максім не хацеў верыць. Але факт заставаўся фактам. І Гайдзе і яму, як нампаліту, абавязкова

зробяць папрок за выхаваўчую работу. А яму ж так хацелася, каб яго батарэя, якую ўжо цяпер пачалі выдзяляць з добрага боку, на вучэннях была лепшай за іншыя.

Калі самавольнікі прыйшлі, усе са здзіўленнем заўважылі, што Клыпа быў у цывільным. Вялікая шэрая заечая шапка, паношанае паліто рабілі яго яшчэ меншым.

Салдаты сустрэлі яго жартамі, распытвалі, пасмейваліся і кпілі.

— Віншуем з дэмбелем, Клыпа!

— Як гэта ты ўмудрыўся раней за ўсіх?!

— Ён па стану здароўя, хлопцы.

Клыпа бянтэжыўся, няёмка, сарамліва ўсміхаўся. Тут жа пастроілі батальён.

Начальнік збораў маёр Шалы разбіраў справу. Да першых двух, танкістаў, ён аднёсся паблажліва. Аказалася, што салдаты пайшлі ў магазін па цыгарэты, таму што гарнізонны буфет у гэты дзень не працаваў. Яны чакалі трывогі і баяліся застацца без курэння. Шалы аб'явіў ім пасля вучэнняў па два нарады без чаргі. Тыя без крыўды прынялі пакаранне і сталі ў строй. Клыпа, застаўшыся адзін, ужо больш не ўсміхаўся. Ён спалохана і ўсхвалявана, як злоўлены звярок, касіў вачыма спадылба па баках.

— Як ваша прозвішча? — спытаўся маёр Шалы.

— Радавы Клыпа.

— Не відаць, што радавы. Дзе ваша абмундзіраванне?

— У рукзаку, пад ложкам.

— Даставайце.

Клыпа выцягнуў пузаты рэчавы мяшок, развязаў, дастаў з яго шынель, потым боты, гімнасцёрку і пояс.

— Як вы ў цывільным выйшлі з часці?

— Я пасля адбою,— пачаў расказваць Клыпа.— Калі ўсе спалі. Падгледзеў, як днявальны пайшоў пры-

біраць туалет. Ну і за дзверы. А потым — цераз плот. У гэты час патруль вяртаўся. Я на яго і натрапіў.

— Як натрапіў? — дапытваўся Шалы.

— Пералез — а яны перада мной. Адзін яшчэ гаворыць: «Ну, заяц, пачакай!»

Пачуўся смех.

— Уцякалі вы ад патрульных?

— Не. Куды там? Іх было трое. Усё роўна дагналі б.

— Адкуль жа ў вас такі вопыт у гэтай справе? — насмешліва спытаўся маёр.

— З тэрміновай, таварыш маёр.

— Скажыце, чаму вы пайшлі ў самаволку?

— Пайшоў, таму што ведаў: не дазволяць. Але я да дзяўчыны. А яна не любіць ваеннае, кажа: «Табе не падыходзіць гэтая форма».

— Вашай дзяўчыне не падабаецца салдацкая форма? — са здзіўленнем спытаў камбат і працягваў: — Тая форма, у якой змагаліся нашы бацькі?.. Тая форма, у якой адстаялі Сталінград, Маскву?!. Тая форма, у якой узнялі сцяг над рэйхстагам?!! Я сам з такой бы дзяўчынай не сустракаўся, радавы Клыпа. А што датычыць вас, то вы — самавольшчык. І мы вас пад суд можам аддаць. Але ўлічваючы, што вы малады і яшчэ можаце ўсвядоміць сваю памылку...

Камбат змоўк. Маўчаў і строй. Ніводнага руху, ніводнай усмешкі. Твары ў салдат былі хмурыя і строгія.

Ён павярнуўся да строю, пачаў гаварыць, цвёрда чаканячы словы:

— Я прашу ўлічыць адну акалічнасць. Дзяржава, клапоцячыся аб боегатоўнасці ўзброеных сіл, узяла на сябе вялікія выдаткі на вашу перападрыхтоўку. Вас кормяць, апранаюць. Апроч таго, вы атрымліваеце заработную плату. Таму хачу вам нагадаць, што ўсе выдаткі такога парадку мы кампенсуем за ваш кошт, таварышы салдаты. Нампаліту зенітнай батарэі падрых-

таваць пісьмо аб паводзінах радавога Клыпы і накіраваць туды, дзе ён працуе. Каб пазбавілі яго заработнай платы і прэміяльных за час армейскіх збораў. Такі ж лёс чакае кожнага, хто будзе парушаць воінскую дысцыпліну.

У казарме ўсталявалася цішыня — нядобрая, цяжкая. Усе ведалі, што камбат — вясёлы, просты, добры і велікадушны, але ў той жа час, калі датычыць воінскай дысцыпліны, да жорсткасці бязлітасны і няўмольны: як сказаў, так і зробіць.

— Хачу давесці да вашага ведама, што сёння на працягу сутак чакаецца баявая трывога. Прашу быць у поўнай боегатоўнасці. Вадзіцелям яшчэ раз праверыць тэхніку. Астатнім на занятка, згодна з планам.

Пасля разводу Максіма выклікалі ў штаб да нампаліта часці. Пераступіўшы парог кабінета, ён адрэкамендаваўся.

— Добры дзень,— усміхнуўшыся, падаў яму руку падпалкоўнік.— Сядайце, расказвайце, як справы.

— Усё нармальна. Толькі вось сёння выпадак быў непрыемны.

— Ведаю. Дакладвалі... Як яго прозвішча, Кныпа?

— Клыпа,— паправіў Максім.

— Што ён за чалавек?

— Салдат як быццам нядрэнны. Спраўны.

Максім падумаў, што падпалкоўнік пачне папракаць яго за выхаваўчую работу. Але той толькі раздумліва сказаў:

— Не ведаеш і не прадбачыш часам, што салдат можа выкінуць. Усё залежыць ад яго маральнай устойлівасці і палітычнай свядомасці. За дваццаць гадоў работы ў войсках усякага нагледзеўся... А так у батарэі справы, кажаце, ідуць нядрэнна?

— Так, таварыш падпалкоўнік.

— Сёння ноччу мы разгортваем часць.

— Нам ужо сказалі.

— З тэхнікай людзі знаёмыя? Да цяжкасцей, да холаду падрыхтаваны?

— Так точна. Падрыхтаваны.

— У камандавання меркаванне аб вашай батарэі нядрэннае. Спадзяюся, не падведзяце?

— Пастараемся, таварыш падпалкоўнік.

— І самі глядзіце — не падкачайце. У цяжкую хвіліну мы, камісары, павінны быць з людзьмі,— роздумам гаварыў падпалкоўнік.

— За сябе я не турбуюся,— упэўнена адказаў Максім.— У тэрміновай не раз была магчымасць паспрабаваць сябе на трываласць. Вытрымаў — і цяпер вытрымаю.

— Ну вось і добра,— ухвальна сказаў падпалкоўнік.

— Мне можна ісці? — спытаў Максім, устаючы.

— Спяшаецеся?

— Не...

— Дык сядайце,— паклаў ён руку Максіму на плячо і ўсміхнуўся па-юначы адкрытай усмешкай.— Я вось аб чым хачу з вамі параіцца... У мяне наспела цвёрдае рашэнне адправіць гэтага набожнага дадому.

— Вы маеце на ўвазе Папова?

— Так.

— Не трэба, таварыш падпалкоўнік.

— Чаму?

— Я з ім гутарыў. Ён стаў набожным ад расчаравання, не па перакананнях. У нас, вядома, няма часу для перавыхавання. Але хто ведае? Можа, ён яшчэ і возьме ў рукі зброю.

— Але ж ён кепска ўплывае на воінскі калектыў.

— Наадварот, салдаты асуджаюць яго і нават успрымаюць варожа... Няхай ён задумаецца і над гэтым.

— Вы настойваеце на тым, каб яго пакінуць у падраздзяленні?

— Настойваю, таварыш падпалкоўнік. Для яго гэта будзе карысна. Ён мне патрэбны і па другой прычыне: я збіраюся яго перавыхаваць.

— Глядзіце, яшчэ і праўда перавыхаваеце,— з жартаўлівай іроніяй сказаў нампаліт.

— Усё можа быць. Не святыя гаршкі лепяць,— у тон яму жартам адказаў Максім.

— Дамовіліся. Пакідаю пад вашу адказнасць.

У батарэі Максім знайшоў Ціханава, расказаў пра Папова, не забыўшы расказаць пра гутарку з нампалітам, папрасіў яго пагаварыць спачатку з Паповым. Ціханаў ахвотна згадзіўся.

Тут, у казарме, ён сустрэў старшыну Смірнова, які адрэкамендаваўся яму па ўсёй форме як старшына зенітнай батарэі.

— Чаго гэта вас з аднаго ды раптам у другое падраздзяленне?— спытаў Максім.

— У вас па штатнаму раскладу павінен быць старшына, а яго няма. Вось мяне і паслалі на час вучэнняў.

— Вы ў курсе, Кузьма Савельевіч, нашых планаў?

— Так, і ўжо займаюся. Атрымаў для батарэі фуфайкі, ватнікі, валёнкі, тэрмасы. Засталіся яшчэ палаткі.

— Прашу вас нічога не забыць. Уважліва прадумайце ўсё, што трэба нам мець. Салдат павінен быць добра апрануты, абуты і накормлены. Інакш ён не салдат.

— Не турбуйцеся, таварыш старшы лейтэнант. Усё будзе выканана дакладна і ў тэрмін.

Аднак старшына Смірноў прыбег праз гадзіну і далажыў, што намеснік па тыле Мяцельскі выдаў яму толькі дзве палаткі замест чатырох.

— Камандзіру батарэі дакладвалі? — спытаўся Максім.

— Не. Шукаю і ніяк не магу знайсці яго.

— Добра. Я сам пайду да Мяцельскага,— сказаў Максім.— Дзе ён цяпер, не ведаеце?

— Там, на складзе.

У Максіма з'явілася адчуванне нейкай непрыемнай слабасці. Ісці да інтэнданта не хацелася. Але ісці трэба было.

На складзе стаяў неймаверны шум. Кладаўшчыкі, у большасці сержанты звыштэрміновай службы, былі няўмольныя, патрабавалі парадку. Старшыны іншых падраздзяленняў лезлі напралом, спрачаліся з імі, стараліся як мага хутчэй, лепш і больш узяць для сваіх падраздзяленняў. Падпалкоўнік Мяцельскі стаяў збоку і абыякава назіраў, не ўмешваючыся ў сварку. «Пагаворыце, пагаворыце ды на сваім і сядзеце. А мяне гэта не датычыць»,— гаварыў выраз яго твару.

— Таварыш падпалкоўнік, дазвольце звярнуцца.

— Калі ласка.

— Зенітнай батарэі выдалі дзве палаткі замест чатырох.

— Ну і што?

— Я прашу выдаць яшчэ дзве.

— Няма. Разумееце, няма. Энзэ чапаць нельга.

— Дзе загадаеце размяшчаць людзей на вучэннях?

— Гэта ўжо самі думайце. Раней неяк абыходзіліся.

— Я не ведаю, як абыходзіліся раней. Я прашу выдаць палаткі. Мы памарозім людзей.

— Людзі могуць паспаць і ў машынах.

— Таварыш падпалкоўнік, у такі мароз паспаць у машыне?

— Спалі мы! На сырой зямлі спалі! На снезе. Днямі, тыднямі, месяцамі!

— У вайну гэта было выклікана неабходнасцю, а цяпер?..

— Перастаньце распінацца, старшы лейтэнант,—

узвысіў голас Мяцельскі.— У вас салдаты, а не піянеры. Прывучыцеся да думкі, што вы ў арміі, дзе людзі павінны перажываць і пераадольваць цяжкасці. І не задавайце мне больш недарэчных пытанняў! Зразумела?! А цяпер кругом, марш!

Максіма скаланула. Ён сціснуўся ўвесь, падумаў: «Пасля збораў абавязкова напішу скаргу ў акругу», а потым сказаў:

— Па-першае, калі ласка, мной не камандуйце. Я вам не падначалены. Па-другое, хто вам даў права са мной такім тонам размаўляць? Я афіцэр.

— Раю — менш гаварыць, а больш рабіць,— павучальна кінуў ён Максіму і адвярнуўся, усчаў другую размову.

Максім пайшоў.

Па натуры ён быў чалавекам з абвостраным пачуццём самалюбства, гордасці і годнасці. Тое, што іншых ледзь толькі кранала, Максіма балюча раніла, і ад гэтага ён моцна, пакутліва перажываў.

Смірноў ледзь паспяваў за ім і суцяшаў Максіма.

— Не бярыце да галавы, таварыш старшы лейтэнант. Што датычыць палатак, то я знайду. У мяне тут свае хлопцы на складах.

— Я, Кузьма Савельевіч, маю цвёрдыя прынцыпы. Ні на якія здзелкі са сваім сумленнем не іду.

— Ну што вы з гэтым Мяцельскім зробіце? Не дае — і ўсё. У арміі, самі ведаеце, мае рацыю той, у каго больш правоў.

— Я так не думаю. Наша армія пабудавана на справядлівых прынцыпах. Будзе мець рацыю той, хто робіць справядліва. А я раблю менавіта так.

Старшына змоўк. У казарме Максіма захліснулі іншыя справы і клопаты. Выпадак з Мяцельскім на некаторы час забыўся.

Пад канец дня Максім вырашыў яшчэ раз парагаварыць з Паповым адносна вучэнняў. Максім жа

ўзяў яго пад сваю асабістую адказнасць. І што б цяпер ні здарылася, прыйдзецца яму, Максіму, адказваць за ўсё.

Салдат з'явіўся ў момант. Было відаць, што ён у добрым гуморы.

— Слухаю вас, таварыш нампаліт.

— Сёння ноччу нас падымуць па трывозе. Пачнуцца вучэнні. Усе атрымаюць асабістую зброю.

— Вы хочаце, каб я ўзяў аўтамат? — хутка і рэзка перабіў яго Папоў.

— Так... Прашу цябе ўзяць аўтамат.

Салдат неяк адразу ўвесь панік. Плечы яго бязвольна апусціліся, твар пацямнеў.

— Я думаю, ты згодзішся са мной.

— Што скажуць мае бацькі?.. Яны мне не даруюць гэтага...

— Прысягу ты не прыняў, таму ніякіх абавязацельстваў ні перад кім не нясеш. А возьмеш у рукі зброю — значыць, знімеш непрыхільнасць салдат да сябе. Людзі паглядзяць на цябе зусім іншымі вачыма. Яны пачнуць паважаць цябе як роўнага сярод роўных. Хіба табе гэта не важна?

— Вазьму аўтамат... А потым прымусіце прысягу прыняць? Адмоўлюся — а вы мяне ў дысбат?

— Не, Адам. Ты сваю кару атрымаў. І цяпер ніхто не мае права цябе судзіць. Ёсць толькі суд твайго сумлення.

— Я ведаю, пасля вучэнняў будзеце мяне ўгаворваць, каб я прыняў прысягу.

— Не ведаю. Магчыма, буду, але толькі пераконваць. Гэта маё права — нампаліта.

— Добра. Аўтамат вазьму, але без патронаў. І страляць не буду,— рашуча сказаў Папоў.— І прысягу прымаць не буду.

— Да прысягі табе яшчэ далёка, Адам. Яе прымаюць з радасцю, з гордасцю, з перакананнем і верай

у нашу справядлівую справу. Яе хутчэй не прымаюць, а ўспрымаюць розумам, сэрцам, усёй крывёю і вымаўляюць, як клятву на вернасць Айчыне. Таму ніхто цябе прымушаць не будзе. Максім усміхнуўся, не ганарыста ад усведамлення сваёй выключнасці, а таму, што атрымаў хоць невялікую, але перамогу.

Папоў працягваў:

— Тады на палігоне мне было страшэнна холадна. Але ніхто нават не пацікавіўся, як я сябе адчуваю. А вы падышлі і замест таго, каб лаяць мяне, клапаціліся пра мяне, турбаваліся, каб я не змёрз.

— Гэта я па прынцыпу: «Любі бліжняга свайго»,— жартам укалоў Максім.

І яны ўсміхнуліся адкрыта і даверліва.

## 13

Трывогу аб'явілі ноччу. Прахапіўшыся, Максім не адразу зразумеў, што адбылося. У казарме стаяў роагат. Аказалася, што камандзір узвода лейтэнант Богакаў усю ноч прасядзеў на крэсле ля ўвахода з рэчавым мяшком за плячыма, каб па трывозе першаму спусціцца ў падраздзяленне. А потым заснуў так моцна, што яго давялося будзіць.

Максім паспешліва, але без мітусні сабраўся і пабег у батарэю. Салдаты атрымлівалі зброю, станавіліся ў строй. Чуўся зычны і рэзкі голас Гайды, які прыспешваў марудлівых. Праз некалькі хвілін батарэя бегла ў аўтапарк. Пад нагамі з сухім капусным хрустам крышыўся снег. Цёмнае неба было высокім і чыстым, у крапінах рэдкіх і буйных зорак.

У парку гулі маторы. З боксаў выпаўзалі танкі, бронетранспарцёры, цягачы і выстройваліся ў калону. Начная цішыня парушылася камандамі, загадамі, часам выкрыкамі або хуткімі і кароткімі размовамі.

Батарэя заняла месца ў агульнай калоне і была

гатова да маршу. Максім спытаўся ў камандзіраў разлікаў, ці ўсё на месцы, залез у кабіну апошняй машыны. Калона рушыла. Спачатку ехалі праз пасёлак, які таксама прачнуўся ад гулу матораў. Выхаплены з імглістай цемры асляпляльна-яркім святлом фараў, ён меў казачна-маляўнічы выгляд. Вось на павароце тоўсты слуп святла ўпёрся ў нейкі дом, і Максім убачыў матавыя шыбы вокнаў у чорным пераплёце рам. Пад вокнамі, як падушкі, ляжалі гурбы снегу. Высокая бяроза ў шэрані, быццам зроблена з крышталю. За плотам такі ж крыштальна-белы маляўніча-фантастычны сад.

Хутка збочылі на палявую дарогу і рушылі наперад. Удалечыні, у густым змроку віднелася толькі белая раўніна, хвалістая няроўнасць снежных гурбаў. Там-сям іголкамі тырчэла шэрае ржышча, высіліся стагі ці кучы саломы пад снегам. Толькі дзе-нідзе маячылі рэдкія агні электрычных лямпачак, нагадваючы аб чалавечым жыллі, цеплыні, хатняй утульнасці.

Максім падумаў пра жонку, пра дачку, якія саладка спяць і не думаюць, і не ведаюць, дзе ён і што [illegible] ім.

Манатоннае гудзенне матора, салодкае цяпло кабіны паступова закалыхвала. Навальвалася дрымотная слабасць, хіліла да сну. І каб не заснуць, Максім рашыў на першым жа прыпынку перасесці ў кузаў.

Яшчэ напярэдадні цвёрда надумаў ехаць разам з салдатамі, каб перажыць усе цяжкасці, якія выпадаюць на вучэннях: і холад, і бяссонніцу. Інакш які ён нампаліт, калі ўсе вучэнні прасядзіць і праспіць у цёплай кабіне?..

Калона рухалася без затрымак. І Максім чакаў. Ужо прыкметна растапілася чарната ночы. Світала. Шыза-шэры змрок зліваўся з мяккім сінявата-ліловым водбліскам снегу, ярчэй абазначаючы ўсё, што было навокал.

Нарэшце спыніліся ў рэдкім пералеску. Максім

выйшаў з кабіны, каб пахадзіць, размяць цела. Мароз балюча хапаў за вушы, нос, склейваў павекі. Праз некалькі хвілін з галаўной машыны даляцела:

— Камандзірам узводаў і разлікаў да камандзіра батарэі!

Застукалі дзверы кабін. Усе, каго датычыла каманда, пабеглі, спатыкаючыся ў глыбокім снезе. Пабег і Максім, адчуваючы на твары пякучы подых паветра.

— Прашу ўвагі,— сказаў Гайда.— Строга папярэдзіць механікаў-вадзіцеляў аб захаванні дыстанцыі паміж машынамі. Кантралюйце іх, каб не заснулі. Калі хто-небудзь з вадзіцеляў засне, гэта можа прывесці да чалавечых ахвяр... Ісці будзем доўга, без прыпынкаў. Можа, суткі, можа, двое. Наша асноўная задача — прыкрыццё танкавага батальёна з паветра.

— Якая хуткасць, таварыш капітан?

— Трыццаць пяць, сорак кіламетраў.

— Калі будзе снеданне?

— Прыкладна ў сярэдзіне дня. Яшчэ пытанні ёсць?

— Няма.

— Пераапраніце і пераабуйце людзей ва ўсё цёплае. Глядзіце, каб ніхто не абмарозіўся. Сёння — мінус дваццаць пяць. Прагнозы не суцяшальныя. Вятры, марозы, мяцеліцы. На гэтым усё. Вы свабодныя.

Каля машыны да Максіма падышоў яфрэйтар Птуха:

— Таварыш нампаліт, навошта вы пераводзіце Папова ў другі ўзвод?

— Я даручыў займацца ім лейтэнанту Ціханаву.

— Мы ўжо неяк прывыклі адзін да аднаго. І ён да нас. А лейтэнант Ціханаў і так часта бывае ў нас. Увесь час гаворыць з Паповым.

— Добра. Я перагавару з камандзірам батарэі. Няхай застаецца ў вашым разліку. Дарэчы, як ён сябе паводзіць?

— Добра... Стараецца...
— Аўтамат носіць?
— Носіць. Нават у машыне сядзіць з аўтаматам.
— Прывучайце яго да гарматы. Толькі не прымушайце яго да таго, чаго ён не хоча. Ні ў якім выпадку не крыўдзіце! Дакажыце яму, што ён ваш таварыш, што вы паважаеце яго. Ты, Птуха, камсамольскі важак, і першы павінен памагчы Папову. Зразумеў?
— Так точна, зразумеў, таварыш нампаліт!
— І падрыхтуй заметкі для «баявога лістка».
— Будзе зроблена! — бойка казырнуў Птуха і пабег да сваёй машыны.
Максім пералез у кузаў, а на сваё месца адправіў сержанта. Салдаты сядзелі, драмалі або проста маўчалі.
— Таварыш нампаліт, з намі паедзеце?
— Гэта хто? Ты, Клыпа?
— Я, таварыш нампаліт.
— З вамі, а што?
— Вы б у кабіне. Там цяплей.
— Ведаю, што цяплей, але не хачу.
— Нам жа больш прыемна. Весялей будзе.
Машына то падскоквае, то пагойдваецца, то мякка і плаўна нырае ў неглыбокія ямы. Ад накаленых марозам бартоў кузава цягне сырым, золкім холадам. Знізу паддзімае пранізлівы вецер. Праз маленькія шкляныя акенцы ў тэнце прабіваецца малочна-бледны світальны золак.
— Таварыш нампаліт,— зноў парушае маўчанне Клыпа.— Вы ўжо напісалі пра мяне пісьмо?
— Напісаў, але не адправіў.
— Ну і не адпраўляйце,— папрасіў Клыпа.
— Ты ж парушыў воінскую дысцыпліну і сам разумееш, што павінен панесці пакаранне.
— Разумею. Толькі вельмі прашу вас... Не трэба. Я даю вам слова, што больш такога не будзе.

— Ну, калі на вучэннях сябе пакажаш... тады паглядзім,— паблажліва сказаў Максім.

— Як я павінен паказаць сябе?

— Ты наводчык?

— Так точна.

— Адстраляешся на «выдатна»?

— Буду старацца, таварыш нампаліт,— з гатоўнасцю адказаў Клыпа.

— Наогул ты хуліганісты хлопец, як я пагляджу,— заўважыў Максім.

— Прывычка, таварыш нампаліт.

— Да чаго прывычка?

— Да самаволак. У тэрміновую, бывала, і не хочацца, а ўсё роўна пайду. Назло старшыне,— пачаў ён расказваць.

— Чаму старшыне?

— Шкодны, халера, быў. Не ўпадабаў мяне з першых дзён службы.

— За што не ўпадабаў? — спытаўся нехта ў кузаве.

— Я і сам не ведаю. Можа, за тое, што ростам малы. Памятаю, у першы дзень службы нарад быў у парку лісце зграбаць. Добра так навокал. Восень. Уся зямля пакрыта лісцем, як дываном. Ходзіш — яно пад нагамі шуміць, пахне так прыемна і саладка. Паклаў я ўбок граблі, мятлу і — да старшыны: «Навошта, гавару, таварыш старшына, такую прыгажосць прыбіраць? Няхай яны на зямлі ляжаць, вочы людзям радуюць». А ён мне ў адказ: «Станьце як належыць салдату! Як вы са старэйшым па званню размаўляеце?» І пайшоў і пайшоў мяне чысціць. «Вы, гаворыць, многа на сябе бераце! Я вам яшчэ пакажу, што такое служба. А то занадта адукаваныя! Толькі і ведаеце, што гарэлку жлукціць, буяніць ды баб рабіць цяжарнымі...»

Усе дружна засмяяліся.

— Я ўжо не рад, што падышоў. І сорамна, і крыўдна, і злосць разбірае.

— А ўжо ж, са старшыной калі не паладзіш, то з нарадаў не вылезеш,— раздумліва сказаў хтосьці побач.

— І пайшла ўся мая служба — лепш не пытайце. На пост ісці — Клыпа, на кухню бульбу чысціць — Клыпа. Усё Клыпа ды Клыпа. Ах ты, сякі-такі, думаю, ёлкі-палкі! Я табе пакажу!

— Ну і як жа ты яго? — нецярпліва спытаў той жа голас.

Слабы мігатлівы агеньчык запалкі расхінуў змрок, выхапіўшы нерухомыя, як надзьмутыя, фігуры салдат, заінелыя вусы і бровы Клыпы. Салодкі цыгарэтны дым і пах серы заказыталі Максіму ноздры.

— Вось тады і давай я ў самаволку хадзіць. А ён лавіць мяне. «Я, гаворыць, цябе, Клыпа, усё роўна ў дысбат адпраўлю». Хто каго...

— І ні разу не засек? — спытаўся першы.

— Не.

— Гэта ты хлусіш,— заўважыў трэці, які сядзеў моўчкі.

— Вось вам крыж, хлопцы! Хоць і ў бога не веру.

Размова разгаралася, цякла бойка і весела.

— Падзяліся вопытам,— папрасіў той, што курыў.

— Каля нашай казармы быў закінуты сквер. Там я звычайна дзяўчатам прызначаў спатканні. Пасля адбою старшына дадому, а я ногі ў рукі і цераз плот. Усе хлопцы былі свае. Будбат, самі разумееце. А з днявальным дамаўляўся. Калі дзяжурыў па часці старшына або яшчэ хто з афіцэраў паяўляўся ў казарме, днявальны адразу лінейку да акна. Мне ж з парку ўсё відаць. А калі нікога няма, то ў акне пуста. І я сабе цалуюся-мілуюся.

— І многа іх у цябе было? — з іроніяй і цікаўнасцю ў голасе спытаўся той, што курыў.

— Ну... Так... штук дзесяць!

Загаварылі ўсе разам.

— Ого-го!!

— Во — гэта Дон Жуан.

Засмяяліся. Клыпа, задаволены ўвагай і цікавасцю, якую выклікаў у таварышаў, уздыхнуўшы, разважаў:

— Так, усялякія былі. І маладыя і пажылыя. У наш салдацкі клуб, які называўся «Зорачка», збіраліся ў асноўным салдаты, ну і дзяўчаты, вельмі ж розныя — і прыгожыя, статныя, высокія, і нязграбныя, маленькія, яшчэ зусім юныя і, часам, ужо разведзеныя, тыя, у каго жыццё не склалася па-чалавечы. Але ж такія не вельмі, каб з салдатам. Чалавек ён непастаянны. Сёння тут, заўтра там. Ні грошай у яго, ні кала ні двара, ні часу, ні свабоды... Нічога. А такія любяць, каб да іх заляцаліся, амуры там строілі, цукеркамі, марожаным частавалі, у кафэ ці рэстаран вадзілі.

Размова са старшыны непрыкметна перакінулася на жанчын, пацякла вастрэй, з гарачымі спрэчкамі.

— Не ўсе ж такія, каб у рэстаран вадзіць ды цукеркамі частаваць. Ёсць талковыя дзяўчаты — умеюць чакаць і кахаць,— заўважыў той, што курыў.

— Гэта толькі ў кіно,— падаў голас салдат, які ўвесь час маўчаў.

— Чаму ў кіно? І ў жыцці. Мяне, напрыклад, дзяўчына тры гады чакала...

— Не хваліся,— заўважыў Клыпа.— Хваліць жонку — усё роўна што хваліць самога сябе. Усе бабы аднолькавыя. Пры зручным выпадку абавязкова амуры закруцяць. Кажуць, што ўсе дзеўкі добрыя, адкуль жа тады бяруцца кепскія жонкі?..

— Правільна гаворыць Клыпа,— падтрымаў той,

што гаварыў пра кіно.— З пятнаццаці гадоў па вуглах і пад'ездах некаторыя труцца, абдымаюцца з хлопцамі, шушукаюцца. Паглядзіш на якую — скура ды косці. А намазаная, што чорт! Дзесяць пудоў пудры і пamады на ёй. І не падступіся, не падыдзі. Яна цябе ва ўпор не заўважае. Вочы дыбам паставіць — і міма. А скажы ёй «дзеўка»... Што вы?! Ого! Такая абраза: «Як вы пасмелі?», «Хто вам даў права?» Мая маці нас пяцярых мужыкоў выгадавала. І ў вайну адна і сеяла, і жала, і касіла,— усю работу мужчынскую рабіла. А гэтыя, цяперашнія, хоць і маладыя, а не прыстасаваныя да жыцця, слабыя. Іншая і аднаго нарадзіць не можа. Толькі ўсяго і гонару ў іх, што вярцёлка-круцёлка. Абцягнуць яе матэрыяй, каб мужык вачыма прыліпаў да яе. А мужык — ёсць мужык.

— Ты разважаеш, як заядлы халасцяк,— перабіў яго той, што курыў.

— Я разважаю так, як разумею жыццё.

— Калі ў цябе будуць жонка і дзеці, ты будзеш саромецца гэтых думак.

— Навошта мне жаніцца, калі мне і так гэтага дабра хапае.

— Не ў гэтым сэнс жыцця...

— А-а, многа ты разумееш...

— А што вы скажаце, таварыш нампаліт? — звярнуўся да Максіма Клыпа.

— Кожны з вас па-свойму мае рацыю. Я не буду з вамі спрачацца, навязваць сваю думку або каго-небудзь асуджаць. Жыццё супярэчлівае, складанае... І часам абганяе нашу свядомасць, гатовую думку аб рэчах, законах, маралі, аб саміх людзях. Я прыхільнік не асуджаць адразу, не адвяргаць, калі гэта мне не падабаецца, нават калі непрыгожа, непрыймальна, агідна. Прырода і чалавечае грамадства не церпяць нічога неразумнага, негарманічнага. Рана ці позна не-

патрэбнае грамадству адамрэ, зжыве самое сябе... Што датычыць дзяўчат, жанчын, або, як Клыпа гаворыць, баб, то я заўжды адносіўся да іх з павагай. Паважаў, якія б яны ні былі. Паважаю — якія яны ёсць цяпер. Паважаю за тое, што жанчына дае нам адно з самых найвялікшых шчасцяў у жыцці — шчасце любіць. Больш цудоўнага і ўзвышанага за гэта ў свеце няма нічога.

— Правільна вы сказалі, таварыш нампаліт,— ухвальна адгукнуўся Клыпа.— Я таксама вельмі люблю гэту справу...

— Якую справу? — спытаўся Максім.

— Каханне,— адказаў Клыпа сур'ёзна.

Максім сам сабе ўсміхнуўся і прамаўчаў. Ён устаў, адшпіліў каля задняга борта тэнт, высока загарнуў яго і прымацаваў, каб не перашкаджаў глядзець. Адразу пасвятлела.

Развіднела. Праязджалі па ўзгоркавай мясцовасці, паабапал дарогі цягнуліся хмызнякі. Цягачы то мякка і плаўна каціліся ўніз, то з надрыўным хрыпам раўлі на пад'ёмах. Часам ад гулу матораў і цяжару машын уздрыгвалі дрэвы. Тады сцякаў і сыпаўся з сухім шоргатам снег, адкрываючы рэзкую чарнату галін.

Потым у паветры закружыліся мяккія пушынкі снегу, надаючы яшчэ большае хараство і зачараванасць першабытна-цнатлівай, некранутай прыродзе. Праз гэта маўкліва-велічнае царства снежнай роўнядзі ішла да намечанай мэты зенітная батарэя.

## 14

Толькі апоўдні, нарэшце, зрабілі прывал. Батарэя заняла пазіцыю на паляне сярод высокіх елак і соснаў.

Мароз мацнеў. Ішоў снег. Праз імгліста-шэрую воблачнасць прабівалася расплывістае, без промняў, сонца. Яно нікога не грэла і не радавала, а, наадварот,

узмацняла холад. Бровы і павекі ва ўсіх былі белыя, як выбеленыя. Твары выцягнуліся, рэзка абазначыліся скулы, вочы свяціліся панура-сухім бляскам. Метал на машынах і гарматах настыў так, што да яго нельга было дакрануцца голай рукой.

У шэра-млечным небе ляцелі самалёты, але ўбачыць іх не было магчымасці. Толькі па гуку, які то нарастаў, то аддаляўся, можна было меркаваць, дзе яны праляталі...

Хутка прыйшоў пасрэднік са штаба, высокі мажны капітан з чырвоным тварам, у валёнках, ватніках і бушлаце. Ён цяжка і разваліста хадзіў, назіраючы, як разгортваюцца па камандзе «да бою» гарматы. Потым запрасіў да сябе Гайду, узводных, Максіма і тут жа даў ацэнку:

— Пазіцыю занялі хутка і правільна. Але сталі блізка да лесу. Калі праціўнік з таго боку — вам будзе цяжка...

— Згодзен,— адазваўся капітан Гайда.

— А цяпер папрацуйце на хуткасць, набліжана да баявой абстаноўкі. Я пагляджу, што ўмеюць рабіць вашы салдаты.

— Не відаць цэлі, воблачнасць,— сказаў капітан Гайда.

— Вы хоць прыблізна,— параіў пасрэднік.

— Дык як жа прыблізна,— азваўся Ціханаў,— калі наогул нічога не відаць?

— Пазваніце, таварыш узводны, у нябесную канцылярыю, каб вам падалі на сподачку яснае неба і сярэбраны самалёцік на ім,— з едкай іроніяй у голасе адказаў пасрэднік.

— Так, надвор'е не закажаш,— у тон пасрэдніку азваўся Мухін.

— А можа, мы патрэніруем наводчыкаў па зададзенаму вуглу, а зараджаючых на хуткасць? — прапанаваў Максім.

— Правільна гаворыць нампаліт,— адабральна сказаў пасрэднік.— Трэніруйце салдат. Пры фарсіраванні «Нёмана» прыйдзецца страляць па паветраных цэлях. Баявымі.

— Добра, таварыш капітан,— падвёў вынік гутаркі капітан Гайда.— Вашы парады і рэкамендацыі прымаем да ведама і выканання.

І зноў у соннай і стылай цішыні зімовага лесу паўгадзіны не сціхаў голас камандзіра батарэі.

За ім гэтак жа паўталі камандзіры ўзводаў і разлікаў. Гарматы доўгімі ствaламі то насцярожана цэліліся ў далягляд, то вертыкальна ўпіраліся ў неба, то крута паварочваліся ў процілеглы бок, гэта значыць, «лавілі» ўяўнага праціўніка і «знішчалі» яго.

Максім зноў абышоў усе разлікі, перагаварыў з сяржантамі, некаторымі салдатамі. Затым адшукаў старшыну і папрасіў яго паклапаціцца аб снеданні, а сам залез у кабіну машыны і пачаў пісаць баявы лісток.

Праз колькі часу прыехала салдацкая кухня. Спакуслівы пах гарачай стравы захапіў усіх. Салдаты кінуліся да машын, даставалі з рэчавых мяшкоў кацялкі і лыжкі, весела гаманілі і перакідваліся жартамі.

Афіцэры харчаваліся ў паходнай афіцэрскай сталовай. І Гайда, і Мухін, і Ціханаў, і пасрэднік праз лес амаль за паўкіламетра пайшлі на абед. Максім адмовіўся. Ён вырашыў харчавацца разам з салдатамі і напярэдадні папрасіў перавесці яго на забеспячэнне ў батарэю. Духмянага наварыстага баршчу і сытнай грэцкай кашы са свіной тушонкай старшына прывёз з запасам. І цяпер са строгай беражлівасцю па чарзе адпускаў салдатам ежу. Дабаўку раздаваў толькі пасля таго, як усе паснедалі.

Паеўшы, салдаты пачалі дружна разводзіць вогнішча. Разгрэблі снег, цягалі сухое галлё. З-пад велізарнай кучы сушняку спачатку выпаўз сіні дымок, затым выбіўся няемелы агеньчык, са слабым трэскам пабег

па галлі, вырас у шумнае, дымна-чырвонае полымя. Яно магутна дыхнула трапяткім гарачым цяплом, пабегла па грудзях і нагах жыватворнай сілай. Людзі, закасцянелыя на марозе, нібы адтайвалі. Твары барвова зардзеліся, вочы завалок сытна-вясёлы хмельны бляск. Пакуль афіцэры паснедалі, касцёр разгарэўся і шугаў роўным малінава-светлым полымем.

Гайда адаслаў да гармат першы ўзвод, а другі застаўся каля вогнішча і павінен быў змяніць першы праз паўгадзіны. Тут жа на дрэвах Максім разгарнуў паходны ленінскі пакой, прымацаваў свежы «баявы лісток». Салдаты падыходзілі, уважліва чыталі, ухвалялі,— з ледзь прыкметнай зайздрасцю да таварышаў, прозвішчы якіх упаміналіся.

— Правільна вы напісалі, таварыш нампаліт.

— Нават па-мастацку, так... як у кніжцы.

— Пры чым тут па-мастацку? Галоўнае — справядліва.

— Што праўда — то праўда. Шафёры нашы — малайцы.

— Што ні кажы, а на вучэннях ім дастаецца больш за ўсіх.

— Так, вадзіцель вачэй заплюшчыць не мае права.

— Такія ўжо героі яны, хоць на выстаўку ці ў музей,— скептычным тонам загаварыў Стральчэня.— Вадзіць машыну і я ўмею, а няхай ён з такой хуткасцю, як я, гармату зарадзіць... Дарэчы, таварыш нампаліт, я сваё слова стрымаў. Сёння на трэніроўцы ў мяне лепшае месца... За шэсць секунд!

— Зайздросна табе — вось і выхваляешся. Падумаеш — шэсць секунд,— нехта перабіў яго.

Максім не стрымаўся, каб не ўмяшацца ў спрэчку:

— Не забывайце, што вы патрэбныя кожны на сваім месцы. І вадзіцель, і наводчык, і замковы. У наступны раз мы адзначым тых, хто вызначыўся на гарматах.

Клыпа раптам ні з таго ні з сяго параіў Ціханаву:

— Трэба вам жаніцца, таварыш лейтэнант.

— Навошта рана жаніцца? — прамовіў яму ў тон другі салдат. Трэба хоць бы да маёра даслужыцца. Жанчыны зорачкі любяць.

— Зайздрошчу я тым, хто жанаты,— з ранейшай іроніяй, накіраванай на Ціханава, развашаў Клыпа.— Прыйшоў дадому на ўсё гатовае, паеў, папіў — і ў ложак. Кабета цёплая, як печка. Рай, а не жыццё!

Ціханаў раптам пагардліва плюнуў, павярнуўся і хутка пайшоў на пазіцыю.

Міжволі прарваўся дружны салдацкі смех.

Але ўсе разумелі, што ў жартах перагнулі палку і пакрыўдзілі, а магчыма, і абразілі камандзіра ўзвода.

Мухін з наўмысным жалем сказаў:

— Пакрыўдзіўся Чабурашка.

— Нядобра, малодшы лейтэнант Мухін,— з дакорам кінуў яму Максім, а салдатам таксама кінуў папрок: — Дарэмна вы так, таварышы.

— Ды мы жартавалі, таварыш нампаліт.

— Чаго там крыўдзіцца. Падумаеш!

Максіма нешта як падштурхнула — ён пайшоў услед за Ціханавым, які задуменна блукаў па ўзлеску каля гармат, увесь нейкі маленькі, згорблена-бездапаможны, адзінокі.

— Не слухайце іх, Тарас Дзянісавіч,— сказаў яму Максім, падышоўшы.

— Ведаеце, не магу я такое слухаць. Адкуль гэтулькі пошласці ў адносінах да жанчыны?

— Вы іх зразумейце. Яны што думаюць, тое і гавораць.

— Мне здаецца, яны развучыліся паважаць жанчыну. А ў кожнага ж з нас ёсць маці, жонка, сёстры.

Максім слухаў і задуменна глядзеў сабе пад ногі.

— Не, я не прыхільнік аскетызму. І разумею, што чалавек і не звер, і не анёл. Але ўсё тое, аб чым мы

ґаворым,— цудоўна, узвышана, асвечана чалавечым духам, пачуццямі, розумам. Пра гэта трэба гаварыць з найвялікшай сур'ёзнасцю, з глыбокай пашанай. Магчыма, гэта адзінае з таго, што надае сэнс і значэнне чалавечаму існаванню... Дзеля чаго варта жыць.

— Я з вамі поўнасцю згодзен,— сказаў Максім.— Але жыццё далёкае ад ідэальных мар. Побач з цудоўным і ўзвышаным суседнічае нізкае... у адвечнай барацьбе супрацьлегласцей. І мне яшчэ здаецца, што яны знарок нацягваюць на сябе такую грубую апратку, бравіруюць, а ў душы яны намнога лепшыя, ды сарамеюцца паказваць гэта людзям.

— Магчыма. Бо калі мы развучымся па-сапраўднаму любіць жанчыну, захапляцца ёю, паважаць яе, у імя яе складаць музыку, пісаць вершы — загіне цывілізацыя, культура.

— Гэтага, я думаю, не здарыцца,— крыху сумна сказаў Максім.

— Хто ведае?

Ціханаў прыхінуўся да гарматы. На запечаны ад марозу барвовы твар сыпаліся рэдкія сняжынкі і раставалі. Вочы суха, стомлена бліпічалі, не міргаючы глядзелі з нямым здзіўленнем і пакутлівым жаданнем нешта зразумець.

— Магчыма, я ідэаліст, рамантык,— працягваў ён.— Замест таго, каб успрымаць усё такім, як ёсць, выдумляю на свой лад, як павінна быць.

— Добра вы адносіцеся да жанчыны, Тарас Дзянісавіч. Ніякі вы не ідэаліст і не рамантык. У вас абвостраная агіда да ўсяго бруднага, пошлага ў жыцці. Якім было б усё наша жыццё, калі б людзі не думалі вось так, як вы, і не жылі ў адпаведнасці з гэтым.

— А я вось хаджу да гэтага часу нежанаты, хоць мне ўжо за трыццаць... Не кожны чалавек, відаць, народжаны для кахання, як, скажам, і не кожны мае здольнасць да музыкі, літаратуры, жывапісу. Кахан-

не — гэта асаблівае прызванне чалавечага духу. Тут ёсць свае Дантэ, Петраркі, Шэкспіры. А вось я — бяздарнасць, няўдаліца... Усё жыццё адчуваю жаданне кахаць, часам вострае, неадольнае. Усё жыццё мяне мучыць горыч ад нераздзеленага кахання. Ад таго, што няма побач душы, якая б адгукнулася мне з такой жа сілай. Не знаходжу таго чалавека, якога шукаю... Свет як быццам пусты для мяне.

— Але ж былі ў вас дзяўчаты? Кахалі вы каго-небудзь?

— Вядома. Але то яны не падабаліся мне, то я не падабаўся ім. Так бабылём да гэтага часу і хаджу. А вы?

— Я жаніўся не па першым каханні. Не па першым напале пачуццяў, а ўжо крыху астылы. Але я задаволены, можна сказаць, шчаслівы. Хоць усякае бывае...

— Дазвольце, Максім Барысавіч, адно няпростае пытанне. У вас ёсць жанчына апроч жонкі?

— Спецыяльна не шукаю прыгод ці там выпадковых сустрэч,— крыху збянтэжыўшыся, адказаў Максім.— Але бывалі выпадкі, калі мне сустракаліся дзяўчаты, якім я вельмі падабаўся або якія падабаліся мне. Любая, самая цудоўная жонка, не можа даць таго, да чаго імкнецца мужчынская душа.

— Але другое. Ці не можа так здарыцца, што гэта прывядзе да разбурэння сям'і? — у роздуме запытаў Ціханаў.

— Хто яго ведае? Не думаў...— шчыра прызнаўся Максім.

## 15

З наступленнем прыцемкаў падзьмуў рэзкі пранізлівы вецер. Загайдаліся, зарыпелі, зашумелі макаўкі елак і сосен, асыпаючы снег. Ад гурбаў снегу папаўзла віхурная снежная замець. Пачыналася мяцеліца.

Пасля каманды «адбой» гарматы прывялі ў паходны стан, зачахлілі. Машыны выпаўзлі са сховішча, выстраіліся ў калону.

Максім вярнуўся ў леппакой, зняў «баявы лісток». На гэты раз залез у машыну, у якой ехалі Птуха, Стральчэня і Папоў.

Каб не так цягнула холадам ад жалезнага дна кузава, салдаты шчыльна ўслалі яго яловымі лапкамі і паўзверх паслалі палатку, самі селі на яе, прыціснуўшыся адзін да аднаго.

Спераду, ад кабіны, паддзімала, а ззаду, знізу, праз шчыліны прабіваўся снежны пыл, густа зацярушваючы салдат.

Максім таксама сеў не на лаўку ля борта, а проста на лапкі, прываліўшыся да нечых каленяў. Так было цяплей і больш утульна.

— Холадна, таварыш нампаліт. І колькі гэтыя вучэнні працягнуцца? — спытаўся Папоў.

— Не ведаю,— адказаў Максім.— Лічыце, што самае цяжкое наперадзе.

— Да цяжкасцей нам не прывыкаць,— важка сказаў Стральчэня,— калі б кармілі часцей. А то кроў стыне.

— Папрасі, Адам, бога, каб паслаў нам адлігу,— звярнуўся да Папова Птуха.

Папоў памаўчаў, а Птуха сказаў Максіму:

— Мы, таварыш нампаліт, усю дарогу спрачаемся адзін з адным... Ёсць бог ці няма бога. Я гавару, што няма, а даказаць не ўмею. Адам гаворыць, што ёсць бог, і ўсё з Бібліі мне чытае. А я гэту Біблію ў вочы не бачыў. Так і едзем, як іншаземцы, не разумеючы адзін аднаго.

— Тое, што сказана ў старажытным пісанні, многае збываецца цяпер,— прабубніў Папоў.

— Ну, напрыклад? — спытаўся Стральчэня.

— Там гаворыцца аб тым, што будуць жалезныя

птушкі лятаць і людзей дзяўбці. Хіба гэта не так? Што, хіба самалёты — не тыя птушкі?

— Як у казцы,— насмешліва адгукнуўся Птуха.

— Няхай будзе так. Але ж сатварыў бог Адама і Еву?

— Вось дзівак,— засмяяўся Птуха,— не было ніякіх ні Адама, ні Евы. Усё развівалася само па сабе... і зямля і чалавек.

— Ну, не мог жа проста так паявіцца на зямлі чалавек,— выказаў сумненне Папоў.

— Колькі ў цябе класаў адукацыі? — спытаўся Птуха.

— Дзевяць, а што?

— Дзевяць! — са здзіўленнем працягнуў Птуха.— Ты ж прыродазнаўства вывучаў?

— Вывучаў. Але не веру ўсяму, што там напісана.

— Вось Фама няверуючы,— сказаў са здзіўленнем Птуха.— Гэта ж навука!

— Чалавек іменна на зямлі паявіўся,— уступіў у размову Максім,— не адразу, але паявіўся. Наогул, быў жа час, калі нічога не існавала. Толькі газападобны пыл. Потым з гэтага пылу ўтварылася планета Зямля. Паявіўся раслінны і жывёльны свет, развіваўся, удасканальваўся — аж да чалавека.

— Але ж нехта ўсім гэтым кіраваў? — не здаваўся Папоў.

— Ніхто. Матэрыі, прыродзе ўласцівы рух і самаразвіццё, тое, што якраз адмаўляе рэлігія, якая стварыла міф аб нейкім вышэйшым творцы.

— Не разумею я гэтага,— прамовіў Папоў.

— І не зразумееш адразу,— сказаў Максім.— З матэрыі нежывой з'явілася, утварылася матэрыя жывая, якая развівалася на працягу многіх мільёнаў гадоў. Стваральніка ўсяго разумнага, бога, аб якім упарта сцвярджае рэлігія, не існуе. Іменна за доказ гэтых ісцін царкоўнікі спалілі на кастры Джардана Бруна.

— Значыць, па-вашаму, ніякага бога наогул няма? — нецярпліва спытаўся Папоў.

— Не. І не можа быць,— адказаў Максім.— Ёсць толькі законы, па якіх развіваецца прырода і чалавечае грамадства,— тое, што можна ў пераносным сэнсе назваць богам. Усё гэта тлумачыць дыялектычны матэрыялізм.

— Тады растлумачце мне такі выпадак, таварыш нампаліт. У будбаце, каля самага мора, мы будавалі дзевяціпавярховы дом. Аднойчы мяне і яшчэ трох салдат паслалі накрываць дах. Мы ішлі ўчатырох па даху, блізка адзін пры адным і няслі па трубцы толю на плячах. Я быў нават пасярэдзіне. Раптам з мора наляцеў ураган. І трох маіх таварышаў сарваў і скінуў з даху, а мяне нават не зачапіў. Другі раз я ўпаў з будаўнічай пляцоўкі, з дваццаціметровай вышыні. І нават не пашкодзіў сабе нічога.

— Зайздрошчу я табе,— сказаў Птуха.— У сарочцы нарадзіўся.

— Выпадковасць,— сказаў Максім.— Самая звычайная. Я ведаю выпадак, калі парашутыст скакаў з трохкіламетровай вышыні і парашут у яго не раскрыўся. Але ён застаўся жывы... Ён упаў у багну... Па самую галаву завяз, але ўцалеў.

— Лёс, таварыш нампаліт,— сказаў Папоў.

— Выпадковая ўдача, пашанцавала,— зазначыў Стральчэня.

— У бога трэба верыць, а не разважаць пра яго,— прагаварыў Папоў.

— Дык навошта ж верыць у тое, чаго ў сапраўднасці няма? — абурыўся Стральчэня.

— На самой справе. Мы ж цывілізаваныя людзі, а не дзікуны,— заўважыў спаважна, тонам, які не дапускаў пярэчання, Птуха.

Цяжка асядаючы то на левы, то на правы бок або высока ўздыбліваючыся на пагорках, хрыпла і над-

рыўна, з перабоямі, раўлі машыны. Зверху, з бакоў драпалі брызентавы тэнт галіны дрэў. Раптам машына рванулася і стала. Максім адкінуў тэнт, выглянуў. У твар ударыла белае снежнае воблака. Усё навокал патанала ў густой малочнай цемры. Кружыла, мяло, дзіка і журботна пасвіствала ў кустах.

— Камандзіры ўзводаў і разлікаў — да мяне! — праз посвіст мяцеліцы даляцеў да яго голас капітана Гайды.

Максім саскочыў з машыны. Калючым вострым снегам секла ў твар, па вачах. Парывы ветру кароткімі тугімі ўдарамі штурхалі ў грудзі.

Каля капітана Гайды, як белыя прывіды, відаць былі фігуры Ціханава і Мухіна, яшчэ некалькі сержантаў.

— Ну і надвор'е, браточкі! Відаць, чэрці жэняцца,— паспрабаваў жартаваць капітан Гайда.— Што будзем рабіць? Пойдзем паглядзім.

Моўчкі спусціліся ў лагчыну. На роўнядзі з-пад снегу тырчэлі, як цвікі, кароткія галінкі кустоў. Там, дзе прайшлі нядаўна танкі, праз аскабалкі лёду выступіла чорная густая жыжа, едка пахла балотнай гніллю і торфам.

— Тут можам не прайсці,— сказаў капітан Гайда.

— Трэба ў аб'езд.

— Куды ў аб'езд? Паглядзі, якія гурбы снегу.

— Будзем рабіць гаць. Сячы галлё, сушняк.

— Дзе ты яго возьмеш? Навокал нічога няма... Малады хвойнік.

— Так, справы нашы неважнецкія.

— Трэба прымаць неадкладнае рашэнне,— усіх выслухаўшы, сказаў капітан Гайда.— Што скажа нампаліт батарэі, узводныя?

— Толькі ў аб'езд. Менш рызыкі,— сказаў Максім.— Па краі лагчыны. Праверыць, каб не было ям, расчысціць снег...

— Я гэтаксама думаю,— сказаў Ціханаў.

— Так, відаць, іншага выйсця ў нас няма,— згадзіўся Мухін.

— Батарэю ў строй! Паставіць задачу! — скамандаваў капітан Гайда.— Дарогу я сам пагляджу. Выконвайце!

Капітан, правальваючыся па пояс у гурбы, рушыў уперад і адразу патануў у белай каламуці. Краем лагчыны і адразу патануў у белай каламуці. Калі вярнуўся, салдаты ўжо працавалі. Надарылася магчымасць пагрэцца — і яны з маўклівай раз'юшанасцю і злоснай упартасцю пачалі раскідваць снег. Толькі чулася шумнае дыханне, шорганне сыпучага снегу ды глухі тупы прыстук рыдлёвак аб каменна-мёрзлую зямлю.

Максім узяў у кагосьці рыдлёўку, пачаў раскідваць снег направа і налева, адчуваючы ў сабе нейкую захапляюча-маладзецкую сілу, прагу ісці насуперак усім бедам і перашкодам, праз гэту мяцеліцу, мароз, холад, снежную пустынную маўклівасць. Яму стала горача. Рукі ў рукавіцах гарэлі. На ўспацелым твары раставаў снег, заліваючы вочы.

Расчысціўшы шлях метраў на дзвесце, пусцілі цягачы, якія ля самага пад'ёму на пагорак забуксавалі. Іх абляпілі з усіх бакоў і пад дружныя воклічы піхалі наперад. За пагоркам яшчэ больш сярдзіта, шалёна бушавала завея. Вецер валіў з ног. Пагляду адкрылася белая каламутная стэпавая роўнядзь. Густы змрок яшчэ больш тумаціў яе, рабіў непраглядна-шчыльнай, як вата. Толькі ў яркім святле фар кружыліся і мітусіліся мірыяды сняжынак.

Пакуль вылезлі з балота, батальён згубіўся з вачэй. У якім напрамку ён пайшоў, было невядома, а слядоў не засталося — дарогу замяло.

— Невясёлыя нашы справы, Максім Барысавіч,— сказаў Гайда, прыгнуўшыся, спрабуючы разабрацца, што ў яго пад нагамі — поле ці дарога.

— Сапраўды.

— Я звяжуся з камбатам па радыё. Пойдзем наўгад. А там пабачым.

— Мы павінны дагнаць батальён.

— Чаго б нам гэта ні каштавала,— цвёрда сказаў капітан Гайда.— Хапіла б толькі гаручага і не здалі маторы.

— Можа пастроіць батарэю? Пагаворым з людзьмі. Трэба, каб усе разумелі адказнасць.

— Пакуль што не варта. Салдаты і так разумеюць,— адхіліў прапанову капітан Гайда.— Дагонім батальён, заправімся, пакормім людзей, а там будзе лягчэй. На машыны! — крыкнуў ён і пабег да цягача. Максім на хаду дагнаў машыну, пераваліўся ў кузаў. У цемнаце не было відаць нічога.

— Гэта вы, таварыш нампаліт? — спытаўся Птуха.

— Я, таварышы.

— Не пашанцавала нам. Адсталі мы,— са скрухай уздыхнуў Стральчэня.

— Ва ўсім надвор'е вінавата,— заключыў Папоў.

— Надвор'е надвор'ем, а цяпер пайдзі знайдзі яго, гэты батальён, як у полі вецер,— разважаў Стральчэня.

— Было б лепш, калі б мы не залежалі ад яго, а самі па сабе,— сказаў Птуха, а Стральчэня працягваў:

— У іх там і кухня, і запраўка свая. Хлопцы своечасова пад'ядуць і паспяць. А мы, як бедныя сваякі, нават не ведаем, у каго на забеспячэнні. Адзін раз пакармілі, а цяпер калі яшчэ пакормяць — нікому не вядома.

— Нічога, таварышы, трымайцеся. Усякае бывае на вучэннях,— сказаў Максім з намерам падбадзёрыць салдат.

— Гэта я так... да слова, таварыш нампаліт,— адказаў Стральчэня, быццам у сваё апраўданне.

— Вось што, хлопцы! Дзе нас запраўляць бу-

дуць — невядома. Давайце падсілкуемся,— разважліва прапанаваў Птуха.— У мяне сала ёсць.

— У мяне таксама. Можа, маё спачатку? — з гатоўнасцю прапанаваў Папоў.

— Не ўжо. Спачатку маё. Таму што маё — дамашняе.

— Ну як хочаце. Другім разам тады,— згадзіўся Папоў.

— Я з задавальненнем,— паляпваючы рукавіцамі, з гатоўнасцю сказаў Стральчэня.— Пад'есці я люблю. Каб цяпер баршчу чырвонага кацялочак, ды макаронаў па-флоцку, ды яшчэ чайку конаўкі са дзве.

— Мне б курачку смажаную ў масле,— у лад яму спяваў Птуха.— Ды грыбкоў марынаваных, ды бульбачкі маладзенькай у масле ці ў смятане.

— Ну і гурманы ж вы. Вас танней апранаць, чым карміць,— пажартаваў Максім.

Птуха ў цемры адшукаў свой рэчавы мяшок, развязаў яго, потым папрасіў пасвяціць. Пры святле слабага агеньчыка запалкі адрэзаў усім па лусце хлеба і сала. Елі моўчкі, засяроджана. Максім толькі цяпер адчуў, што ён вельмі галодны. Падмацаваўшыся, шчыльней прыціснуліся адзін да аднаго, каб было цяплей, і вырашылі падрамаць. Але хіба можна заснуць, калі цябе то пагойдвае, то трасе, то раптам падкідвае так, што на нейкую долю секунды падлятаеш уверх са шчымлівым заміраннем сэрца? Калі пад вухам цяжка, staміўшыся, раве, хрыпіць, захлёбваецца матор?

Як і ўсе ў кузаве, Максім знаходзіўся ў тым стане напаўявы, напаўдрымоты, калі здаецца, што спіш і разам з тым усё адчуваеш і чуеш.

Сярод ночы яму пачуўся людскі гоман. Тут жа падхапіўся і зразумеў, што машына стаіць. Максім адляпіўся ад таварышаў і, пералезшы праз задні борт, нырнуў у густую цемру. Усюды чорнымі грудамі застылага металу сярод рэдкіх сасонак стаялі танкі. Зусім побач

чулася гамонка, якая то ўзмацнялася, то заглухала і растваралася ў нудна-шумлівым завыванні завеі. Пастаяўшы і паслухаўшы, па галасах пазнаў капітана Гайду і маёра Шалага, накіраваўся да іх.

— Добры вечар,— сказаў, падыходзячы, Максім.

— Хто гэта? — спытаў маёр Шалы.

— Мой нампаліт,— адказаў капітан.

Камбат павітаўся з ім за руку, а капітан Гайда працягваў:

— Усё замяло. Нічога не відно, дзе поле, дзе дарога. З балота выбраліся, а далей — праз поле. Увесь час даводзілася звярацца па карце. І паліва на зыходзе.

— Нідзе не загруз?

— Не.

— Толькі вось не кормленыя мы.

— Як гэта, я ж сваіх зараз пакарміў?

— А мы адзін раз елі за ўвесь гэты час.

— Што ж ты, камандзір батарэі, у шапку спіш? Тэрмінова далажы ў штаб. Вы з гэтай справай, браткі, не жартуйце. Людзей памарозіце, а яны ваяваць павінны,— і тут жа крыкнуў: — Старшыну да мяне!

— Каб ім ліха, гэтым тылавікам. Днём з агнём не адшукаеш. А людзі галодныя,— злосным прастуджаным голасам прабасіў капітан Гайда.

— Таварыш маёр, старшына Сопелеў прыбыў па вашаму загаду,— адрапартаваў хуценька, вынікшы з непраглядной цемры, круглы, каржакаваты чалавек.

— Што ў цябе за прозвішча? Ні то Саплёў, ні то Сопелеў? Памяняў бы ты яго,— пажартаваў камбат.

— Радаслоўная, таварыш маёр. Ніяк нельга.

— Жарты жартамі, старшына. Ты мне скажы: у цябе гарачага ў катле засталося?

— Не, няма, таварыш маёр.

— Батарэя галодная, разумееш? — сказаў сур'ёзна камбат.

— Трохі ёсць маннай кашы.

— Замары хоць чарвяка людзям. Дай ім пабольш масла, цукру, хлеба... Чаю сагрэй. Зразумеў?

— Так точна, таварыш маёр.

— Усіх пакармі, разам з нампалітам батарэі. А мы з табой, капітан, пайшлі ў штаб. Камандзір выклікае.

— Пакарміце людзей і арганізуйце начлег, Максім Барысавіч,— адыходзячы, папрасіў капітан Гайда.

— Добра, Віталь Захаравіч! Будзе зроблена.

Максім даручыў старшыне Смірнову разам з Сопелевым займацца вячэрай, затым сказаў узводным:

— Камандзір батарэі з камбатам пайшлі ў штаб. Мне загадалі арганізаваць начлег. Што будзем рабіць?

— Дадзім каманду. Няхай спяць у машынах. Кожны знойдзе сабе месца,— сказаў Мухін.

— Падумайце, што вы гаворыце. Вы ўвесь час у кабіне, і вам цёпла. А людзі не спяць, недаядаюць. Ужо трэці дзень на такім холадзе.

— Няхай прывыкаюць. Гэта вучэнні,— спакойна адказаў Мухін.— Я не магу іх усіх узяць да сябе ў кабіну.

— Што думаеце вы, Тарас Дзянісавіч? — спытаўся Максім.

— Я першы раз на такіх вучэннях. Але мне здаецца, што ў машынах небяспечна.

Падышоў Бязродны ў завязанай пад барадой шапцы, згорблены, з бязвольна, як бізуны, апушчанымі рукамі.

— Таварыш нампаліт, прабачце, што я перабіваю,— сказаў ён нейкім глухім, як быццам не сваім голасам, не трапляючы зуб на зуб.— Я сябе вельмі дрэнна адчуваю. Вы не ведаеце, дзе санчасць?

— Што з табой?

— То ў холад, то ў гарачыню кідае. Напэўна, там, на балоце, спацеў, а потым вось прахапіла.

— Якая тут санчасць? Яна пры штабе. Вось што...

Ідзі да восьмай машыны, залазь у кабіну і сядзі. Адкрый мой рэчавы мяшок і дастань адтуль аспірын і таблеткі ад прастуды. Можаш там і спаць. Сержанту перадай, што гэта маё распараджэнне.

Салдат, хістаючыся, пайшоў і хутка патануў у віхурнай замеці. Счакаўшы, Максім сказаў:

— Бачыце, адзін ужо гатоў.

— Бязродны? Што вы, яго не ведаеце? Сачок! Рашыў проста адпачыць,— заўважыў Мухін.

— Я так пра людзей не думаю. І не даю ім катэгарычнай ацэнкі. І вам не раю, лейтэнант Мухін,— афіцыйна сказаў Максім, адчуваючы раздражненне.

— А ты мне не рай. Я падпарадкоўваюся камандзіру, а не табе. Мае людзі самі захацелі спаць у машынах.

— Людзі стаміліся і змерзлі. Мы павінны даць ім адпачыць па-людску.

— У такім выпадку будзем чакаць камандзіра батарэі,— прамовіў Мухін.

— За камандзіра цяпер я. І прашу выконваць мой загад!

— Ха-ха! Падумаеш, начальнік,— яхідна сказаў Мухін.— Ва ўсе дзіркі лезеш... там дзе трэба і дзе не трэба. Служака!

— Ну, даволі! — адрэзаў Максім.— Ставіць палаткі! Адну для першага, другую — для другога ўзвода. І печкі таксама.

— Будзем ставіць,— адказаў Ціханаў, а Мухін, крута павярнуўшыся, моўчкі пайшоў прэч.

— Добра, лейтэнант Мухін. Аб гэтым я далажу камандзіру батарэі,— сказаў услед яму Максім.

— Не бядуйце, Максім Барысавіч. Заадно займуся я і другім узводам. Што з яго возьмеш? З яго такі ж афіцэр, як з мяне музыкант.

— Вы што-небудзь елі? — спытаўся ў Ціханава Максім, усё яшчэ знаходзячыся ў стане ўзбуджэння.

— Прызнацца шчыра, пасля ўчарашняга — ні разу.

— Што ж вы такі сарамлівы? Так можна і богу душу аддаць.

— У мяне нічога з сабой няма, а ў салдат прасіць няёмка.

— Пойдзем на кухню. Што-небудзь знойдзем.

— Ды неяк няёмка салдат аб'ядаць. Мы ж на забеспячэнні ў штабе.

— Перастаньце сентыментальнічаць,— па-сяброўску сказаў Максім.— А мы што, не салдаты?

Каля батальённай кухні салдаты гучна выскрабалі з кацялкоў кашу, пілі чай. Максіму і Ціханаву тут жа падалі кацялкі. Смірноў з велізарнага паходнага бака чарпаком наскроб кашы, у накрыўкі ад кацялкоў наліў чаю, даў масла, цукру і па лусце хлеба. Паеўшы, Ціханаў падаў салдату кацялок, сказаў:

— Прабачце, што памыць не магу.

Усе, хто чуў, засмяяліся. Максім заўважыў:

— А я і не ведаў, што вы з гумарам, Тарас Дзянісавіч.

## 16

Як толькі закончылі вячэру, Максім аддаў загад ставіць палаткі. Але брацца за справу ніхто не хацеў. Узвод Мухіна зашыўся ў кабіны і кузавы машын. Сам Мухін уладкаваўся на начлег у кабіне і больш не паказваўся. Некалькі чалавек другога ўзвода, маўклівыя, панурыя, неахвотна тоўпіліся каля камандзіраў.

— Што вы ўсе засумавалі? — бадзёра крыкнуў Максім.— Цягніце сюды палаткі. Я месца выберу.

— Дзе яны, палаткі гэтыя?

— Хто іх знойдзе цяпер? На іх, відаць, паснулі.

— У другім узводзе яны.

— Не хлусі! Няма ў нас!

— Так! Хопіць спрэчак,— сказаў гучна Максім і скамандаваў: — Камандзірам гармат перагледзець

усе машыны, знайсці палаткі, печкі, дровы, рыдлёўкі, сякеры! Ясна?

— Ясна, таварыш нампаліт,— не адразу адказала некалькі галасоў, і людзі, шоргаючы валёнкамі, згубіліся ў малочнай каламуці, быццам раствактыліся ў ёй.

— Птуха! Стральчэня! Клыпа! Папоў! Да мяне.

— Мы тут, таварыш нампаліт.

І аднекуль з-за дрэў вынырнулі чатыры чалавекі.

— Калі-небудзь ставілі палаткі? — спытаўся Максім.

— Даводзілася.

— У турысцкім паходзе.

— Тады мы выратаваны,— пажартаваў Максім.

Яны выбралі паляну, вызначылі месца. Сержанты прынеслі ўсё неабходнае.

Максім скінуў шынель і фуфайку, застаўшыся ў адной гімнасцёрцы, узяў рыдлёўку.

— Папоў і Птуха, сячыце галлё, хмызняк. Толькі не чапайце сасняк. Стральчэня, капайце яму і ўстанаўлівайце печку. Клыпа разам са мной разграбай снег.

— А нам што рабіць? — спытаў нехта з сержантаў.

— Што хочаце! — адказаў Максім.— Рабіце, што і ўсе! Якога д'ябла я вас павінен вучыць, што і як рабіць? Вы ж камандзіры!

І ён пачаў расчышчаць паляну. Сержанты пахапалі рыдлёўкі, старанна і заўзята сталі яму памагаць, быццам сваім стараннем хацелі заслужыць у нампаліта прабачэння. Ціханаў важдаўся з палаткамі.

На паляне час ад часу ўзвіваліся віхурныя слупы, білі ў твар дробным снегам.

Застаўшыся без верхняй вопраткі, Максім неўзабаве адчуў на грудзях і плячах пякучы дотык холаду, які, нібы клешчамі, сцягваў цела. Але як толькі ён увайшоў у работу, адчуванне холаду прайшло, а потым і зусім стала горача.

— Таварыш нампаліт,— таямнічым голасам прашаптаў Клыпа.— Тут непадалёку салома ёсць.

— Дзе? — выпрастаўся ён.

— Там, на полі... цэлы стог.

— Дык гэта ж, відаць, калгасны?

— Так точна, таварыш нампаліт. Калгасны.

— М-так,— задумаўся Максім. Ён ведаў, чаму так нясмела сказаў яму пра гэта Клыпа, разумеў яго тонкі намёк. Салома патрэбна была, яна выратавала б людзей ад холаду.

— Вось што, Клыпа. З дзвюх бед выбіраюць меншую. Як ты думаеш?

— Правільна, таварыш нампаліт. Патрэбна да зарэзу.

— Вазьмі машыну, пад'едзь і набяры саломы. А перад начальствам я як-небудзь апраўдаюся. Давай арганізуй.

— О, вы малайчына, таварыш нампаліт,— узрадавана прашаптаў Клыпа і тут жа знік.

Неўзабаве пачулася здалёк гамонка, перарывістае гудзенне матора.

— Таварыш нампаліт, дазвольце мне,— сказаў нехта над вухам, паклаўшы руку на дзяржальна рыдлёўкі. Максім азірнуўся.

— Гэта ты, Бязродны?

— Я, таварыш нампаліт.

— Ты ж хворы. Чаго прыйшоў?

— Не магу я... Таварышы горб гнуць... Скажуць, сачок.

— Ты з глузду з'ехаў! Ідзі зараз жа ў кабіну. Цябе ж усяго трасе!

— Нічога... гэта ад сну... Пройдзе.

Максім кінуў у снег рыдлёўку, апрануўся, узяў пад руку Бязроднага і павёў да машыны. Ён быў пакорліва-ціхі, слабы і хістаўся, як п'яны.

— Заставайся тут і нікуды не выходзь. У маім рэ-

чавым мяшку ёсць цёплы світэр і шарсцяныя шкарпэткі. Вазьмі надзень, захутайся і спі. А раніцой мы цябе пачнём лячыць сур'ёзна.

Максім стукнуў дзверцамі кабіны і пайшоў туды, дзе варушыліся чорныя постаці людзей. Работа кіпела, і яму заставалася толькі назіраць за ўсім і нічога не выпускаць з поля зроку.

Чорныя плямы мёрзлай зямлі выслалі насечаным галлём і яловымі лапамі. Шчыльны спружыністы насціл накрылі дном палаткі, замацаваўшы па канцах. Надзеўшы на калы, расцягнулі вяроўкамі з бакоў і завязалі іх за дрэвы. У пустое чэрава палаткі напхалі саломы. Устанавілі печкі і ўмацавалі дымаходныя трубы.

— Тарас Дзянісавіч, загадайце распальваць печкі,— сказаў Максім.— Кладзіце людзей спаць, толькі назначце днявальных. А я пайду падыму астатніх. Памерзнуць, бедалагі.

Завея сціхала, але мароз не слабеў. Бяздонная прастора неба, нібы цвікамі з яркімі галоўкамі, была наколата зеленавата-серабрыстымі зоркамі. Пухкія насыпы снегу пагрозліва горбіліся між сасняку.

Максім падыходзіў да машыны, будзіў салдат, адпраўляў у палаткі. Салдаты, скурчаныя ад холаду, сонныя, стомленыя, пакорліва і маўкліва ішлі да палатак. Пераканаўшыся, што ў цягачах нікога не засталося, ён разбудзіў Бязроднага і разам з ім накіраваўся ў палатку. Ля ўвахода яго сустрэў Ціханаў.

— Усё ў парадку? — спытаўся Максім.

— Так точна, Максім Барысавіч! Усе людзі размешчаны. Днявальныя назначаны.

Максім заглянуў у палатку. У імглістым святле печкі, што глуха гудзела полымем, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, ляжалі шэрыя постаці людзей. У нос дало пахам дыму, саломы, пракіслага адзення і абутку. Адправіўшы Бязроднага спаць, Максім спытаўся Ціханава:

— Будзем чакаць камандзіра ці ляжам?

— Трэба пачакаць. Мала якія могуць быць пытанні? Яшчэ пачне нас шукаць.

— Пачакаем яшчэ з паўгадзіны. Калі за гэты час не прыйдзе — ляжам. Заўтра будзе самы цяжкі і адказны дзень. Трэба хоць гадзіны дзве за трое сутак паспаць. А то можам не вытрымаць.

Яны рушылі каляінамі, выбітымі коламі машын. Завея сціхла. Цішыня — без адзінага шолаху і гуку. Нейкая незямная — як месячная. На ўсю белую прастору зямлі лягла зорная маўклівасць.

Ціханаў спыніўся, закінуўшы галаву, доўга глядзеў у неба, затым сказаў:

— Ёсць нейкая незразумелая сіла ў зорках, нейкі поклічны голас. Быццам кагосьці бачыш там або адчуваеш...

— А мне запомніліся зорныя ночы ў арміі, калі тэрміновую служыў. Бывала, «праз дзень на рамень». Усё перадумаеш, перабярэш у памяці... Нават вершы пісаў. Адзін час хацеў пісьменнікам стаць.

— А чаго ж не імкнуцца, калі цяга да гэтага ёсць? — спытаўся Ціханаў.

— Як сказаў Максім Горкі: «Народжаны поўзаць — лятаць не можа». Адчуў я, што слабаваты для гэтага. Пісьменніку многае даецца, але ад пісьменніка і многае патрабуецца. Перш за ўсё быць адукаваным чалавекам. Вось гэтага якраз мне і не хапае. Жыццё ўвесь час ставіла мяне ў такія ўмовы, што трэба было зарабляць на кавалак хлеба. Вучыўся мала. Час патрачаны марна.

— Прачытайце што-небудзь са сваіх вершаў,— папрасіў Ціханаў.

— Дзеля вас — можна. Толькі, здаецца мне, усё — не тое.

Як трэба чалавеку у жыцці
Для споведзі мець бога — дзве далоні!

Прыйсці да іх, прыпасці ў забыцці
І выказаць ўсё тое, што нас гоніць

Ад цішыні абрыдлай і ад яснасці,
Ад просценькіх завучаных надзей,
Ад той фальшыва-прыкранькай спагаднасці,
Што культывуецца сярод людзей.

Ах, як яны патрэбны — дзве далоні!
Каб ўзважыць сэрца, ціха адагрэць,
Калі сярод людзей ты як ў палоне,
Калі не ў сілах больш ужо гарэць.

— Дарэмна вы, Максім Барысавіч, кінулі пісаць. Мне думаецца, з вас мог бы атрымацца паэт. У вас ёсць што сказаць людзям...

— Магчыма. Але я ніколі не вяртаюся да мінулага.

Ішлі моўчкі, паволі выціскаючы валёнкамі сухі рэзкі скрып з мёрзлых камякоў снегу.

— Я вось аб чым думаю,— гледзячы на зоркі, сказаў Ціханаў,— праз сто, праз дзвесце, а можа, праз тысячу гадоў, азвярэўшы ад узаемнай варожасці, прэзідэнты, каралі і манархі пачнуць кідаць адзін у аднаго атамныя, вадародныя, нейтронныя бомбы. І стане Зямля пустыняй. Нікому не патрэбна яна будзе. Ні жывым, ні мёртвым. А там глядзіш — адкрыюць яе іншыя высокаарганізаваныя стварэнні. Прыляцяць яны з космасу і будуць у здзіўленні рабіць навуковыя гіпотэзы — па якой прычыне зніклі зямляне. Стануць яны захапляцца Ленінградам і Венецыяй, Парыжам і Венай, егіпецкімі пірамідамі і Эйфелевай вежай, спрабуючы зразумець, што ж прывяло да гібелі зямную цывілізацыю. І толькі кнігі, мільёны кніг, пакінутых чалавецтвам, раскажуць ім аб самім чалавеку, аб яго страсцях і пачуццях, аб адвечнай варожасці плямён і народаў, аб усім тым, што прывяло да гібелі планету. А калі гэтыя прышэльцы размножацца на Зямлі,

узнікнуць зноў рэлігіі, філасофіі і, вядома ж, ідэалогіі. І так — на некалькі тысячагоддзяў. Потым зноў шалёныя спрэчкі, варожасць і катаклізмы. І так па кругу... Уся жывая гісторыя Зямлі — без сэнсу і без мэты.

— Не будзе гэтага ніколі! — катэгарычным тонам сказаў Максім.

— Я таксама хачу, каб гэтага ніколі не было. Але я не маю ўлады над ходам сваіх думак. Адзін д'ябал ва мне даказвае, што гэта збудзецца, а другі — што гэтага ніколі не будзе. І паміж гэтымі д'ябламі ідзе вечная барацьба, якая змучыла мяне ўшчэнт.

— Не! Людзі не дапусцяць гэтага! У адваротным выпадку ў нас ці ў некага будуць усе падставы гаварыць, што існаванне ўсяго жывога на Зямлі, у тым ліку і чалавека, не мае ніякага сэнсу.

— Усё жывое мае пачатак і канец,— працягваў Ціханаў.— Былі ж некалі на планеце маманты і дыназаўры. Аднак яны зніклі. Дык чаму вы не дапускаеце думкі, што ў выніку сацыяльнага катаклізму не спыніць сваё існаванне чалавецтва? А жыццё наша такое кароткае, што мы ні ў чым па сутнасці не паспяваем разабрацца. Як сказаў Байран:

Цель бытия — кто скажет, в чем она?
Наш разум слаб. Недолги наши годы,
Мы близоруки, истина темна,
И человек лишен простой свободы
Судить и думать. Быть самим собой.
И мысль рождается бесправною рабой.

— Не дапускаю я гэтага,— сказаў Максім.— Мой розум не ўспрымае саму магчымасць жудаснай вайны і яе вынікаў. Я веру ў светлы розум чалавека. Розум пераможа. Інакш навошта ж прырода зрабіла яго разумным? Няўжо для таго, каб потым самога сябе знішчыць вынаходствамі свайго розуму?

У сасняку раптоўна з'явіўся капітан Гайда. Ён падышоў да іх і спытаўся:

— У батарэі ўсё нармальна?

— Так,— адказаў Максім.

— А чаму не спіце?

— Вас чакалі,— адказаў Ціханаў.

— Кладзіцеся! У сем раніцы пад'ём. Заўтра фарсіруем «Нёман». Трэба хоць крыху адпачыць.

— З харчаваннем што-небудзь высветлілі? — спытаўся Максім.

— Далажыў камандзіру. Але Мяцельскага нідзе не знайшоў. Кажуць, недзе ў падраздзяленнях.

— Як жа так? Людзей карміць трэба.

— Усё роўна мы цяпер нічога не зробім. Заўтра раніцой разбяромся.

Максім улез у горача напаленую палатку, лёг з самага краю спіной да нечай спіны. Але сон не ішоў. У галаву лезлі розныя няпрошаныя думкі. Ва ўяўленні стаяў страшны малюнак бязлюднай Зямлі. Праз разнагалосы гучны храп прабіваўся ціхі голас, які нешта расказваў. Максім прыслухаўся і пазнаў Клыпу. Хацеў зрабіць заўвагу і сказаць, каб змоўклі, але потым падумаў: «А, няхай расказвае. Усе спяць як пшаніцу прадаўшы». Голас Клыпы быў ціхі, павольны, з соннай хрыпатой.

— ...Хто ж, думаем, крадзе? Ёлкі-палкі. Адзін на аднаго ваўком глядзім. Адзін аднаго падазраём.

— А кралі што?

— Усялякую дробязь,— азваўся Клыпа.— У каго рубель, у каго траяк, у каго адэкалон ці ручку-самапіску. І вось аднойчы нашы паехалі на начныя стрэльбы, а мяне пасля варты адпачываць пакінулі. Пагасіў я святло, ляжу ў ложку. У казарме аднаму нязвыкла так, пуста, халадна. Праз вокны бачу, як на вуліцы голыя дрэвы хістаюцца. Лістапад ужо быў. Думаецца ўсякае. Саньку сваю ўспамінаю — дзеўка ў мяне ў вёс-

цы была. Не дачакалася, халера, замуж выскачыла. Відаць, засвярбела вельмі... Але не пра яе гаворка. Рантам чую, нехта асцярожненька кратае мяне за пяткі. Божухна мой! Страх! Як кінуўся я! Як закрычаў! А з-пад майго ложка як выскачыць нехта і ў дзверы. Упоцемку я нават не разгледзеў.

Субяседнік Клыпы надоўга зайшоўся тоненькім смяшком, затым спытаўся:

— Хто ж гэта быў — чалавек ці звер які?

— Чалавек,— адказаў Клыпа,— наш Вузматаў. Гэта потым мы ўстанавілі.

— Ну і што ж далей?

— А далей усё проста было. Прыехалі хлопцы са стрэльбаў, я расказаў усё. Перабралі кожнага, хто дзе быў. Так і ўстанавілі — Вузматаў. Ён нават не адмаўляўся. Адкрылі ў капцёрцы яго чамаданчык, а ў ім усё наша кроўнае: сарочкі, траякі, самапісачкі, адэкалончык і ўсё такое.

— Вось гадзіна! Гэта ж трэба ў сваіх таварышаўсалдат. Я б яму рукі адсек! Пакаралі вы яго?

— Каралі... Спачатку паслухай — як ён краў. Ноччу, калі ўсе спалі, спускаўся са свайго ложка на падлогу, падпаўзаў пад чужы ложак, пераварочваўся на спіну і расшпільваў кішэні гімнасцёркі. А гэта ж усё на табурэтцы ляжыць — сам ведаеш. Усё, што было ў кішэні, забіраў, зашпільваў і поўз да свайго ложка. Працаваў чыста, не падкапаешся. А тады ў цемнаце ён не разлічыў. Я ногі далёка высунуў. Ну ён замест кішэні мяне за пяткі хапнуў. Ёлкі-палкі!

Максім слухаў і не слухаў, аддаючыся ва ўладу неадольнай дрымотнай млявасці. Па целе разлівалася нясцерпна-салодкая стома, зліпаліся павекі. Прыемна пахла дрывамі, едкім дымком, разагрэтай саломай. Ён глядзеў са спіны на згорбленага ля печкі дняВальнага і паволі засынаў. А голас Клыпы ўсё цёк, цурчэў, не парушаючы ні цішыні, ні моцнага салдацкага сну.

— Рашылі мы яму цёмную зрабіць. Дамовіліся — у дзве гадзіны ночы. Сашка, хлопец, у якога ён больш за ўсіх краў, павінен быў падняцца першы і накінуць на яго коўдру. Мы адразу ўсе кідаемся на Вузматава і дубасім. Ляжым. Спаць так хочацца — хоць павекі раздзірай. Але не спім. Чакаем, калі Сашка падымецца. Вось чую — ложак рыпнуў. Гэта Сашка, значыць, ногі спусціў. Другі раз рыпнуў — Сашка ўстаў, расцягнуў коўдру на размах рук і, крадучыся, пайшоў да ложка Вузматава. Усе прытаіліся — не дыхаюць. А Сашка падышоў, схіліўся над ім і пытае: «Ты, Вузматаў, спіш ці не спіш?» — «Не сплю»,— кажа Вузматаў. «Хлопцы, дык ён жа не спіць. Шкада мне яго»,— гаворыць Сашка. Ну мы тут і грымнулі ад смеху. Злосць у нас уся прайшла і ўжо біць не хацелася. Пасля на камсамольскім сходзе разабралі яго, пісьмо бацькам напісалі.

Апошнія словы Клыпы, нібы рэдкія кроплі дажджу ў рачную роўнядзь, паволі падалі ў свядомасць Максіма, закалыхваючы і апускаючы яго ў сон.

## 17

Але спаць у гэту ноч доўга не давялося. Недзе каля трэцяй гадзіны Максім прачнуўся ад вострага болю ў баку. Левая частка цела, на якой ён ляжаў, замерзла і здавалася здранцвелай, правая — пясцілася ў цеплыні. Максім выціснуўся са шчыльнай масы целаў, пацёр замерзлую шчаку, паварушыў рукой. Сон, які нясцерпна ламаў яго, паволі адпусціў, і Максім пачаў прывыкаць да цемнаты.

Як забітыя, спалі салдаты, цесна прыціснуўшыся адзін да аднаго. Па-дамашняму ўтульна бубніла, патрэскваючы, печка. Рознакаляровымі, ярка напаленымі каменьчыкамі сыпаліся ў паддувала вугольчыкі,

хутка затухаючы. Слабы, змрочны водбліск сонна блукаў па шэрых шынялях салдат, быццам бы пільнаваў і без таго моцны сон. Ля печы, уцягнуўшы галаву ў каўнер шыняля, сядзеў дняวальны. Па яго згорблена-сутулай спіне, па расслаблена-вялых апушчаных руках было бачна, што салдат заснуў.

— Днявальны, вы спіце? — ціха спытаў Максім.

Салдат уздрыгнуў, павярнуўся да яго тварам, хрыпла, застаялым голасам адказаў:

— Прыдрамнуў крышку... Заразае сон, таварыш нампаліт.

— Цябе хто змяняе?

— Клыпа,— адказаў той і, паглядзеўшы на гадзіннік, дадаў: — Праз дваццаць мінут.

— Ідзіце лажыцеся на маё месца, а я замест вас пабуду... Клыпу пабуджу,— сказаў Максім.

Салдат моўчкі падняўся, уціснуўся на месца Александровіча і адразу прыціх, нібы праваліўшыся ў бяспамятны сон. Максім напхаў у печ сухіх цялешынаў, некалькі разоў дзьмухнуў у паддувала. Хутка трапятліва забілася ў жалезным чэраве полымя. Печка загула, запунсавела малінава-чырвонымі бакамі, апякаюча дыхнула ў твар. Неяк не верылася, што за тонкай сцяной палаткі стаіць лютая марозная маўклівасць, што зімовая ціша і марозная вусцішнасць паглынулі ўсё навокал.

Максім адчуў, што нясцерпна хоча есці. Але перакусіць не было чаго. Дзесьці ў рукзаку яшчэ ляжала паўбохана чорнага чэрствага і цвёрдага, як цэгла, хлеба, але ісці па яго не хацелася. Максім праглынуў сліну, пачаў думаць пра іншае. Раптам ён пачуў рыпенне снегу пад нагамі. Хтосьці хутка набліжаўся да палаткі. Максім падняўся, адкінуў створку ля ўвахода і, нізка прыгнуўшыся, выйшаў з палаткі. Разагрэты твар яго адразу як апякло, вейкі пачалі зліпацца, вусны анямелі ад калючай стыласці паветра. Ён убачыў

Гайду. Камандзір батальёна, пазнаўшы свайго намесніка, прыемна здзівіўся:

— Вы чаго не спіце, Максім Барысавіч?

Твар, бровы, клапаны завязанай шапкі ў яго былі пакрыты інеем.

— Спаў на адным баку. Змёрз і прачнуўся. А тут чую крокі чыесьці.

— Я таксама крыху прыкархнуў. Прыйшоў сувязны са штаба і пабудзіў.

— Што-небудзь здарылася? — спытаў Максім.

— Атрыманы новы загад. Праз паўгадзіны здымацца.

— Шкада. Людзі не паспяць,— з горыччу заўважыў Максім.

— Што ж паробіш? Загад ёсць загад. Яго выконваць трэба. Пасля вучэнняў адсыпацца будзем.

— Я непакоюся пра людзей,— з трывогай сказаў Максім.— Некаторыя спяць у машынах. Хаця б не памерзлі.

— Усё магчыма,— згадзіўся Гайда.— Таму чым раней падымем асабовы састаў, тым лепш.

— Тады давайце зробім пад'ём,— прапанаваў Максім.

— Так, відаць, час. Пакуль разварушым людзей — глядзіш, і на марш.

— Батарэя, пад'ём! — моцна, на ўсю сілу пракрычаў Максім. Але крыку не атрымалася. Голас слаба прагучаў і растварыўся ў цішыні. Тады ён пабег да палаткі, зноў шмыгнуў у яе густую цеплыню, якая чадна пахла распаленым жалезам, яловымі галінкамі і пракіслым адзеннем, ціха, але настойліва паклікаў:

— Пад'ём! Пад'ём, хлопцы! Строіцца...

Пачулася варушэнне, цяжкія нездаволеныя ўздыхі, соннае мармытанне.

— Што за чорт, падымаюць так рана.

— Хаця б раз далі паспаць удосталь.

— Толькі размарыліся.

Хтосьці выкаціўся з палаткі, спатыкнуўшыся, тыцнуўся ніцма ў снег, прабурчаў:

— Ну і мароз, мужыкі. Ах і дуба дадзім!

Максім накіраваўся да машын, у кузавах і кабінах якіх таксама спалі, а правільней, бавілі ноч салдаты, якія не пажадалі ставіць палатку. Пачуўшы «пад'ём», яны неахвотна выкульваліся мяшкамі на снег, скурчаныя холадам, па-старэчаму горбіліся, уціскаліся, уцягваліся ў шынялі, каб хоць як сагрэцца, і цягнуліся на пастраенне. Па ўсяму было бачна: тыя, што спалі ў машынах, зусім змерзлі.

Цяпер бы самы час пакарміць батарэю гарачай ежай, напаіць салодкім чаем. Салдаты сагрэліся б, павесялелі б, адышлі б ад холаду, які балюча рваў і замарожваў цела. Але дзе тая кухня і жаданае снеданне, абед або вячэра? Усё зрушылася ў часе.

Амаль увесь узвод Мухіна начаваў у машынах, і гэта сур'ёзна непакоіла Максіма. Не памарозіліся б, не захварэлі б, не выйшлі б са строю людзі. Бо самае цяжкае яшчэ было наперадзе.

Занепакоены гэтымі думкамі, ён вырашыў пагаварыць з Мухіным. Адшукаў яго ў кабіне, дзе яны спалі разам з вадзіцелем. Па цеплыні, якая зыходзіла ад марадыятара, ён здагадаўся, што матор працаваў на малых абаротах і таму ў кабіне было цёпла. І глухое нястрымнае раздражэнне ўзнялося супраць узводнага.

— Батарэя строіцца, а вы ўсё яшчэ спіце,— сказаў ён з дакорам. Мухін соладка пазяхнуў, бадзёрым, пасвяжэлым голасам адказаў:

— А што мне загадаеце рабіць, нампаліт? Не спаць, ці што?

І ў гэтым фамільярным адказе Мухін зноў падкрэсліў сваю незалежнасць і нежаданне падпарадкоўвацца яму — Александровічу.

— Вы ж спалі ў цеплыні,— па-ранейшаму захоў-

ваючы афіцыйнасць, сказаў Максім.— А вось узвод ваш мёрз у машынах.

— Што я мог зрабіць? Да сябе на калені пасадзіць яго? — з іроніяй адпарыраваў Мухін.

— Не ведаю. Гэта ваш клопат. Я вас прасіў паставіць палатку, а вы адмовіліся!

— Салдаты самі не захацелі.

— Запомніце, таварыш лейтэнант, за людзей і боегатоўнасць падраздзялення вы адказваеце персанальна.

— Калі трэба — адкажу, але толькі не табе,— ужо сарваным ад злосці голасам сказаў Мухін.

— Хачу вам заўважыць, што я разам з вамі свіней не пасвіў. Прашу вас больш не гаварыць мне «ты».

Максім крута павярнуўся і рушыў да батарэі. Усё ў ім бушавала супраць нахабства Мухіна. Наспявала цвёрдае рашэнне: аб паводзінах узводнага напісаць рапарт камандзіру злучэння.

А батарэя тым часам строілася. Салдаты, на хаду папраўляючы шынялі, па аднаму і групкамі сцякаліся да месца пастраення. Камандзіры аддзяленняў спяшаліся праверыць наяўнасць людзей і далажыць узводным. Гайда аб нечым размаўляў з Ціханавым. Мухін рупліва завіхаўся каля свайго ўзвода. Максім стаяў адзін, слухаючы фырканне матораў, якія прагравaліся, і наглядаў за людзьмі. Адны непрыкметна курылі, хаваючы агеньчыкі ў рукавах шыняля, другія, штурхаючыся плячыма, грэліся, трэція — прастуджана кашлялі. І над усімі гэтымі людзьмі распасціралася ватна-непранікальнае, пустэльнае неба.

Пасля праверкі высветлілася, што захварэў яшчэ адзін салдат па прозвішчу Возба. Нізенькага росту, падобны на хлопчыка-падлетка, ён адразу запомніўся Максіму. Зусім нядаўна прызваны ў армію аднекуль з Абхазіі, ён быў не прыстасаваны да суровай беларускай зімы. Гэтыя вучэнні былі яго першым баявым хрышчэннем. Ён цярпліва пераносіў холад, страшэнна

пакутаваў, але не скардзіўся, нікога не прасіў аб дапамозе. І вось цяпер, як высветлілася, захварэў і разам з Бязродным грэўся ў кабіне. Максім падумаў пра тое, што не ў час выйшлі са строю два гарматныя нумары, а могуць захварэць яшчэ і іншыя.

Гайда, выслухаўшы даклады ўзводных, пачаў гаварыць ціха, але выразна, са спачувальнай увагай да людзей.

— Таварышы, я ведаю, што вельмі цяжка. Недаядаем і недасыпаем трэція суткі. Холадна. Вельмі холадна. Мароз прабірае да касцей. Але я прашу вас: збярыце ўсю вашу волю, сцісніце яе ў кулак. Мы павінны, абавязкова павінны вытрымаць. Ад гэтага залежыць поспех нашай батарэі. Памятайце, што нашым таварышам: танкістам, пехацінцам, матастралкам — таксама цяжка, як і нам.

Батарэя маўчала, потым пранеслася ціхае, але цвёрдае:

— Вытрымаем, таварыш капітан.

— Мы не падвядзём. Вось толькі б харчу падкінулі якога.

— Пастаўце задачу, таварыш капітан, а то замёрзнем. Рухацца трэба.

Гайда падышоў яшчэ бліжэй да строю, быццам бы хацеў увабраць у сябе цярплівую напружанасць салдацкіх твараў, іх каменную суровасць. Строй ажыўлена калыхнуўся, потым на імгненне стаў нерухомым, быццам застыў. Гайда працягваў непаслухмянымі ад марозу вуснамі:

— Перад батарэяй пастаўлена задача: тэрмінова зняцца з пазіцыі і выйсці на зададзены рубеж для падтрымкі нашых злучэнняў. Рухацца маршам у межах ста кіламетраў. У асноўным палявымі і ляснымі дарогамі. Хуткасць і парадак руху — тыя ж. А цяпер камандзіраў узводаў і аддзяленняў папрашу падысці да мяне, астатнім — па машынах.

Батарэя рассыпалася ў розныя бакі на неширокай паляне, узятай у палон сцяной казачнага, непраўдападобна белага лесу. У малочна-шызых прыцемках цёмныя фігуры салдат таропка распаўзаліся і хутка губляліся. Камандзіры ўзводаў і аддзяленняў стоўпіліся каля Гайды, нецярпліва пераступаючы з нагі на нагу.

— Як настрой, таварышы? — спытаў камандзір батарэі.

— Няважны, таварыш капітан,— адгукнуўся хтосьці з сержантаў зусім ахрыплым голасам.

— Калі раніцай не пакормім людзей — многія могуць зламацца,— сказаў Ціханаў.

— Вы гэта хацелі сказаць, таварыш сержант? — трывожна спытаў Гайда.

— Так. Іменна гэта. Самі бачыце: двое ўжо захварэлі.

Хтосьці зусім не да месца выпусціў вымучаны смех, тут жа заглушаны.

— Мяне больш за ўсё непакоіць становішча спраў у вашым узводзе, лейтэнант Мухін.

— Прымем усе меры,— як заўсёды ўпэўнена заявіў Мухін.

— Пакуль хоць бы да хворых,— дадаў Гайда.— Скажыце, Максім Барысавіч, старшыне, каб ён цяплей апрануў іх.

Максіму вельмі хацелася расказаць камандзіру батарэі пра інцыдэнт з Мухіным. Але час быў непадыходзячы, і гэту размову вырашыў пакінуць да раніцы.

— Хворыя, таварыш капітан, паедуць у маёй машыне, а я з салдатамі наверсе.

Гайда нічога не адказаў Максіму, потым сказаў тым даверлівым тонам, якім гавораць камандзіры са сваімі падначаленымі, перакананыя ў іх надзейнасці:

— Ад вас усіх прашу асаблівай дысцыпліны і арганізаванасці.

# 18

Максім ускочыў на прыступак машыны і рвануў дзверцы кабіны. Ва ўтульнай цеплыні яе, тоўста апранутыя ў валёнкі, ватовыя штаны і бушлат, драмаў вадзіцель. Побач з ім на адным сядзенні, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, натапырыўшыся, як вераб'і, сядзелі Бязродны і Возба. Па стомлена-абыякаваму выразу на тварах, па цьмяна-гарачкаваму бляску вачэй было відаць, што абодва хворыя.

— Цярпець можаце, хлопцы? — спачувальна спытаў Максім.

— Не хвалюйцеся, таварыш нампаліт,— адказаў Возба.— Пройдзе. Гэта так. Ад зімы. У нас у Абхазіі ніколі зімы не бывае. Снегу я ні разу не бачыў. Усё думаў: убачу — абрадуюся. Казалі, што ён цёплы. А цяпер вось зразумеў: халодны.

Возба гаварыў так, быццам адчуваў сябе вінаватым перад нампалітам.

— Рускай мове дзе навучыліся? — пацікавіўся Максім.

— Я рускую школу канчаў. У ауле ў нас усе мову ведаюць.

— Не звяртайце вы на нас увагі, таварыш нампаліт. Не з такіх заварух выкручваліся,— сказаў Бязродны.— Крыўдна толькі, што хлопцы за нас укалваюць, а мы, як каралі на імянінах.

У гэты час, ззаду, з-за спіны Максіма пачуўся голас Папова:

— Гэй, хлопцы, паесці хочаце?

— Гэта ты, баптыст? — адгукнуўся Бязродны.

— Я! — крыкнуў Папоў.

— Што ты хочаш? — злосна зморшчыўшыся, спытаў Бязродны.

— Паесці вазьміце. Хлопцы вось хлеба і масла крыху прыдбалі.

Максім, каб не перашкаджаць Папову, саскочыў на снег, пачуў кплівы голас Бязроднага.

— Ну ты яшчэ выдумаў — мяне частаваць. Хлопцы, маўляў, хлеба і масла прыдбалі. Мяне ёсць каму частаваць. А то яшчэ заразіш верай у свайго бога.

— Навошта так? Нядобра гаворыш. Чалавек з дабром да цябе, а ты вунь як. Вельмі нядобра, хіба не адчуваеш? — з нейкім хваравітым выразам у голасе дакараў Бязроднага Возба.

— Дык ён жа вунь ад прысягі нават адмовіўся. Значыць, ён нам, калі што якое сур'ёзнае, не памочнік... Ён не з намі заадно, ён з усявышнім сваім.

— Усё роўна нельга так. Усе па зямлі ходзім, адзін хлеб ядзім, адну ваду п'ем. Чалавек пра чалавека лепш павінен думаць.

— Зробіш ты яго лепшым,— скептычна заўважыў Бязродны.— Такога толькі магіла выправіць.

Максім не стаў умешвацца ў размову, толькі папярэдзіў вадзіцеля, каб той выпадкова не заснуў у час маршу, і адышоў убок. Ён бачыў, што Папоў неяк нават падазрона мірна пакінуў хворых і зноў палез у машыну, а замест яго хтосьці іншы аднёс ежу хлопцам.

Максім накіраваўся ўздоўж калоны, на хаду высвятляючы гатоўнасць падраздзяленняў да маршу. Усе маторы працавалі, салдаты сядзелі ў кузавах. Каля машын завіхаліся камандзіры аддзяленняў і, гучна пахрустваючы мёрзлым снегам, чакалі звычайнай каманды «па машынах». Праверыўшы ў калоне апошні разлік, ён подскакам пабег назад. Дзіўна, але цела не саграваласся, быццам не было ў ім ні кроплі гарачай крыві, не захавалася ў вопратцы ніякага цяпла. Ногі здаваліся пудовымі, у час бегу балелі ў пятках. Гэты боль аддаваўся ў патыліцы. Крыху муціла ад голаду.

Пераваліўшыся цераз борт, ён упаў у кузаў, дзе ўжо сядзелі Клыпа, Стральчэня, Птуха і Папоў. Збіў-

шыся ў кучу, як авечкі, яны драмалі, не звярнуўшы ўвагі на свайго нампаліта. Максім, шамоцячы саломай, прымасціўся ў іх у нагах і паспрабаваў задрамаць. Але спаць ужо не хацелася. У галаву надакучліва лезлі неакрэсленыя думкі аб усялякім. Не верылася, што ўвесь гэты час недзе кіпіць жыццё вялікіх гарадоў. У дымнай цеплыні рэстаранаў гучыць музыка. Плаваюць ва ўтульна-салодкіх хвалях сытыя распарана-п'яныя ад ежы і віна людзі. І нікому з іх, магчыма, і няўцям, што ёсць іншае жыццё, поўнае нягод, трывог і неймаверных цяжкасцей.

Сотні, тысячы, дзесяткі тысяч такіх, як Максім, павінны не спаць суткамі, замярзаць на маршах, валіцца ад стомы. І ўсё гэта для таго, каб не пахіснуўся, не раскалоўся і не рухнуў мір на зямлі. І страшэнна захацелася яму, Максіму, убачыць жонку і дачку, адчуць жывую цеплыню свайго дома. Толькі ўсё гэта цяпер схавана ў зусім іншай, недаступнай Максіму рэальнасці. І лепш забыць на нейкі час сваё прывычна дамашняе мінулае, не трывожыць пачуццяў.

А батарэя тым часам прабівалася да мэты. Максім глядзеў на яе вачыма пабочнага назіральніка і бачыў, як у бязмежнай прасторы палёў і лясоў, пахаваных у маўклівай снежнай прасторы, адзін за адным, цяжка, натужліва равучы, паўзлі тупарылыя звերападобныя цягачы. Учэпіста прыляпіўшыся да іх, быццам баючыся адстаць, жвава куляючыся з боку на бок па няроўнасцях дарогі, беглі гарматы. Жоўтыя вочы машын прабівалі, распорвалі ледзь зашарэлую бяздонную каламуць наперадзе. У каламуці той зрэдку праглядваліся чорныя і рэзка аголеныя ад снегу ствалы і галінкі хмызнякоў, шчаціністыя кучкі ржышча, цёмныя абрысы хутароў, якія глядзелі на батарэю сляпымі вокнамі. Снежнае поле, месцамі ў мудрагелістых гурбах, а месцамі — аголенае, прадзьмутае да чарнаты на пагорках, клалася пад колы машынам.

Максім цяпер спачуваў камандзіру батарэі. Незнаёмая мясцовасць. Нікога і нічога навокал. Ні дарогі, ні арыенціраў, ні чалавечага жылля. І ты павінен усё прадугледзець, усё прадбачыць, не збіцца з дарогі, дакладна і ў тэрмін выканаць загад камандавання. І заўсёды памятаць, што на тваёй адказнасці баявая тэхніка і дзесяткі чалавечых жыццяў.

Але Максім ведаў: Гайда не разгубіцца. Надзейна, упэўнена адчуваў ён сябе за яго спіной. Было прыемна падпарадкоўвацца яго разумнай волі.

Колькі за гэтымі думкамі мінула часу, ён не ведаў. Але адчуў, што ноч ужо на зыходзе. Больш рэзка і выразна бачылася прабітая каляіна дарогі, глыбей праглядвалася далечыня па гарызонту, парадзела малочная шэрасць паветра, якая марудна прамывалася світаннем.

Сядзець на саломе было прыемна. Максім адчуваў, што сагрэўся. Цела яго, застылае на марозе, пачало адыходзіць і ўзнаўляць страчаную цеплыню. Ён расслаблена адваліўся спіной назад, упёршыся ў чыесьці ногі. Але ніхто нават не паварушыўся,— усе, відаць, спалі або драмалі, закалыханыя плаўным і мяккім пагойдваннем машыны.

Пачала і Максіма вязаць ліпкая сіла сну. І ўжо не хацелася супраціўляцца ёй.

Але раптам ён адчуў лёгкі штуршок, адплюшчыў замутнелыя сном вочы і адзначыў, што машына стаіць. Спераду калоны даносіліся незразумелыя ўсхваляваныя галасы. Потым хтосьці закрычаў пранізліва і радасна: «Эгей, хлопцы! Кухню прывезлі! Усе на снеданне! Батарэ-я-я-я! Пад'-ё-ё-ём!» Разлік прачнуўся і заварушыўся, шамоцячы саломай, загаманіў застаялымі ламанымі галасамі.

— І каму гэта ўздумалася над намі жартаваць?

— Трэба паглядзець, мо і праўда паесці прывезлі.

— Дачакаешся... З мора пагоды. Мы ж пры штабе на забеспячэнні. А дзе той штаб цяпер?

— Давайце, хлопцы, за мной,— умяшаўся ў гамонку Максім.— На ўсякі выпадак захапіце кацялкі.

Максім асцярожна, каб не пабіць здранцвелыя ногі, пералез цераз задні борт і пайшоў да галаўной машыны. Наперадзе яго, бразгаючы кацялкамі, беглі салдаты. Падышоў бліжэй і ўбачыў кухню, якую ўжо з усіх бакоў абляпілі салдаты, бы мурашкі сытага жука. Ад кухні, высветленай фарамі машыны, густым воблакам валіла, расплывалася духмяна-смачная па́ра. Салдаты, пастроіўшыся па разліках, весела гаманілі, брынкалі на ўсе лады лыжкамі аб кацялкі, нецярпліва чакаючы сваёй чаргі. Над горача дыхаючай пашчай катла стаялі ў белых фартухах старшына Сопелеў і Кузьма Савельевіч. Яны доўгімі апалонікамі кідалі ў кацялкі грэцкую кашу, раздавалі мяса, хлеб, цукар, разлівалі з тэрмаса чай.

— Хто гэта нам такі сюрпрыз паднёс?

— Камбат Шалы паклапаціўся пра нас. Наперад выслаў кухню. Вось тут на развілцы мы і сустрэліся. Старшына Сопелеў нас ужо каля гадзіны чакае.

Толькі цяпер Максім заўважыў, што яны знаходзяцца на скрыжаванні дзвюх дарог, і спытаў:

— Мы ўслед за батальёнам, ці як?

— Не. Нам на поўнач на трыццаць градусаў. Кухню адправім даганяць батальён, а самі праз пятнаццаць мінут здымаемся.

Аднекуль вынырнуў Кузьма Савельевіч з двума кацялкамі ў абедзвюх руках, сказаў паслужліва, але не ліслiва:

— Таварыш капітан і вы, таварыш нампаліт, паешце, калі ласка, пакуль гарачае. Чаю выпіце.

— Дзякую, старшына,— падзякаваў Гайда і спытаў: — Як там хворыя? Вы спачатку накармілі б іх. А нас ужо як-небудзь потым.

— Не хвалюйцеся, таварыш капітан. Бязродны і Возба ўжо накормлены. Да іх у мяне асаблівая ўвага.

Ён гэтак жа раптоўна знік, як і з'явіўся. А Максім і Гайда накіраваліся да групкі салдат, якія разводзілі касцёр каля рэдкага хмызняку. Цесна стоўпіўшыся каля кучы ламачча, адны працягвалі голыя рукі з нягнуткімі ад марозу пальцамі да ледзь ажыўшага агеньчыка, другія проста тапталіся і даядалі кашу, моцна шкрэбаючы лыжкамі ў кацялках, трэція з асалодай курылі. Каля агню мітусіўся Клыпа. Ён то лажыўся на снег і з усёй сілы дзьмуў на полымя, якое слаба тлела, то па-гаспадарску заклапочана лаяўся і цыркаў слінай праз зубы. Часу для абагравання было мала, таму ўсе нецярпліва чакалі, калі нарэшце разгарыцца касцёр. І вось агеньчык, спачатку задушаны густым саладкаватым дымком, які выядаў вочы, раптам набраў сілу, затрашчаў, загуў, чырвона заіскрыўся і прагна папоўз языкатымі лапамі ўверх. На імгненне стала светла, горача і ўтульна. Салдаты круціліся перад агнём, падстаўляючы то жывот, то спіну, то тыцкалі рукі або ногі ў раз'юшаную пашчу полымя. З асалодай ахкалі, вохкалі, кракталі, жартаўліва славілі Клыпу, які новымі бярэмамі сушняку ажыўляў, узмацняў касцёр.

— А ты, Клыпа, хлопец нічога сабе.

— Без цябе мы даўно б канцы аддалі.

— Трэба яму лычку даць. Дзеўкі ў вёсцы гужам хадзіць будуць.

Клыпа маўчаў, жмурыўся, перакідваў языком папяросу з аднаго краю рота ў другі.

— Не, хлопцы. Жарты жартамі, а сказаць праўду — у дзяцінстве мне было туга. Даводзілася ўсяму вучыцца, розную работу рабіць,— сказаў ён сур'ёзна.

Маўчалі, слухалі, зацікаўлена пазіралі на Клыпу. Той выплюнуў папяросу, цыркнуў слінай у касцёр, сказаў са спачуваннем:

— А вось на конях вярхом ездзіць не навучыўся.

— Ты ж вясковы хлопец.

— Вясковы-то вясковы, а не навучыўся. І бацька — конюх,— проста, але глыбакадумна сказаў Клыпа.

— Што ж так слаба? — заўважыў хтосьці з дакорам, з яўным жаданнем падбухторыць Клыпу і зацікавіць таго на працяг свайго апавядання.

Бурна гарэў касцёр, плавячы снег. Бушавала малінава-чырвонае полымя, асвятляючы твары салдат, робячы іх аднолькава цагляна-бураковага колеру. Плавілася ў агні ранішняя шэрасць. З хваёвых лапак шумна сыпануў снег, агаляючы калматыя галіны.

— Баяўся коней я. З дзяцінства пайшла ў мяне гэта хвароба.

— Чаго ж коней баяцца? Мірная жывёліна,— зноў заўважыў хтосьці з салдат.

— Быў такі выпадак,— з нетаропкай паважнасцю пачаў расказваць Клыпа.— У дзяцінстве, так сказаць, падпаскам быў у нашага пастуха. Алкаш ён быў алкашом. Бутэльку гарэлкі купіць, тут жа адкаркуе, засуне ў глотку — глык-глык, і няма. Затым закурыць і гарлапаніць песні на ўвесь лес. Вось неяк злавіў ён каняку калгасную — увесну гэта было. Каняка задрыпаная, калматая, як сабака. «Вазьмі, кажа, ды з'ездзі да цёткі Марфы, самагонкі пляшку прывалачы пахмяліцца». Была ў нас такая ўдава-салдатка. Жыла адна, на краі вёскі, у смалярні. Цішком самагон гнала... Падсадзіў ён мяне — я і паехаў. А ні сядла, ні аброці. Боязна так стала. Палез конік цераз канаўку — не ўтрымаўся я і пад яго з'ехаў. Прыціснуў ён мне нагу, ды так балюча — ратунку няма.

— А самагонку прывёз?

— Ды дзе там,— уздыхнуў Клыпа.— Месяц на печы праваляўся, пакуль косці зрасліся.

— Няўдачнік ты, Клыпа,— падвёў вынік Птуха.

Праглынуўшы ўсе дровы, вогнішча нікла, патуха-

ла, чахла. Слабае сінявата-ліловае полымя яго яшчэ варушылася ў пакрытых попелам вугольчыках, поўзала па галавешках. Але ўжо ніхто не падкідваў дроў, і вогнішча канала. І твары салдат адышлі ў глыбіню змроку, толькі ў вачах у некаторых усё яшчэ дрыжалі, плавіліся водбліскі агню.

Клыпа змоўк, наставіў каўнер шыняля, засунуў рукі ў трохпальцыя салдацкія пальчаткі.

І, як вогнішча, глушэў, затухаў негусты смех асіплых, прастуджаных і прадубленых марозам салдацкіх глотак. Раптоўна ўдарыў у спіну Максіму тугі цяжкі парыў ветру, дзьмухнуў на вогнішча, афарбаваў яго дробным россыпам палаючых іскраў. Павеяла ў твар цёплым попелам і дробнымі снежнымі крупамі. «Будзе мяцеліца»,— з прыкрасцю і трывогай падумаў ён і пайшоў да машыны.

## 19

Раніцай снежная замець, размыўшы ледзь бачную мяжу паміж світаннем і днём, уварвалася ў змярцвелую прастору палёў і разналеcся. Туманна-белымі віхурамі закручваліся снежныя фантаны, дымным воблакам успухалі, раслі да неба і, рассыпаючыся там, цяжкім пылам абрушваліся на машыны і людзей. І на імгненне здавалася Максіму, што ўсё навокал ператварылася ў бурліва-пеністае мора. І ў моры гэтым сіратліва раставала яго батарэя — без надзеі на дапамогу, на падтрымку, на выратаванне.

Але батарэя жыла, дзейнічала, няўхільна рухалася да сваёй мэты. Марудна, але ўпарта і ўпэўнена таранілі цягачы магутную хвалю моцнага стрэчнага ветру. Гарматныя разлікі чакалі толькі загаду, каб рушыць насустрач стыхіі.

Прытуліўся да снараднай скрыні, засунуў рукі ў рукавы шыняля. Максім думаў пра сваю батарэю.

Яшчэ некалькі дзён назад усе гэтыя людзі былі яму чужымі, далёкімі, незразумелымі. А вось за кароткі час звязаліся яны ў тугі вузел. І ўсё далейшае, што магло быць наперадзе, ужо не ўяўлялася без Клыпы, Птухі, Стральчэні, Бязроднага, інтэлігентнага лейтэнанта Ціханава, строгага капітана Гайды. І нават Папоў, гэты дзіўны і незразумелы ў сваёй веры чалавек, неяк прыжыўся, прыцёрся да батарэі і ўжо не выклікаў непрыязні ў салдат. Ён не падладжваўся, не стараўся падстроіцца пад калектыў, а сумленна рабіў усё, што ад яго патрабавалася. Пастунова да яго прывыклі, не звярталі ўвагі на дзівацкія разважанні. Толькі Бязродны ўсё яшчэ, як і раней, адкрыта пагарджаў ім і называў не інакш як «поп» або «баптыст». З пачцівай павагай пачалі ставіцца салдаты да Ціханава. Ён папранейшаму быў нетаропкі, разважлівы, просты ў абыходжанні, але паявілася дзелавітасць, строгасць, падцягнутасць. У ім нараджаўся той знешні бляск і кемлівасць, якія можа даць армія.

Не падабаўся Максіму толькі Мухін. Ён адчуваў непрыязнасць да яго і ніяк не мог яе пераадолець. Гэта непрыязнасць, што ўзнікла з першых дзён іх знаёмства, працягвала расці, як камяк снегу, які каціўся з гары. Быў ён вельмі непрыемны Максіму сваёй унутранай недысцыплінаванасцю, абыякавымі адносінамі да людзей.

Павольна, цягуча таўкліся, вязаліся ў галаве думкі. Мацнела, люта шалела мяцеліца. Усё глухла, танула ў яе беспрасветнай імгле. І дзіўным здавалася ў гэтай нежывой стыхіі слухаць шапялява-шаргатлівы галасок Клыпы, які расказваў новую жыццёвую гісторыю пра службу ў арміі.

Але Клыпа недагаварыў. Максіма кінула — спачатку на снарадную скрынку, а потым да задняга борта і балюча аб нешта ўдарыла. Далейшае адбылося, як у сне. Яго выкінула з машыны, і ён, як мячык, пака-

ціўся ў мяккую снежную бездань. І хутчэй не ўбачыў, а адчуў, што ўслед за ім ляцяць, куляюцца ўсе, хто сядзеў у машыне. Што адбылося — уцяміць ён не паспеў, але ўжо ведаў: здарылася нешта надзвычайнае. Магчыма, страшнае, непапраўнае. Ён падхапіўся на ногі, працёр залепленыя снегам вочы і твар, крыкнуў:

— Таварышы, жывыя?

— Жывыя, таварыш нампаліт,— не адразу адгукнуліся салдаты. Сабраўшыся разам, абтрасаліся ад снегу, недарэчна весела жартавалі:

— У сарочцы нарадзіліся мы, таварыш нампаліт,— заўважыў Птуха.

— Так, магло быць і горш,— згадзіўся Стральчэня.

— Лічы, што на тым свеце пабывалі, хлопцы,— сказаў Клыпа.

— А вы гаварылі — бога няма,— глыбакадумна зазначыў Папоў.— Калі б не ён, хто ведае...

— Заткніся ты са сваім богам,— груба абарваў яго Птуха.

Максім агледзеўся. Яны стаялі на дне глыбокага кар'ера. Уверсе, над кар'ерам, заваліўшыся, павісла над абрывам машына. Каля яе ўжо тоўпіліся салдаты, гучна перагаворваючыся, аб нечым спрачаліся і лаяліся. Нехта, спрабуючы перакрычаць іншых, аддаваў распараджэнні.

— Сідараў, адчэплівай гармату! Падганяй цягач! Будзем цягнуць на лябёдку.

— Навошта? Мы яе рукамі выцягнем. Столькі мужыкоў. Што мы, не справімся?!

Максім і ўсе астатнія вылезлі з кар'ера. Пякучаколкі снег, як бізунамі, сцёбаў з усіх бакоў, калючым пылам сек па вачах. Да іх тут жа кінуліся з роспытамі, але, пераканаўшыся, што ўсе цэлыя, пачалі абмяркоўваць, як выцягнуць машыну. Цяпер Максіму няцяжка было здагадацца, што здарылася. Вадзіцель

няйначай заснуў. Магчыма, заснуў і лейтэнант Мухін, які сядзеў побач з ім. Руль выбіла ў шафёра з рук, і цягач, апісаўшы маланкавы зігзаг, рынуўся з абрыву. Каб не было на прычэпе гарматы, якая на кароткім ходзе не павярнулася ўслед за машынай і затармазіла яе падзенне, здарылася б непапраўная бяда. Максім уявіў, як ляціць-коціцца, скрыгочучы і ломячыся, шматтонная машына са снарадамі і людзьмі ў кузаве. Потым сцёр, затушаваў гэты малюнак, ужо больш не вяртаўся ў думках да здарэння. Зразумеўшы, што тут абыдуцца без яго, выцягнуць машыну, Максім адшукаў Гайду, які непадалёк аб нечым гаварыў з камузвода Мухіным і салдатам.

— Як гэта ўсё здарылася? — падышоўшы, спытаў Максім, звярнуўшыся да Мухіна.

Той нічога не адказаў, зірнуў на вадзіцеля ў чаканні адказу. Салдат стаяў, вінавата апусціўшы галаву, уцягнуўшы ў рукавы шыняля голыя рукі, здаваўся бездапаможным і слабым. Ляскаючы зубамі ці то ад холаду, ці то ад перажытага хвалявання і страху, ён адказаў, заікаючыся:

— Руль у мяне з рук выбіла... А як — і сам не ведаю.

— Вы што, заснулі? — спытаў Гайда.

— Не памятаю. Я ноч не спаў. У машыне было холадна.

— Чаму ў палатку не пайшлі? — спытаў Максім.

— Прыходзіў. Там месца ўжо не было.

— Добра. Разбяромся. Ідзіце,— коратка сказаў Гайда і з дакорам, сурова паглядзеў на Мухіна: — Дазвольце вас спытаць, таварыш лейтэнант, вы для чаго сядзелі ў кабіне?

— Пры чым тут я, таварыш капітан?

— Пры тым, лейтэнант,— рэзка павысіў ён голас.— Вы павінны былі не дапусціць гэтага!

— Я не ведаў, што вадзіцель можа адключыцца.

— Вы не толькі не думалі і не ведалі. Вы самі спалі. І па вас гэта бачна. Маліцеся богу, што нічога не здарылася з людзьмі.

— Я не вінаваты. Я не мог прадбачыць, што вадзіцель можа заснуць,— упарта паўтараў Мухін.

— Вы — камандзір узвода. І адказваеце за ўсё.

Мухін маўчаў, схіліўшы галаву і прыціснуўшы вуха да пляча, бараніўся ад сякучага ветру.

— А цяпер прыгадайце нашу з вамі ўчарашнюю размову,— напомніў Максім.— Хіба не я казаў вам паставіць палаткі для ўзвода і забяспечыць людзям нармальны адпачынак?

— Вы ж самі ведаеце, што людзі ўчора страшэнна стаміліся! — не здаваўся Мухін, непрыязна зірнуўшы на Максіма.

— Людзі могуць быць стомленыя. Але наш абавязак — кіраваць імі! — адрэзаў Гайда.— Мы камандзіры. І калі вы не разумееце — тады памяняйцеся роляй са сваім вадзіцелем.

— Што ж, калі я вінаваты, як вы лічыце,— пакарайце мяне,— з крыўдай у голасе сказаў Мухін.— Знайшлі стрэлачніка...

— Караць вас я не буду, дакладней, не маю права. Але пра вашы адносіны да службовых абавязкаў напішу рапарт камандзіру. Не сумняваюся, што ён прыме адпаведныя меры. А цяпер ідзіце. З-за вас мы страцілі сорак хвілін. Батарэі трэба выконваць баявую задачу, а не займацца вашым выхаваннем.

Мухін казырнуў і накіраваўся да машын. Гайда па-пакутніцку нахмурыўся, паглыбіўся ў сябе.

Толькі цяпер Максім заўважыў, як змяніўся ён за некалькі дзён вучэнняў. Карычнева-чырвоны твар яго здаваўся абпаленым, шчокі запалі, скулы сталі больш выпуклымі, у тонкую лінію сціснуліся патрэсканыя на марозе вусны. У запалых вачах утойвалася вечная стомленасць.

— Не перажывайце вы так за Мухіна,— параіў Максім.— Я ўжо даўно збіраўся з вамі пагаварыць пра яго. Ды ўсё ніяк часу не было.

— Нічога мы з ім не зробім, Максім Барысавіч,— з сяброўскай даверлівасцю і засмучэннем сказаў Гайда.— Ён жа запаснік. Што з яго возьмеш? Як з гуся вада.

— Гэта дрэнна, калі так.

— На жаль — так. Вельмі вялікі ўпор у апошнія гады мы робім на самасвядомасць. А яе пакуль і не хапае некаторым салдатам ды і іншым афіцэрам. Аднак не час цяпер пра гэта маркоціцца,— сказаў Гайда і хутка рушыў да калоны, нізка прыгнуўшы галаву, пераадольваючы шчыльны вал мяцеліцы.

Ужо зусім развіднела. Але святло гэта было нежывым і халодным. Усё наўкол гуло, клубілася, кіпела. Белая непраглядная імгла затапіла прастору, сярод якой у чаканні стаялі машыны, гарматы і людзі, якія прагнулі руху — адзінага выратавання ад лютага холаду.

## 20

Гэты дзень вучэнняў Максіму запомніцца надоўга. Ртутны слупок на градусніку апусціўся ніжэй нуля да адзнакі трыццаць. Але мяцеліца не спынялася. З высцём і свістам уздыбліваў вецер калматыя хмары снегу, ураганам праносіўся над самай зямлёй. Усюды падымаліся і высока закручваліся слупы снегу, старчаком беглі па полі, раптоўна зверху абвальваючыся і рассыпаючыся. Паміж сумётамі і снежнымі барханамі шаўкавіста цякла, струменілася пазёмка.

Але батарэя ішла. Дакладней, не ішла, а ўжо прабівалася з цяжкасцю, таранячы перамеценую сумётамі дарогу. Мясцовасць была бязлеснай, з рэдкімі астравамі хмызнякоў. Снегу затрымацца не было дзе, акра-

мя як каля хмызнякоў. Таму стыхія, якая разбушавалася, менавіта тут і знаходзіла сабе прыстанішча. Гурбы самых мудрагелістых форм, быццам гіганцкія крэмавыя піражныя, незразумела як і адкуль узбеглі на дарогу, шчыльна ўсселіся на яе — не зрушыць.

Калона прасоўвалася марудна. Машыны, падбіраючы пад сябе снег, паўзлі і паўзлі наперад, месцамі прабуксоўваючы коламі, натужна равучы маторамі.

Людзі мерзлі. У кузавах без руху было не ўседзець. Пры кароткіх прыпынках або затрымках салдаты цераз барты валіліся ў снег, беглі ўслед за машынамі. Але і ад бегу цела не саграваліся, нягледзячы на тое, што на ўсіх былі валёнкі, ватныя штаны, фуфайкі пад шынялямі. Ад бегу чамусьці балелі ногі, абпальвала твар, забівала дыханне рэзкім халодным паветрам.

На адным з вымушаных прыпынкаў Гайда паклікаў да сябе Максіма і старшыну, разам пачалі раіцца, чым карміць людзей.

— Калі не пакормім салдат, могуць быць усякія нечаканасці,— звярнуўся Гайда да іх.

Максім задумаўся, а старшына, пераступаючы з нагі на нагу, нясмела сказаў:

— Я не супраць, таварыш капітан, але ж вы самі ведаеце — энзэ.

— А што вы прапаноўваеце? — спытаўся капітан.

— Пачакаць... Мо праб'ёмся да батальёна?

— Калі гэта будзе, старшына? — непаслухмянымі вуснамі сказаў Максім.— Сёння, заўтра ці на тым тыдні?

— Заносы, каб іх чорт пабраў,— вылаяўся Гайда.— Стыхія супраць нас — і нічога не зробіш. А задачу выконваць трэба. Ну дык як, старшына?

— Не ведаю, таварыш капітан. Я апрануў, абуў асабовы састаў. Зрабіў усё, што мог... Калі загадаеце...

— А як бы вы хацелі, каб я загадаў? — з усмешкай спытаў ён.

— Каб карміць асабовы састаў, таварыш капітан. Іншага выйсця няма. І ў запасе ў мяне яшчэ сёе-тое застанецца.

— Вельмі хітры вы, старшына, але і малайчына! — пахваліў яго Гайда.

Максім таксама прыязна зірнуў на старшыну.

Той сказаў сціпла, але з прыхаваным гонарам:

— Я ж гаспадар у батарэі. А які разумны гаспадар не мае на благі канец што-небудзь у запасе?

Сухія пайкі з энзэ адразу ж раздалі салдатам. Тыя, забіўшыся ў машыны, адкрывалі штыкамі ад аўтаматаў кансервы, елі з цвёрдымі, як камень, галетамі вострую, незвычайна смачную свіную тушонку. Паснедаўшы, батарэя рушыла ў дарогу. Але зноў жа, чым бліжэй да мэты, тым цяжэй. Усё часцей паўставалі на шляху ў рост чалавека заносы. І тады салдаты дружна, як мурашкі, накідваліся на дарогу з рыдлёўкамі, вызваляючы яе ад завалаў снегу. Працаваць хацелася кожнаму, але рыдлёвак не хапала. Вырашылі працаваць па ўзводах. Цяпер ужо не людзі рухаліся за машынамі, а машыны за людзьмі. Раскідаўшы гурбы на адным участку, салдаты адразу ж пераходзілі на другі. І зноў з азартнай лютасцю абрушваліся на снежныя гурбы, якія перагарадзілі батарэі шлях.

Так ішлі кіламетраў пяць. Гайда падганяў салдат, сам не шкадуючы сіл працаваў і асабістым прыкладам запальваў іншых. Ён, камандзір, павінен быў выканаць загад. Разумеў гэта і Максім і таму ўсяляк стараўся памагчы камандзіру. Але салдат прымушаць не даводзілася. Яны ведалі: калі не прабіцца на галоўную магістраль, да якой было яшчэ каля дзесяці кіламетраў, то будзе кепска ўсім. Ніхто не хацеў здавацца на літасць стыхіі ў гэтых бязлюдных і бязлесных мясцінах. Ды і дапамогі не было ад каго чакаць. Праехаўшы некалькі дзесяткаў кіламетраў, яны не сустрэлі ніводнага жылля. Толькі там-сям траляліся адзінокія за-

кінутыя хутары, відаць, яшчэ з «польскага часу». Але ў іх ужо даўно ніхто не жыў. І было штосьці жудаснае ў гэтых пакінутых людзьмі хутарах. Прыгадаліся Максіму неаднойчы бачаныя хаты ў беларускіх вёсках з забітымі вокнамі, пустымі хлявамі, абваленымі платамі, высокай, у рост чалавека крапівой на агародах. Прыгадаўся той востры незразумелы боль, які ўзнікаў у душы пры сустрэчы з такімі хатамі.

Але цяпер не было часу, каб разбірацца з уласнымі пачуццямі і настроем. Максім ішоў туды, дзе салдаты мітусліва адкопвалі дарогу. Рыдлёўкі яму не далі, толькі адмахваліся ад яго просьбаў і жартавалі:

— Вы нас, таварыш нампаліт, лепш ідэйна натхняйце.

— Напісалі б пра нас «баявы лісток».

— А то вернецеся дадому, пачнеце жонцы расказваць — не паверыць.

— Ды я пра вас бы кнігу напісаў, хлопцы. Шкада, вось не ўмею толькі,— у тон ім адказваў Максім.

— А вы Клыпе даручыце. Ён у нас усё можа,— жартавалі ў адказ.

Блізка ўжо падышлі да магістралі, але зноў надоўга заселі. У лагчыне дзве галаўныя машыны да самага кузава засыпала снегам. Маторы заглохлі. У глыбокім, па пояс, снезе амаль з паўкіламетра давялося нагамі, навобмацак, адшукваць дарогу, высякаць у снежным насціле тунель і выводзіць машыны.

Людзі выбіваліся з апошніх сіл. Ужо ніхто не жартаваў. Холад і работа забіралі ў людзей апошнія рэшткі энергіі. Працавалі моўчкі, з тупой упартасцю. Стаміўшыся, салдаты ўторквалі ў снег рыдлёўкі, хістаючыся, валакліся да машын, хаваліся ў кузавы ад сцюжы. На змену ім заступалі іншыя. Нават Бязродны і Возба прыйшлі памагаць. Але Гайда іх жартоўна-сурова адчытаў і зноў адправіў у машыну.

Максіму здавалася, што ён ні разу ў сваім жыцці

так не стамляўся, не выкладваўся да поўнай знямогі, як у гэты цяжкі дзень. У каленях з'явіліся непрыемныя дрыжыкі, рукі з цяжкасцю падымалі сыпкія глыбы снегу, крыху муціла і круцілася ў галаве — нібыта назаўтра пасля моцнай выпіўкі. Ён ненавідзеў сябе за сваё бяссілле, свой сыты, без фізічнай працы лад жыцця. Ён адвык пераносіць холад і голад, не трэніраваў даўно сваё цела. І вось настаў час, калі за ўсё трэба разлічыцца цалкам.

Максім абапёрся на рыдлёўку. Яе адразу хтосьці вырваў, і ён пахіснуўся, ледзь не ўпаў. Побач аж усё кіпела — салдаты расчышчалі снег. А ён усё стаяў і стаяў, не ведаючы што рабіць. Было сорамна каму-небудзь прызнацца ў сваёй слабасці, паказаць яе перад іншымі ў такі момант. Потым, з цяжкасцю перастаўляючы ногі, якія здаваліся празмерна цяжкімі, пайшоў уздоўж машын. Цягнула на ваніты. Ён пераламаўся ў поясе, засунуў палец у рот. Пачало коратка сутаргава торгацца цела, усё паплыло перад вачыма. «Толькі б не паваліцца». Затым ён грабянуў жменю снегу, пачаў расціраць твар. Аднак лягчэй ад гэтага не стала, а твар балюча пякло, як ад агню. І ён, зноў хістаючыся, быццам п'яны, падаўся далей. «Вады!.. Толькі глыток вады». І ў той жа час разумеў: вады ні ў кога няма. Апошнюю выпілі за снеданнем.

Каля адной з машын ён натрапіў на лейтэнанта Ціханава, які з рыдлёўкай ішоў насустрач. Убачыўшы нампаліта, ён спалохана спытаўся:

— Дрэнна вам, Максім Барысавіч, так?

— Ціха, маўчыце. Не кажыце пра гэта нікому... Пройдзе.

— Як жа гэта... Трэба штосьці рабіць.

— Ідзіце лепш туды,— кіўнуў галавой Максім у бок руху калоны.— Вы там патрэбны. Падбадзёрце людзей.

— Добра, я пабягу! Пра вас скажу камандзіру.—

І Ціханаў зашоргаў снегам, хутка знік у мяцеліцы. Максім хацеў крыкнуць, каб ён нічога не гаварыў капітану. Замест крыку атрымаўся сіплы выдых, ён сеў на прыступку машыны, прыхінуўся спіной да дзверцаў кабіны, неяк адразу ўвесь абмяк, пачаў правальвацца ў цёплую цёмную бездань.

Ачнуўся ён гэтак жа раптоўна, як і страціў прытомнасць. Быццам доўга-доўга спаў і вось трэба прачнуцца, а прачынацца не хочацца. Гайда прыўзняў яго, паставіў на ногі, пачаў трэсці за плечы, сярдзіта вымаўляючы:

— Вы звар'яцелі! Ці ж можна было садзіцца?!

— Прабачце, Віталій Захаравіч... Launch Ператаміўся... Зараз пройдзе.

Гайда зняў свае скураныя на футры пальчаткі, насунуў іх на замерзлыя рукі Максіму, паляпаў яго па твары гарачымі далонямі, абняў за плечы і павёў за сабой. У кабіне, якая захоўвала яшчэ нейкае цяпло, Гайда пасадзіў яго побач, дастаў рэчавы мяшок, з яго — салдацкі тэрмас у чахле і алюмініевую конаўку.

— Выпіце, толькі не спяшайцеся,— сказаў, як загадаў.

Максім дрыжачай рукой прыняў конаўку, пачаў піць маленькімі глыткамі. І адразу адчуў, як усярэдзіне нацяплела, а да сэрца прыліло нешта лагоднае і ўтульнае.

— Нічога, нічога,— падбадзёрыў яго Гайда.— Зараз лягчэй будзе.

І праўда — праз некаторы час у галаве зусім пасвятлела, па целе пабег гарачы ток, твар і рукі сагрэліся.

Гайда, хаваючы тэрмас у мяшок, сказаў:

— Гэтакую рэч у нашых умовах добра мець. Яна не адзін раз мяне выручала. Шкада, што не ўсе яе бяруць. А зімой, ды яшчэ на вучэннях, гэта проста іншы раз неабходна.

— З градусам? — здагадаўся Максім.

— Зусім крышку. Ледзь-ледзь.— І чамусьці моцна засмяяўся і падміргнуў Максіму: «Маўляў, нічога. Пераясывём». Смяялася ў ім усё: і вочы, і твар, і часночна-буйныя зубы. І многа было ў гэтым смеху яшчэ дзіцячага, гарэзлівага, непасрэднага, што ўтойвалася пад камандзірскай строгасцю і напускной суровасцю. Так хораша, проста было Максіму з Гайдай. Здавалася, яшчэ задоўга да вучэнняў яны даўно ведалі адзін аднаго і былі добрымі сябрамі.

— Колькі вам гадоў? — спытаў Максім.

— Дваццаць дзевяць.

— А мне дваццаць шэсць. Якія мы ўжо старыя камандзіры з вамі,— задумліва сказаў Максім і зноў засмяяўся.

У гэты час хтосьці забарабаніў па кабіне і крыкнуў:

— Таварыш капітан, дарогу расчысцілі. Можна рухацца.

Гайда, пакінуўшы Максіма, вылез з кабіны і знік разам з салдатам. Неўзабаве пачуліся адрывістыя каманды, галасы камандзіраў разлікаў і ўзводаў. Салдаты адзін за адным беглі да сваіх машын. Праз некалькі хвілін галасы сціхлі. Толькі ціха працавалі маторы.

Калона кранулася з месца, рушыла, набіраючы хуткасць, і ўжо праз паўгадзіны яны выехалі на галоўную магістраль.

На зыходны рубеж яны дабраліся, як сцямнела. Тут жа паступіла каманда «адбой». На гэты раз не давялося нікога ўгаворваць ставіць палаткі: Салдаты зрабілі гэта ўжо без яго.

## 21

Пад'ём быў нялёгкі. Разамлелыя ад сну і цяпла, салдаты ўставалі неахвотна. Краткалі, пацягваліся,

з цяжкасцю станавіліся на ногі і ныралі з палатак, як з лазні, у марозную стынь. Сон як рукой знімала. Твары цверазелі, ружавелі.

Бязродны выпаўз з палаткі на карачках, стаў, пацягнуўся, пазяхнуў соладка, сказаў:

— Ну, мужчынкі, не сон, а кайф! Усю хваробу адным махам выбіла.

— Дзякуй нампаліту. Каб не ён — хана была б табе,— сказаў Стральчэня.

— Хлопец ён што трэба! Нашынскі. З такім не прападзеш,— шматзначна сказаў Клыпа.

— Вось гэта я разумею — нампаліт. Усё дзеліць з намі: і голад і холад,— азваўся Птуха.

— Не тое што наш узводны — Мухін. Залез у кабіну, а вы — як хочаце,— з горкай крыўдай сказаў Папоў.

— Дарма ты, Леў, бочкі на нампаліта каціў. Папрасіў бы прабачэння,— параіў Клыпа.

— Так, няправільна я тады,— апусціў галаву Бязродны,— а цяпер няёмка. Можа як пры выпадку...

— Ён не крыўдуе, нампаліт наш. Чаго там,— прамовіў Птуха.

Максім, устаўшы, абтрос з шыняля прыліплыя саломіны, жменяй снегу вымыў твар, выцер яго насоўкай і накіраваўся да камандзіра батарэі.

Калі ўсе сабраліся, капітан Гайда суха павітаўся і сказаў:

— Камандзірам узводаў далажыць абстаноўку.

— У другім узводзе ўсё ў парадку,— першы адказаў Ціханаў.— Асабовы састаў гатовы да выканання задачы... Толькі вось пакарміць бы...

— Ведаю, таварыш лейтэнант. Не напамінайце па некалькі разоў,— перапыніў ён Ціханава.— А як у вас справы, лейтэнант Мухін?

— Нармальна. Настрой у салдат баявы.

Гайда звярнуўся да старшыны.

— Кузьма Савельевіч, з харчаваннем нічога не прадбачыцца? Чым людзей карміць будзем?

— Апошні энзэ, таварыш капітан. Сухія пайкі.

— Выдаць неадкладна!

— Ёсць выдаць! — выцягнуўшыся ў струнку, і гатоўнасцю выпаліў Смірноў.

— Камандзірам узводаў пастроіць людзей.

Праз некалькі хвілін батарэя стаяла ў дзве шарэнгі. Капітан павітаўся, затым пайшоў блізка ўздоўж строю, кожнаму заглядваючы ў твар, каму папраўляючы скамечаны пагон, каму скрыўленую папружку, каму петлі, што развязаліся на шапцы. Астатнія, не чакаючы яго дапамогі, зашпільвалі верхнія кручкі шыняля, тужэй зацягвалі папругі, разгладжвалі пакамечанае адзенне. Нікому не зрабіўшы заўвагі, капітан Гайда спытаў:

— Хворыя, абмарожаныя ёсць?

— Няма,— пачулася некалькі галасоў у адказ.

— Адзін ёсць! — гэта сказаў Клыпа.

— Хто? — спытаў капітан.

— Бязродны.

— Не слухайце яго, таварыш капітан,— запратэставаў Бязродны.— Хлусіць Клыпа. Гэта ўчора было, а сёння я здаровы.

— Кожны за сябе адказвае,— сказаў капітан.

— Што ты сунеш нос, куды цябе не просяць,— зашыпеў на яго Бязродны.

— Я ж табе памагчы хацеў, дурань. Сачкануў бы,— апраўдваючыся, шапнуў яму Клыпа.

— Сам ты дурань! Навошта мне такая дапамога! Табе трэба, ты і сачкуй.

— Спыніць размовы! — строга сказаў капітан і пасля паўзы працягваў: — Прашу ўвагі, таварышы. Зараз вам выдадуць сухія пайкі. Паўгадзіны на снеданне — і зноў баявы марш.

Пачуліся галасы, у якіх гучала то просьба, то нават нараканні:

— Гарачанькага б, таварыш капітан!

— Баршчу кацялок!

— Кішкі марш іграюць.

— Што гэта такое?! Хіба можна столькі часу без гарачага.

— Ведаю, таварышы, аб усім ведаю. Я сам на такіх жа правах, як вы. Відаць, нешта здарылася. Я далажыў пра гэта ў штаб... Прашу вас набрацца мужнасці і волі. Сёння апошні і самы цяжкі дзень нашых вучэнняў. Ад вашых дзеянняў залежыць наш поспех.

Батарэя панура і хмура маўчала. Капітан Гайда працягваў:

— Слухайце аператыўную абстаноўку на сем раніцы. Войскі «паўднёвых» прарвалі абарону «паўночных», увялі ў бой новыя рэзервы і перайшлі ў пагоню за праціўнікам на паўднёва-заходнім кірунку. «Паўднёвыя» развіваюць наступленне імкліва і на шырокім фронце. Задача батарэі пры фарсіраванні «Нёмана» — прыкрыць ■ паветра танкавы батальён, які глыбока ўклініўся ў абарону праціўніка. Задача ясная?

— Так точна! — адказалі камандзіры ўзводаў і разлікаў.

— А цяпер снедаць. Праз дваццаць хвілін па машынах.

Палаткі знялі і згарнулі, печкі разабралі. Салому і галлё расцягалі па машынах. Салдаты залазілі ў цягачы і снедалі. Максім таксама хацеў падсілкавацца і пайшоў да старшыны па сухі паёк. Па дарозе ўбачыў Бязроднага, які спяшаўся яму насустрач.

— Таварыш нампаліт, дазвольце звярнуцца.

— Як ты сябе адчуваеш? — у адказ спытаў Максім.

— На вышэйшым узроўні... Дзякуй вялікае вам!.. За ўсё дзякуй!

— Давай без сентыментаў, Леў. Мы ж салдаты. А салдат павінен быць шчодры на дапамогу, на выручку, на дружбу.

— Вы мне даруйце, што я тады бочкі на вас каціў.

— Вось дзівак! — засмяяўся Максім.— І словы якія ў цябе: «бочкі каціць».

— Ну, гэта я на жаргоне.

Максім паклаў яму руку на плячо, сказаў:

— Забудзем пра гэта, Леў. Лепш скажы — чаму ты такі ўзвінчаны?

— Чаму я такі?.. Хіба ўсё раскажаш? Жыццё мяне такім зрабіла.

— Раскажы... Калі табе гэта не вельмі цяжка.

— Цяжка, таварыш нампаліт. Вельмі цяжка... Але я раскажу вам... Чалавек вы добры... Зразумееце.

— Ты паёк атрымаў? — спытаўся Максім, перабіваючы яго думкі.

— Атрымаў.

— Ну ідзі. Я пайду забяру свой — і да вас у машыну. Там і пагутарым.

— Прыходзьце. Мы саломкі паслалі.

Бязродны пайшоў. Максім, пастаяўшы ў роздуме, глянуў у неба: які ж будзе дзень? Гэта было вельмі важна. Пры дрэнным надвор'і баявая работа амаль ніколі на выдатна не ўдаецца. А добрай стральбы і чакаць няма чаго. Але гэты апошні дзень абяцаў быць сонечным. Шэра-шызая імгла рассейвалася. На небасхіле, дзе павінна было паказацца сонца, засвятлела цьмяным серабром. Па снезе пайшлі лілова-сінія цені. Гэта радавала і абнадзейвала. Хацелася, каб батарэя адстралялася добра.

Атрымаўшы паёк, Максім адшукаў разлік, у якім быў Бязродны, і залез у кузаў цягача. Праз некалькі хвілін калона рушыла. Салдаты пацясніліся, каб вызваліць яму месца, але Максім адмовіўся і сеў на лаўку побач з Бязродным. Амаль усе елі свіную тушонку

з хлебам або галетамі. Паеўшы, гаманілі, курылі. Толькі Бязродны быў маўклівы, забіўся ў куток і не ўмешваўся ў гутарку.

— Развярэдзіў я табе душу, Леў. Пастарайся ні аб чым не думаць,— параіў Максім.

— Не, таварыш нампаліт. Я сваю душу ад людзей на замку трымаю. А вось сустрэў вас — і адразу адамкнуць яе захацелася.

Твар яго быў задуменны і сумны.

— Усякія людзі ёсць,— сказаў Максім.— Але не ўсе ж яны злыя. Наадварот, больш добрых, спагадлівых.

— На апошніх мне якраз і не шанцавала,— адгукнуўся Бязродны і, памаўчаўшы, працягваў: — Мне гадоў восем было, калі бацьку ўзялі... І людзі, як звяр'ё, на нас глядзець сталі. Што б у каго ні здарылася — адразу да нас. Абабралі ў кагосьці вішню — Бязродныя. Укралі веласіпед — Бязродныя. Бойку ўчынілі — Бязродныя. Нас трое ў маці было. Я самы малодшы. А таго не хацелі ведаць, што мы ні да зладзейства, ні да хуліганства ніякіх адносін не мелі. Крыўдна вельмі было. Маці, бывала, плача, клянецца, божыцца, што не мы. Ды дзе там! Вось тады, як падрос я, і пачаў помсціць. Усё назло рабіў. Вучыцца дрэнна стаў — назло. Біўся — назло. І ўжо не мог інакш. Усё ў мяне кіпела і пякло ўсярэдзіне.

— У калонію за што трапіў? — спытаўся Максім.

— Было такое... Настаўніка пабілі. Ён з мяне здзекаваўся. Аднойчы ударыў і выгнаў з класа. З таго часу я і ў школу не пайшоў. А яго мы злавілі з хлапчукамі і ўвалілі па самую завязку. Біў я яго са смакам, з ахвотай. Усё больш нагамі стараўся. Куды папала. Але памятаю, стараўся ў жывот. Як цяпер бачу: скурчыўся ён, закрыўся рукамі і просіць: «У твар, у твар не біце!»

— І не шкада было?

— Не. Нікольні... Цяпер шкада, калі ўспамінаю. А тады забіць хацелася. Не верыцца, што я на такое быў здольны. Вось за гэта мяне і пасадзілі.

— А [redacted] бацькам што?

— Нічога пра яго не чулі, не ведалі... Пасля рэабілітавалі. Маці пенсію цяпер за яго атрымлівае. Толькі каму ад гэтага лягчэй?..

— Не трэба так,— уздыхнуўшы, заўважыў Максім.— Ведаеш, як сказаў Расул Гамзатаў: «Калі хто выстраліць у сваё мінулае з пісталета, у таго будучае выстраліць з гарматы».

— Я не магу яго забыць, сцерці з памяці. Яно мне, як атрута, як стрэмка ў сэрцы. Што б ні рабіў, чым бы ні займаўся — заўсёды коле. Як хвароба, ад якой немагчыма вылечыцца...

— Быў цяжкі час, Леў.

— Усё гэта так, таварыш нампаліт. Толькі бацьку мне ніхто не верне.

— Так, не верне,— згадзіўся Максім і змоўк.

Маўчалі ўсе. Ніхто не адважваўся гаварыць. Машыну не трэсла, не гайдала, а толькі лёгка пакалыхвала. Ехалі праз нейкую вёску. Запахла дымам, хлебам, жывёлай і сенам. Каля хат стаялі людзі, прывітальна махалі рукамі. Нейкая жанчына выбегла з гарлачыкам малака, спрабавала спыніць машыны. Але ніводная не спынілася. І жанчына засталася ў здзіўленні стаяць, пакуль міма яе не прайшла ўся калона.

За вёскай, непадалёку ад дарогі, на голым выгане занялі пазіцыю. Развіднела. З-за хвалістай палоскі лесу, на даляглядзе ўставала светлая зарыва, афарбоўваючы пяшчотна-ружовым колерам паўнеба. На снежную раўніну, якая ўзнімалася гурбамі і сумётамі снегу, сцякала тонкая чырвань, шырока разліваючыся на ўсход асляпляльным сонечным разлівам.

Зенітчыкі задзіралі галовы, жмурыліся, з нецярп-

лівасцю пазіраючы туды, дзе павінна было вось-вось вылупіцца са шчыльнай воблачнасці сонца. Паветра поўнілася гучнымі воклічамі, загадамі і камандамі.

Трэніраваліся па зямных, а калі ляталі самалёты, па паветраных цэлях. Больш за ўсіх стараліся наводчыкі: ад іх залежала, як і з якой ацэнкай закончыць вучэнні батарэя.

Гадзін у дзесяць на пазіцыю пад'ехаў штабны газік. З яго выйшлі тры афіцэры. У адным Максім пазнаў Мяцельскага, у другім — камандзіра часці. Трэці быў невысокага росту, у папасе, з чырвонымі лампасамі на штанах. Адразу зразумеў, што прыехала высокае начальства, і пачаў вачыма шукаць камандзіра батарэі. Але капітан Гайда быў на гармаце восьмага разліку, і ўжо, калі б яго і папярэдзіў Максім, не паспеў бы далажыць.

Афіцэры і генерал, пакінуўшы машыну на дарозе, не спяшаючыся, набліжаліся да батарэі. Але Максім не разгубіўся.

— Батарэя, смірна! — крыкнуў ён і памчаў ім насустрач.

Падбегшы зусім блізка, Максім пераканаўся ў сваіх меркаваннях: генерал! Толькі твар у яго быў зусім не генеральскі: дабрадушна-мяккі, задуменны, з крыху стомленымі вачыма пад сівымі бровамі.

— Таварыш генерал, зенітная батарэя адпрацоўвае навыкі баявой падрыхтоўкі, рыхтуючыся да паспяховага выканання задач на вучэннях. Нампаліт батарэі, старшы лейтэнант Александровіч,— далажыў ён.

— Вольна,— сказаў генерал.

— Вольна! — крыкнуў Максім да батарэі.

Генерал, прывітаўшыся з ім за руку, спытаў:

— Дзе камандзір?

— На гармаце, таварыш генерал,— і паказаў рукой на пазіцыю.

Капітан Гайда, прытрымліваючы камандзірскую сумку, што боўталася на баку, бег да начальства.

— Як справы ў батарэі, таварыш старшы лейтэнант? — запытаў генерал.

— Выдатна, таварыш генерал! — бойка адказаў Максім.

— А канкрэтна?

— Асабовы састаў у поўнай баявой гатоўнасці. Салдаты апрануты, абуты!

— І добра накормлены,— падказаў генерал.

— Ніяк не, таварыш генерал... Не накормлены.

— Што-о-о? — са здзіўленнем перапытаў ён.— Як гэта разумець?..

— Не накормлены, таварыш генерал,— ужо смялей паўтарыў Максім.

— Чаму? — спытаўся ён і павольна павярнуў твар да камандзіра часці.

Той пабялеў, напружана выцягнуўся па стойцы «смірна», прыціснуўшы рукі да тулава, прамовіў:

— Намеснік па тылу праінфармуе, таварыш камандарм.

— Растлумачце, нампаліт, па сутнасці,— звярнуўся да Максіма генерал.

— За трое сутак толькі адзін раз гарачым пакармілі асабовы састаў. Да каго прыпісаны на забеспячэнне — невядома,— дакладваў ён, загадзя ведаючы, што цяпер Мяцельскаму ўжо непаздаровіцца.

— Добра, нампаліт,— спыніў яго камандарм.— Што вы скажаце наконт гэтага ў сваё апраўданне, таварыш падпалкоўнік? — ускінуў ён вочы на Мяцельскага.

— Таварыш генерал, тут няўвязка. Батарэю замацавалі за штабной кухняй, а яна затрымалася... машына зламалася... Прымаем меры.

— Позна прымаць меры, падпалкоўнік. Перавядзём нашу гутарку на мову ваеннага часу і зробім

вывады. Вы падлягаеце разжалаванню. Вам зразумела?

Ніжняя сківаца ў Мяцельскага адвалілася, адкрыўшы знямелы рот, нерухомы позірк атупела і спалохана спыніўся на твары камандарма.

— За што, таварыш генерал? — збялеўшы, як крэйда, прахрыпеў Мяцельскі.

— За вашу расхлябанасць! За ваша разгільдзяйства! За нядзольнасць арганізаваць дзеянні падначаленых вам тылавых падраздзяленняў! Вы ж самі франтавік. І няўжо не разумееце, што мы сёння як на вайне?! А ў вас трое сутак людзі не кормлены! Папаліся б вы мне ў сорак першым, я б вас пад трыбунал аддаў!

Камандарм быў суровы, гнеўны і грозны, і Максіму не без унутранай радасці здавалася, што ён вось-вось сатрэ ў парашок Мяцельскага.

Астыўшы, пагасіўшы ў сабе гнеў, генерал спытаў:

— Вы даўно ў арміі?

— Дваццаць чацвёрты год,— разгублена і паспешліва адказаў Мяцельскі.

— Вам ужо нямнога засталося, таварыш падпалкоўнік,— роўным голасам сказаў генерал.— Я вам магу памагчы даслужыць да пенсіі.

Ён павярнуўся і пайшоў да машыны.

Услед за ім накіраваліся камандзір часці і Мяцельскі.

— Можа, не трэба было так... гаварыць аб гэтым камандуючаму,— са спачувальным выразам на твары спытаў яго Гайда.— Усё ж франтавік... Вайну прайшоў...

— Тым больш, Віталь Захаравіч. Павінен паважаць людзей і клапаціцца пра іх...

І ён моўчкі накіраваўся на пазіцыю, адчуваючы прыкрую няёмкасць.

# 22

Апоўдні на небасхіл прарвалася сонца і бела-сярэбраным ззяннем разлілося па ваколіцы. Заблішчаў, загарэўся снег, пераліваючыся крышталёвымі блікамі. Ад сонечнага бляску балюча рэзала і сляпіла вочы. Салдаты жмурыліся, з-пад прыкладзеных да лба далоняў паглядалі ў ачышчаную празрыста-блакітную сінечу неба.

Кіламетраў на пяць ад батарэі праглядвалася раўніна, усеяная драбналессем і хмызняком. Усю прастору займалі падраздзяленні, якія чакалі каманды да наступлення. Максім хваляваўся.

І раптам усё прыйшло ў рух. Танкавы батальён, які пагрозліва маўчаў, прытаіўшыся, рушыў з месца. І дзесяткі машын грознымі пачварамі папаўзлі наперад. За танкамі чорнымі рухомымі кропкамі рынулася пяхота.

Зямля пад нагамі ў Максіма дрыжала. Ад магутнага гулу матораў, лязгу гусеніц нешта падобнае на страх, учэпіста і балюча, сціснула сэрца, халоднай сутаргай пракацілася па спіне. І ў гэты момант ён чамусьці падумаў пра бацьку.

Можа, вось такім жа ясным зімовым днём, дзе-небудзь пад Варшавай, ішоў ён у атаку. Усё навокал танула ў смуродным дыме. Стагнала зямля ад разрываў снарадаў. А ён ужо не адчуваў ліпкага страху, толькі бег... Бег спатыкаючыся, падаў у снег, абліваючыся потам, узбуджаны шалёнай злосцю, з адным жаданнем дасягнуць варожай траншэі. Але дабегчы яму не ўдалося. Як спатыкнуўшыся, спыніўся раптам, магчыма, паспеў падумаць: «Як усё проста. І не баліць, і не страшна». І не ўпаў, а лёг у снег, як у мяккую пасцель, павольна, стомлена, у забыцці.

— Па машынах! — крыкнуў Гайда, вывеўшы Максіма з задумення.

Ён механічна паўтарыў каманду камандзіра і рыўком кінуўся ў кабіну.

Батарэя рванулася з месца і на ўсёй хуткасці памчала за батальёнам, разгортваючыся з паходнага маршу ў баявы парадак. Машыны на вялікай хуткасці трэсла, падкідвала ўгару, гайдала з боку на бок. Усё навокал загрукатала, загаварыла галасам вайны. Цяжка, са стогнам-уздыханнем білі гаўбіцы. Гучна, з кароткім рэхам, вухкалі танкі. Часта і дробна, з перабоямі, дзяўблі паветра мінамёты. Няспынна трашчалі кулямёты. З аглушальным звонам і выццём, нізка над зямлёй, як маланкі, праносіліся знішчальнікі. Густымі рванымі камякамі віўся смуродны дым.

Але вось з галоўнай машыны выскачыў капітан Гайда, махнуў сцяжком. Машыны тузануліся на мёртвым ходу і сталі. Максім выскачыў з кабіны і тут жа пачуў:

— Батарэя — газы!

Салдаты выскоквалі з машын, даставалі з сумак процівагазы, нацягвалі на твары і кідаліся да гармат. Наводчыкі тут жа прыліплі да акуляраў, накіроўваючы ствалы ў той бок, адкуль чакаўся праціўнік. Зараджаючыя вымалі са скрынак абоймы з патронамі, цягнулі да гарматы.

Максім з цяжкасцю насунуў на твар процівагаз, гума якога настыла на марозе, моцна сцягвала і апякала скуру. І тут жа на батарэю шчыльнай сцяной папоўз удушлівы дым. На некалькі хвілін усё патанула ў яго густой сіне-чорнай імгле: і гарматы, і машыны, і людзі.

Максім нерваваўся, бегаў ад разліку да разліку, нецярпліва чакаў, калі, нарэшце, рассеецца дым і прыйдзе каманда зняць процівагазы. З-за далягляду ўжо чуўся далёкі гул самалётаў. Затрымаецца яшчэ на некалькі хвілін гэта беспрасветная дымная імгла — і стральба можа пайсці на марна.

Але дымная заслона раптам знікла, вярнуўшы людзям сонца і свежае паветра. І праз некалькі хвілін пачулася каманда:

— Зняць процівагазы! Да бою!

Максім ірвануў шлем з галавы, прагна глынуў паветра і пабег да гарматы. Стральчэня, Птуха, Папоў, Бязродны і Клыпа сядзелі засяроджаныя, маўклівыя, закрываючы казырком далоні вочы ад сонца і гледзячы туды, адкуль з хвіліны на хвіліну павінны былі паказацца самалёты.

А гул усё нарастаў, набліжаўся, абуджаючы нейкае нецярпліва-радаснае хваляванне. Але на бляклавыцвілай, асляпляльнай бездані неба самалёта пакуль не было.

— Не празяваць бы,— устрывожана сказаў Стральчэня.

— Пабяражы штаны на потым,— спакойна сказаў Бязродны, уважліва назіраючы за вугламерам.

— Наводчыкі, будзьце ўважлівыя,— падаў голас Максім.

— Гэта вы, таварыш нампаліт? — адгукнуўся Клыпа, не адрываючыся ад небасхілу.— Не турбуйцеся. Я сваё слова стрымаю.

— Я сваё таксама,— нагадаў яму Максім і паглядзеў на Папова, які стаяў каля гарматы і таксама ўважліва, як усе, з нецярплівым хваляваннем, чакаў з'яўлення самалёта.

— Ну што, Адам?.. Можа, хопіць стаяць убаку? — спытаўся Максім.

— Не ведаю, таварыш нампаліт,— адказаў ён, глянуўшы нампаліту ў твар.

І як паспеў заўважыць Максім — у вачах Адама калыхнуліся пакутлівы боль, замяшанне, разгубленасць. Разам з тым было прыкметна вострае жаданне перамагчы сябе, сваё сумненне, страх.

— У цябе, Адам, цяпер ёсць магчымасць... адзіная,

можа, у жыцці, калі ты можаш стаць паўнапраўным грамадзянінам і салдатам.

— Што я павінен зрабіць, таварыш нампаліт?

— Сесці за гармату і страляць,— не спускаючы з яго вачэй, сказаў Максім.

— А што пасля? — запытаў ён разгублена.

— Пасля будзе відаць,— сказаў Максім.— Час не чакае, Адам. Праз некалькі хвілін пачнецца стральба.

Папоў колькі секунд пастаяў у роздуме, потым рашуча пайшоў да гарматы.

— Злазь, Стралец,— сказаў ён зараджаючаму.

— Ты што?.. Чокнуўся?.. Табе ж няможна,— са здзіўленнем прамовіў Стральчэня.

— Саступі яму месца,— сказаў Максім.

— Таварыш нампаліт, я не супраць. Але ж ён не зможа... І потым, я сам хачу пастраляць,— пакрыўджана запратэставаў ён.

— Зможа! Не час развважаць. Памажы яму зарадзіць! А ты яшчэ настраляешся.

І раптам праз гарматны грукат, гул самалётаў, трэск аўтаматаў Максім пачуў каманду «зараджай».

— Зараджай, Папоў! — крыкнуў Стральчэня і пачаў памагаць яму ўзводзіць замок. Яшчэ не паспелі яны засунуць абойму са снарадамі, як зноў павіс голас камандзіра батарэі:

— Першы разлік, агонь!

І недзе побач некалькі разоў запар вухнула моцна, але прыглушана, балюча ўдарыўшы па вушах і заклаўшы іх, нібы ватай.

— Другі разлік, агонь!

І зноў паўтарылася тое ж. Максім разявіў рот.

Праз кароткія прамежкі часу адна за адной стралялі гарматы. У сонечнай глыбіні нябёсаў было відаць, як сінімі воблачкамі разрываюцца снарады спераду, ззаду, з бакоў самалётнага макета.

— Восьмы разлік, агонь!.. Агонь! — гаркнуў сяржант, які стаяў побач, і Максім зноў адчуў тугія, з калючым болем, штуршкі ў вушах і толькі потым пачуў: «Дуг, дуг, дуг, дуг!» Пасля кожнага стрэлу гармата ліхаманкава ўздрыгвала, тузалася. І ўслед за тым надышла цішыня, незвычайная, раптоўная... Запахла прыкра едкім пахам гарэлага пораху і масла. Пачарнелыя ад сажы латунныя гарачыя гільзы кучай ляжалі на зямлі, расплаўляючы снег. Але ўсё яшчэ сядзелі на гармаце маўклівыя і нейкія расслабленыя салдаты.

Першы падняўся Папоў. Ён, не спяшаючыся, злез з гарматы, адышоўся ўбок і сеў на заснежаную купіну. Што з ім здарылася? Аб чым ён думаў у гэту хвіліну? Што перажывала яго разгубленая душа? Ўсе разумелі, што Папоў зрабіў вельмі важны крок. Але ніхто не ведаў: застанецца ён ранейшым ці перародзіцца з гэтай хвіліны.

Не ведаў пакуль гэтага і Максім. Ён падышоў да Папова, сеў побач, абняў яго рукой за плечы, сказаў:

— Не засмучайся, Адам... Радуйся!..

— Мне нялёгка, таварыш нампаліт... Я на веру прысягу даваў.

— Дык то ж на веру. А сёння даў на вернасць Радзіме.

— Віншую цябе, Адам! — аблапіўшы яго, прамовіў Птуха.— Ад усіх камсамольцаў віншую.

— Ну што, Папоў, з цябе пляшка. Ты сёння салдатам стаў! — падбег да яго, крычучы, Бязродны.

Клыпа працягнуў гільзу ад снарада і, тыкаючы пад нос Папову, свавольна і жартаўліва прыгаворваў:

— Нюхай, нюхай, аблудная авечка!.. Отрак божы! Далучайся!.. Ахрысцілі мы цябе нашай пушачкай-зеніткай, пасвяцілі парахавым дымком і на шлях сапраўдны наставілі.

Папоў канфузліва ўсміхаўся, моршчыўся і чамусьці маўчаў.

— Таварыш нампаліт,— сказаў Стральчэня,— дык можа заадно і прысягу няхай прыме.

— Прымусіць я не маю права,— адказаў ён.

— Як наконт прысягі? — спытаў Папова Птуха.

— Ды што ён, горшы за іншых?.. Прыме,— сцвярджальна сказаў Клыпа.

— Хіба я не салдат, скажы, Адам? — з вясёлай бравадай заўважыў Бязродны.

Папоў устаў, канфузліва-разгублены, прасветлена-радасны.

Максім прабег позіркам па ўзмужнелых, пасуравелых, прадубленых марозамі тварах, сказаў у думках самому сабе: «Вось бачыш, Максім. Месяц назад гэта было зборышча людзей. Цяпер жа перад табой воінскае падраздзяленне. На сваіх хлопцаў ты можаш смела спадзявацца».

У гэты час з-за лесу паказаўся верталёт, які ляцеў у напрамку батарэі. У моцным шуме матора глухлі, прападалі, раствараліся галасы салдат. Усе падыходзілі і віншавалі Папова. Ён, ашаломлены, сціскаў і сціскаў працягнутыя рукі.

А верталёт ужо садзіўся за некалькі метраў ад батарэі, напаўняючы паветра шумам і грукатам матора, выдзімаючы пад сабой да самай зямлі снег. Усе з цікавасцю назіралі за ім, чакалі пасадкі.

Капітан Гайда разумеў, што да іх зноў прыехала высокае начальства, пастроіў батарэю, нецярпліва пераступаў з нагі на нагу. Але вось верталёт мякка і плаўна апусціўся і заціх.

З яго выйшаў ужо знаёмы невысокі генерал у суправаджэнні трох палкоўнікаў. Капітан Гайда аддаў батарэі каманду, смела і чотка далажыў камандарму. Той ветліва прывітаўся з капітанам. Услед за ім прывіталіся палкоўнікі, у тым ліку і камандзір палка. У душы Максіма варухнулася міжвольная зайздрасць: «Чаму цяпер не я на месцы капітана?»

— Добры дзень, таварышы зенітчыкі! — прывітаўся камандарм.

— Здравія жадаем, таварыш генерал! — у адзін голас крыкнула батарэя. І ўсё злілося ў адным моцным воклічы, які хваліста пракаціўся і заглух аддаленым рэхам.

— Віншую вас з выдатнымі поспехамі на вучэннях!

— Служым Савецкаму Саюзу! — адказала батарэя, і за Нёманам, у лесе, паўтарылася рэхам.

— Малайцы, зенітчыкі! Малайцы! — пахваліў камандарм.— Добра стралялі. Нават трос перабіць умудрыліся... Ану, капітан, пакажы мне восьмы разлік. Што за арлы ў цябе там?

— Восьмы разлік, выйсці са строю на чатыры крокі! — скамандаваў Гайда.

Чаканячы крок, выйшлі Бязродны, Стральчэня, Птуха, Клыпа, Папоў і сяржант — камандзір гарматы.

— Дзякуй вам, сынкі, за стральбу,— прагаварыў ён проста і ціха і кожнаму паціснуў руку, а капітану сказаў: — Туды, дзе працуюць гэтыя арлы, напішыце пісьмы з падзякай.

— Ёсць напісаць пісьмы! — казырнуўшы, сказаў капітан Гайда.

Камандарм на імгненне задумаўся, прабег позіркам па тварах салдат, быццам некага шукаў, потым пільна паглядзеў на Максіма. Той падцягнуўся, прыўзняў галаву, смела паглядзеў у вочы камандарму.

— Мне здаецца, мы ўжо сустракаліся? — падышоўшы ўшчыльную, спытаў ён Максіма.

— Старшы лейтэнант запаса Александровіч, таварыш генерал,— бойка адрапартаваў ён.— Намеснік камандзіра батарэі па палітчастцы.

— Памятаю. Тэрміновую служылі?

— Так точна, таварыш генерал!

— Ну, а чаму ж пасля тэрміновай у вучылішча не падаліся? За гэты час ужо маглі б палкоўнікам стаць.

Салдаты засмяяліся. Суправаджаючыя камандарма стрымана ўсміхнуліся.

— З другога курса інстытута, таварыш генерал, я добраахвотна пайшоў служыць. А пасля арміі інстытут заканчваў...

— Як гэта — добраахвотна? — здзіўлена перапытаў камандарм.

— Тады многіх хлопцаў прызывалі з інстытутаў. Праўда, нашых не чапалі, у нас была ваенная кафедра. Але я вырашыў адслужыць. Прыйшоў у ваенкамат. Праз тры дні ўжо быў салдатам.

— Та-ак, — задуменна вымавіў камандарм. — А што, калі мы вас цяпер запросім?.. Яшчэ не позна. Павысім у званні, дадзім батарэю...

І, звярнуўшыся да камандзіра палка, спытаў:

— Як вы на гэта глядзіце?

— Нам бы пабольш такіх нампалітаў, таварыш генерал...

— Я не гатовы так адразу адказаць, таварыш генерал,— пачырванеў Максім.

— Не спяшайцеся. Падумайце, парайцеся з жонкай. Пра сваё рашэнне паведаміце,— сказаў камандарм.

— Дзякую за прапанову, таварыш генерал. Я падумаю.

Голас Максіма задрыжаў ад хвалявання. Камандарм развітаўся з Максімам за руку і, пажадаўшы ўсім поспехаў і здароўя, паляцеў далей.

А зенітная батарэя ад радасці не ведала што рабіць. Салдаты куляліся, валтузіліся ў снезе, штурхалі адзін аднаго, віншавалі шчаслівчыкаў восьмага разліку.

Каб не перашкаджаць салдатам весяліцца, капітан Гайда ўзяў пад руку Максіма і павёў берагам замёрзлай ракі.

— Ну, вось, Максім Барысавіч,— і ўсё... Вучэнні

скончыліся. Хутка агульнае пастраенне, абед і марш... Дадому.

— А ведаеце, Віталь Захаравіч, шкада мне пакідаць батарэю. Такое адчуванне, быццам губляю штосьці надзвычай важнае ў жыцці. Прывык да хлопцаў.

— Паслухай, Максім! — раптам перайшоў на «ты» Гайда,— а можа, і сапраўды падавайся да нас у полк?.. У рэшце рэшт трэба ж камусьці мерзнуць, галадаць, уставаць па трывозе ноччу з цёплых ложкаў, вучыць і выхоўваць салдат. Я разумею, на гэта здольны не кожны. Афіцэр павінен многім ахвяраваць...

— Не прыспешвай, Віталь,— сказаў Максім.— Лічы, што ў думках сваіх я ўжо ў арміі. Але, калі б ты ведаў, як цяжка мне будзе нанава пачынаць жыццё!

— Нічога, адолееш! — падбадзёрыў яго Гайда.— Чалавек да ўсяго прывыкае. А тым больш, калі любіць сваю справу.

Хацелася моцна, па-мужчынску абняць Гайду і сказаць: «Выдатны ты камандзір, Віталь, і добры хлопец. Я рады, што з табой пазнаёміўся...» Але ён толькі падумаў гэтак, а сказаў зусім іншае:

— Дажыць бы да тых дзён, калі не будзе ні ракет, ні танкаў, ні гармат. Калі людзі на зямлі забудуць, што такое вайна... Як ты думаеш, Віталь, ці настане калі-небудзь такі час?

— Калі б я не верыў у гэта, я б не служыў у арміі. Жыць трэба з надзеяй, з верай у розум чалавека. Інакш навошта тады жыць?

Максім хацеў нешта сказаць, але не паспеў:

«Па машына-а-ах!!!» — ад калоны да калоны панеслася рознагалосая каманда.

— Вось і дадому, Максім,— з радасцю сказаў Гайда. І яны пабеглі да машыны.

**Жалязоўскі А.**
**Ж 51 Пералом: Аповесць.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 159 с.— (Першая кніга празаіка).**
50 к.

Аповесць «Пералом» Анатоля Жалязоўскага — першая кніга маладога празаіка. У цяжкую зімовую пару адно з воінскіх падраздзяленняў, у якое прызваны рэзервісты, удзельнічае ў баявых вучэннях. Нялёгка, няпроста маладым хлопцам выканаць баявое заданне...

Для аповесці характэрны дынамічны сюжэт, вострыя характары, займальнасць.

**Ж $\frac{70303-055}{М\ 302(05)-81}$ 31—81**

**ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

*Первая книга прозаика*

Анатолий Петрович Железовский

ПЕРЕЛОМ

Повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Г. В. Нужкова. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 915

Здадзена ў набор 11.04.80. Падп. да друку 02.03.81. АТ 07524. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,45. Ул.-выд. арк. 7,30. Тыраж 6000 экз. Зак. 620. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Жалязоўскі Анатоль Пятровіч нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Крапіўна Аршанскага раёна. Скончыў сярэднюю школу на радзіме і адразу пайшоў у Савецкую Армію. Потым вучыўся ў Мінску ў інстытуце фізічнай культуры.

У розны час працаваў грузчыкам, слесарам, рознарабочым, супрацоўнічаў з рэдакцыямі газет і часопісаў. Першыя літаратурныя творы Анатоля Жалязоўскага надрукаваў часопіс «Маладосць».

Зараз А. Жалязоўскі жыве і працуе ў Мінску.

«Ператом» — першая кніга маладога празаіка.



50 к.